

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 24 (13504)

10—16 чэрвеня 1991 года

Цана 35 кап. (па падпісцы—20 кап.)


Пра гэтага хлопца два гады таму пісалі рэспубліканскія і цэнтральныя газеты. Салдат, які павінен быў загінуць у Афганістане чатыры разы на працягу сутак, але застаўся жывым. Яго імя Леанід Булыга, жыве ў Салігорску, гадуе сына, стараецца забыцца пра ўвесь той жах, у які кінула яго жыццё. Працуе ва універмагу ўпакоўшчыкам паперы, атрымлівае 50 рублёў плюс пенсія і чакае абяцанай работы ў камбінаце надомнай працы. Лёс, пакалечаны вайной, якіх сотні і ў той жа час унікальны па-свойму.

Аб чым жа шуміце, мужы ад палітыкі? Ламаючы коп'і ў палемічным азарце, спыніцеся. Бачыце, дзве пары вачэй уважліва ўглядаюцца ў заўтра. Што там?

Фота Сяргея БРУШКО.

## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

# ФАКТ

*Тыдзень парламента*

# Былі больш вострыя дэбаты...

ЯШЧЭ месяц назад аб гэтым законапраекце дэпутаты ўсур'ёз не задумваліся. Нават у парадак дня ён быў унесены толькі дзякуючы настойліваму націску Камісіі па справах моладзі. А ў аўторак аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Вярхоўным Савеце загаварылі ў вельмі паважлівых танах. Згодна з выступленнямі, закон наспеў даўно. Як падкрэсліў дэпутат А. Мардашоў, гэты праект асабліва патрэбны пры пераходзе да рынку, калі моладзь або будзе паўнапраўным удзельнікам працэсу вываду рэспублікі з крызісу, або стане першай яго ахвярай і магутным дэстабілізуючым фактарам у грамадстве.

**Моладзь сёння адна з найменш сацыяльна і эканамічна абароненых катэгорый грамадзян. Востра стаіць праблема яе працоўнай занятасці. Пры пераходзе да рыначнай эканомікі на многіх прадпрыемствах пад час скарачэння штатаў у ліку першых аказваюцца юнакі і дзяўчаты. Сярэдняя заработная плата маладых людзей звычайна ў два разы ніжэй, чым у цэлым у работнікаў дзяржаўнага сектара эканомікі. Палова маладых сем'яў не маюць кватэр. Моладзі ўласціва палітычная і сацыяльная апатыя, сур'ёзна падарваны маральныя ўстоі ў яе асяроддзі.**

Амаль кожны выступаючы звяртаў на гэтыя акалічнасці ўвагу і прызнаваў неабходнасць стварэння дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі. Праграму, з якой ад імя камісіі выступіў намеснік яе старшыні Анатоль Лебядзько, дэпутаты прынялі ў першым чытанні пераважнай большасцю галасоў. Абмеркаванне прайшло гладка і хутка. Дзвюх гадзін хапіла парламентарыям, каб разабрацца са спробай маладых упершыню асэнсаваць гэтыя пытанні на дзяржаўным узроўні і знайсці шляхі іх вырашэння.

Аднак такая імклівасць не толькі радуе, але і насцярожвае. Калі ўспомніць, што двойчы дэпутаты не жадалі выносіць на папярэднія сесіі законапраект «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Беларускай ССР», спасылаючыся на яго другараднасць, задаешся пытаннем: ці ўсур'ёз яны ўспрынялі праект зараз. Тым больш, што некаторыя моманты зноў-такі павіслі ў паветры. Напрыклад, прапанова аб зацвярджэнні міністра па справах моладзі. Ніхто яе ў прынцыпе не адмовіў, але і пэўнасці не ўнёс. Ці будзе ў нас такі міністр і калі, засталося невядома.

Толькі лічаныя выступаючыя рызыкнулі засумнявацца ў некаторых падыходах да праблем у прапанаваным законапраекце. Так, народны дэпутат М. Крыжаноўскі сказаў: «Я лічу, што мы не зусім займаемся тым, чым трэба. На мой погляд, у грамадстве не павінна быць асобна выдзеленых праблем моладзі і праблем пенсіянераў, праблем вёскі ці горада, праблем экалогіі ці праблем навукова-тэхнічнага прагрэсу. Павінна быць адна праблема гарманічнага развіцця грамадства. У жыцці ўсё ўзаемазвязана, і моладзь не можа быць асобна ад гэтага».

Яго прапанову: разглядаць маладзёжную праграму толькі як частку агульнай комплекснай праграмы ва ўзаемасувязі з законамі аб адукацыі, культуры, стабілізацыі эканомікі, палічыў вартым развіць толькі дэпутат В. Паўлаў.

**Зрэшты, час прыслухацца да гэтых сумненняў у Камісіі па справах моладзі ёсць — другое чытанне яшчэ наперадзе. Тады ж, будзем спадзявацца, канчаткова высветліцца, з якой узроставай рысы пачынаецца маладосць. Зараз у праекце яна вызначаецца 14-цю гадамі. Аднак гучалі прапановы ўзняць яе да 16, калі чалавек атрымлівае пашпарт і становіцца паўнапраўным грамадзянінам.**

ЗУСІМ іншай была атмасфера, калі дэпутаты прыступілі да дэбатаў па пытанню «Аб праекце Саюзнага дагавора». Бурныя і працяглыя спрэчкі панавалі ў зале двое сутак. Заключаць яго ці не — вось тая мяжа, па абодва бакі якой скрыжоўваліся думкі. Прычым, прыхільнікі і аднаго, і другога варыянтаў крытыкавалі праект па зусім супрацьлеглых палітычных пазіцыях.

Гучала: дакумент дакладна не адлюстроўвае сацыялістычны выбар краіны, у ім не бачна сутнасць грамадска-палітычнага ладу рэспублік, трэба захаваць ранейшую назву дзяржавы, якая адлюстроўвае яе сацыялістычную накіраванасць.

Раздавалася: у праекце бачна тэндэнцыя да ўшчамлення правоў рэспублік, няма механізма выхаду з Саюза, дагавор нельга заключаць таму, што ў нас не прынята новая Канстытуцыя БССР, Закон аб грамадзянстве. Акрамя таго, праект носіць двухсэнсоўны характар, бо суб'екты федэрацыі не могуць быць суверэннымі, як імкнуцца прадставіць гэта распрацоўшчыкі. Да таго ж, як быць з прэзідэнтамі рэспублік і Саюза? У дакуменце нічога не гаворыцца аб іх падпарадкаванасці і супадпарадкаванасці.

Да апошніх мінут, да самага галасавання было цяжка сказаць, якое рашэнне прымуць дэпутаты. Урэшце электроннае табло засведчыла: праект Саюзнага дагавора прыняты за аснову, а Старшыні Вярхоўнага Савета БССР М. Дзямянцею даручана падпісаць яго.

Увогуле гэты тыдзень у парламенце быў насычаны надзвычай складанымі дзяржаўнымі справамі. Зноў выступаў Старшыня Савета Міністраў БССР В. Ф. Кебіч. Другі раз парламенту была прадстаўлена праграма ўрада па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва. Нарэшце, яна задаволіла дэпутатаў, як будзе з выбаршчыкамі — пакажа наша суровая рэчаіснасць.

**В. ШАЎКО.**

*Фотафакт*




**Кансультацыі па псіхалогіі, эканоміцы, педагогіцы, а таксама аздараўленню і лячэнню дзяцей змаглі атрымаць бацькі-выхавальнікі ў час першай рэспубліканскай сустрэчы-семінара дзіцячых дамоў сямейнага тыпу. Сёння на Беларусі ўжо створана адзінаццаць такіх дамоў. У іх знайшлі хатнюю ўтульнасць, сямейны клопат, пяшчоту, увагу, бацькоўскае цяпло больш як сто асірацелых дзяцей. І на сустрэчы, якая праходзіла ў жывапісных наваколлях Маладзечна, пакуль бацькі вучыліся, дзеці з задавальненнем глядзелі мультфільмы, удзельнічалі ў тэатралізаваных спектаклях, майстравалі мяккія цацкі і розныя вырабы з саломкі, рыхтавалі аплікацыі, малявалі, спаборнічалі ў спрыце.**

**НА ЗДЫМКУ: Марына Ахатаўна САГАЙДАРАВА са сваімі дзецьмі Максімам і Крысцінай.**

**Фота Юрыя ПАУЛАВА (БЕЛТА).**



**Праверыць прадукты харчавання на ўтрыманне радыенуклідаў, вызначыць узровень радыяцыйнага фону ў кватэры, пад'ездзе, мікрараёне, даць кансультацыі любому мінчаніну могуць спецыялісты Мінскага гарадскога цэнтра НТТМ «Матэна». Бясплатныя паслугі насельніцтву аказваюць чатыры незалежныя дазіметрычныя пункты, абсталяваныя самай сучаснай апаратурай і рухомай лабараторыяй. За год работы праведзена каля дзесяці тысяч даследаванняў. На жаль, у дзевяці працэнтах правяраемых прадуктаў, вады, сыравіны ўтрыманне радыенуклідаў перавышае дапушчальныя ўзроўні забруджанасці. Часцей за ўсё гэта малако, грыбы, журавіны, лекавыя травы.**

**НА ЗДЫМКУ: аналізы на ўтрыманне радыенуклідаў у прадуктах харчавання праводзіць у адным з дазіметрычных пунктаў «Матэны» інжынер-радыёлаг, удзельнік ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы Аляксандр ЯГОРАЎ.**

**Фота Івана ЮДАША (БЕЛТА).**

*Тэлетайп*

## ШЧЫРА ВІТАЕМ, ВАША НАЙСВЯЦЕЙШАСТВА!

У Беларусі з 15 па 19 чэрвеня будзе знаходзіцца з візітам патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій ІІ. Гэта першае наведанне Беларускай епархіі прадстаяцелем Рускай праваслаўнай царквы з часоў хрышчэння Русі. Знаходзячыся ў межах Беларусі, патрыярх пакланіцца праваслаўным святыням — Мінскай і Жыровіцкай цудатворным іконам Божай маці, якія знаходзяцца ў кафедральным Свята-Духавым саборы сталіцы і Свята-Успенскім саборы Жыровіцкага манастыра.

Першасвятару Рускай праваслаўнай царквы будзе, на нашу думку, цікава даведацца, чым дыхае епархія, дзе сутыкнуліся дзве хрысціянскія канфесіі — праваслаўе і каталіцызм.

## ...І ЎЗНЁССЯ ЁН НА ПАСТАМЕНТ

**У панядзелак на плошчы Леніна адбылася падзея, якая закранула не толькі тых, хто пры ёй прысутнічаў, але і ўсіх, для каго імя Леніна застанецца святыняй, нягледзячы на злую крытыку, накіраваную супраць гэтага чалавека.**

**Напаўраспрануты чалавек узлез на помнік заснавальніку дзяржавы і пачаў выкрыкваць лозунгі, якія мы проста тут не можам надрукаваць, інакш нашу газету аштрафуюць за нецэнзуршчыну. Мы не можам сказаць, цвярозы быў гэты чалавек ці п'яны, але ад падзення з высокага пастамента яго хутчэй за ўсё ахоўваў закон, у якім сказана: «П'янаму мора па калена». Што гэта было — пратэст? Забастоўка? Галадоўка? А якая розніца? Галоўнае, што маці парушальніка спакою ўдалося літаральна вырваць яго з рук міліцыі. Васіль Крывашчокі, 1962 г. нараджэння, чатыры разы судзімы, 13 гадоў правёў у месцах пазбаўлення волі. Будзем спадзявацца, што чарговы яго ўчынак не дадасць да гэтай лічбы яшчэ некалькі гадоў.**

## СМЕРЦЬ У ПЯТЛІ

У апошнім нумары часопіса «Тайм» паведамляецца, што 77-гадовая Цзян Цын, удава Мао Цзэдуна, якая ўзначальвала вядомую банду чатырох, у канцы мінулага месяца скончыла жыццё самагубствам. Мяркуецца, што Цзян Цын павесілася ў тым доме ў прыгарадзе Пекіна, дзе жыла практычна пад хатнім арыштам апошнія 10 гадоў з тых часоў, як была асуджана за садзейнічанне ажыццяўленню «культурнай рэвалюцыі». Вядома, што ў яе быў рак горла і яна, магчыма, хацела пакласці канец сваім пакутам.

## «СПРАВА ПАЎЛОЎСКАГА»: АБВІНАВАЧВАННІ ЗНЯТЫ!

**Атава. У мясцовым судзе адбылося яшчэ адно пасяджэнне па справах абвінавачваемага ў ваенных злачынствах Міхаіла Паўлоўскага, беларуса. Але да завяршэння гэтай справы яшчэ вельмі далёка. Паўлоўскі, якому зараз 74 гады, абвінавачваецца ва ўдзеле ў забойстве каля 500 чалавек на тэрыторыі акупіраванай нацыстамі Беларусі ў 1942 годзе.**

**На пасяджэнні суда прадстаўнік Міністэрства юстыцыі аб'явіў, што пракуратура адмаўляецца ад чатырох з васьмі пунктаў абвінаваўчага заключэння, якое прад'яўлена падсуднаму. Прычына: смерць у маі гэтага года ключавога сведкі з Савецкага Саюза Пятра Карэлева. Яго паказанні датычыліся гібелі 80 чалавек.**

**Паўлоўскі пасяліўся ў Канадзе болей як 30 год таму. Ён быў арыштаваны ў мінулым годзе, а потым выпушчаны пад залог.**

## МАГІЛЁЎ: БІРЖА ПРАЦЫ ДЛЯ МОЛАДЗІ!

Мясцовы гарвыканком прыняў план працаўладкавання моладзі, якая скончыла школу ў 1991 годзе, і тых, хто яшчэ вучыцца, на час школьных вакацый. Па гэтаму плану кожнае прадпрыемства горада абавязана прыняць пэўную колькасць беспрацоўнай моладзі на сваю вытворчасць. Дзяўчаты і юнакі павінны быць задаволены — у іх з'явілася магчымасць самім і зусім афіцыйна зарабляць на «кішэнныя» і больш буйныя расходы.

## 12 ЧЭРВЕНЯ: САТАНІНСКІ ДЗЕНЬ

Часы, калі ніхто не верыў у прадказанні і залежнасць чалавека ад агульнага развіцця касмічных падзей, прайшлі. Цяпер мы можам амаль кожны дзень параўноўваць падзеі зямнога жыцця з тым, што прадказваюць прадказальнікі, у прыватнасці, Павел Глоба.

**Справа ў тым, што менавіта сёння, калі пішуцца гэтыя радкі, і ёсць той дзень, які знакаміты прарок назваў сатанінскім. Між тым, амаль 200 мільёнаў расіян у гэты дзень павінны прыйсці да выбарчых урнаў, каб аддаць свае галасы за аднаго з кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Расіі. Мы можам каменціраваць гэтыя падзеі так: па-першае, прагноз, які сведчыць аб тым, што сёння ні адзін з кандыдатаў прэзідэнтам не стане.**

Па-другое, што ў галоўнага кандыдата Барыса Ельцына вельмі сур'ёзныя і вельмі моцныя канкурэнты. Па-трэцяе, як сведчыць экспрэс-апытанне жыхароў Мінска, у выпадку абрання Барыса Ельцына на пасаду прэзідэнта з'яўцца тэндэнцыі для таго, каб Расія стала сапраўды старэйшай сястрой для астатніх рэспублік, якія мяркуюць падпісаць Саюзны дагавор. Прычым амаль 50 працэнтаў з апытаных мяркуюць, так: хай гэтая старэйшая сястра хутчэй выходзіць замуж і не дыктуе сваіх умоў сваім малодшым сёстрам-рэспублікам. Магчыма, калі вы будзеце чытаць гэтыя радкі, вакантная пакуль што пасада прэзідэнта будзе занята. Што пакажа «сатанінскі» дзень? У які бок паверне наш дзіравы карабель галоўны канкурэнт Гарбачова — прэзідэнт Расіі? Боже, царя храни... И избави нас от лукавого.

**А. ПАЛЫНСКІ.**




СЕННЯ ў СССР, шэрагу саюзных рэспублік вядзецца актыўная работа па выпрацоўцы мэтанакіраванай дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі. Змяненні, якія адбываюцца ў грамадстве, прывялі да пераасэнсавання яе сутнасці: ад фарміравання «новага чалавека» з загадзя зададзенымі параметрамі да стварэння ўмоў, здольных у максімальнай ступені прыцягнуць да жыцця творчыя сілы моладзі, даць прастору для асобы, што развіваецца, для яе самаразвіцця і самарэалізацыі.

Не так даўно палітыка дзяржавы ў адносінах да моладзі будавалася ў асноўным праз камсамол. Па сутнасці сваёй прымаліся спробы ператварыць маладзёжную грамадскую арганізацыю ў інструмент дзяржаўнага кіравання. Ва ўмовах адміністрацыйнай сістэмы, мясцовай цэнтралізацыі і рэгламентацыі працэсаў, што адбываюцца, такім чынам, часткова ўдавалася вырашыць асобныя маладзёжныя праблемы, што знаходзіліся на паверхні, бо магчымасць камсамола, перш за ўсё фінансавая, была абмежавана.

Сусветны вопыт сведчыць, наколькі няпроста вызначыцца, не толькі з прыярытэтамі палітыкі, але і механізмамі яе рэалізацыі. Маладзёжнае заканадаўства ў ФРГ, напрыклад, абапіраецца на 150-гадовую традыцыю, але толькі да сярэдзіны 70-х гадоў сфарміравалася ў сучасным выглядзе. Маладзёжная палітыка як асаблівы напрамак дзяржаўнай дзейнасці сёння важная гарантыя стабілізацыі грамадства і развіцця яго вытворчых сіл у ЗША, Францыі, Італіі, Швецыі, Іспаніі, Фінляндыі іншых капіталістычных краінах.

Наша краіна фактычна апынулася па-за гэтым пошукам. З 30-х гадоў сфарміравалася сцвярджэнне аб шчаслівым юнацтве пры сацыялізме, аб роўнасці моладзі з іншымі групамі насельніцтва ва ўсіх галінах грамадскага жыцця, аб яе бязмежнай адданасці справе сацыялізму, працоўным энтузіязме, узрастаючай сацыяльнай актыўнасці. Негатыўныя з'явы ў маладзёжным асяроддзі прызнаваліся вынікам слабай выхаваўчай работы школ, камсамола і г. д., разглядаліся толькі як адзінкавыя выпадкі. На гэтых стэрэатыпах грунтаваліся адносіны дзяржавы да моладзі. Сёння гэта пазіцыя адыходзіць на задні план.

16 красавіка 1991 года Вярхоўны Савет СССР прыняў Закон «Аб агульных пачатках дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі СССР». Ці аблегчыць саюзны закон жыццё маладых людзей у грамадстве — пакажа час, але прынамсі з яго прыняццем у маладзёжных арганізацый, у мясцовых улад знікаюць розныя спасылкі на сваю прававую бездапаможнасць.

Перамены, што адбываюцца ў краіне і рэспубліцы, пакуль мала змянілі становішча моладзі. Сёння выклікае ў нас сур'ёзную заклапочанасць складанае эканамічнае становішча, стан інтэлектуальнага, фізічнага і маральнага здароўя маладога пакалення. Моладзь пры дэклараванні роўных правоў і свабод мае рэальна меншыя магчымасці ў іх рэалізацыі ў параўнанні з іншымі катэгорыямі насельніцтва.

Лічачы неабходным ухіленне эканамічнай і сацыяльнай нераўнапраўнасці моладзі, варта падтрымаць асноўныя напрамкі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі, вызначаныя праектам рэспубліканскага Закона «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Беларускай ССР», падрыхтаваным па ініцыятыве і на сродкі ЦК ЛКСМБ, і выказацца за яго хутчэйшае прыняцце.

**Вывучэнне сітуацыі ў грамадстве і маладзёжным асяроддзі, аналіз выступленняў урада БССР, дэбатаў у Вярхоўным Савеце рэспублікі, увага да маладзёжнай палітыкі, якая ўзмацняецца з боку дзяржаўных органаў у значнай меры тлумачыцца як рэакцыя на павелічэнне крытычнасці, незадаволенасці, раздражнення, страху, нянавісці і агрэсіўнасці пэўнай часткі моладзі. Самі ж маладыя людзі ў дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы бачаць рэальны шлях да стабільнасці ў рэалізацыі сваіх інтарэсаў, абарону правоў і ініцыятыў. Гэта пацвердзілі і прадстаўнікі маладзёжных грамадскіх аб'яднанняў БССР, якія сабраліся за «круглым сталом» 27 сакавіка г. г. Сярод іх разам з нашымі вядомымі саюзнікамі былі: сацыял-дэмакратычная моладзь Беларусі, гісторыка-патрыятычная аб'яднанне «Чырвоны Жонд», маладзёжны экалагічны рух «Белая Русь», маладзёжныя секцыі Беларускага Хрысціянскага саюза і аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, «Задзіночання беларускіх студэнтаў» і інш.**

Вынікі праведзенага «круглага стала» паказалі, што сярод моладзі праціўнікаў рэспубліканскага Закона «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Беларускай ССР» няма.

З мэтай рэалізацыі маладзёжнай палітыкі мы прапануем стварыць дзяржаўныя выканаўчыя структуры ў асобе Міністэрства па справах моладзі БССР і адпаведных камітэтаў (аддзелаў) у мясцовых выканкомах, а таксама якія возьмуць на сябе наступныя функцыі:

**— забеспячэнне законнага права маладога чалавека на працу (стварэнне магчымасцей па працаўладкаванню, арганізацыя маладзёжнай біржы працы);**

**— рашэнне праблем маладой сям'і (асабліва матэрыяльная дапамога маладым сем'ям);**

**— арганізацыя здаровага адпачынку моладзі;**

**— уключэнне ў паўнацэннае жыццё маладых інвалідаў;**

**— заахвочванне дзейнасці маладзёжных грамадскіх арганізацый;**

**— стымуляванне ініцыятывы маладзёжных прадпрыемстваў і дабрачынных устаноў.**

Работа на месцах будуецца наступным чынам. Аддзел па справах моладзі выканкома Савета народных дэпутатаў утвараецца Саветам народных дэпутатаў і падпарадкаваны Савету, яго пастаяннай камісіі па справах моладзі і выканаўчаму камітэту Галоўнай задачай дадзенай дзяржаўнай выканаўчай структуры з'яўляецца падрыхтоўка і разгляд пытанняў у галіне маладзёжнай палітыкі, забеспячэнне выканання прынятых рашэнняў. Аддзелу па справах моладзі прадастаўлена права распрацоўваць прапановы па фарміраванню планаў сацыяльна-эканамічнага развіцця і бюджэту ў частцы, што датычыць рэалізацыі маладзёжнай палітыкі, ажыццяўляць абавязковы папярэдні разгляд падрыхтаваных праектаў рашэнняў і распараджэнняў выканкома ў частцы, якая датычыцца абароны правоў і свабод непаўналетніх, моладзі, маладзёжных арганізацый. Штат аддзелаў па справах моладзі, як правіла, невялікі, 2-3 чалавекі.

**— Якіх памылак варта пазбягаць? Напрыклад, не паўтараць вопыту, які практыкуецца ў Магілёве. Пры Магілёўскім гарвыканкоме створаны аддзел па справах моладзі. На адной з сесій гарсавета выдзелена для правядзення маладзёжнай палітыкі тры мільёны рублёў. Але гэтыя грошы трацяцца пакуль толькі на ўтрыманне апарату аддзела, які фактычна спыніў сувязі з гаркомам камсамола. А былы сакратар гаркома, які ўзначаліў аддзел, робіць усё для таго, каб «перацягнуць» пад дах аддзела маладзёжныя прадпрыемствы горада. З аднаго боку, па-чалавечы зразумела: сам жа ён, будучы сакратаром, удзельнічаў у іх стварэнні, але ж не ўласныя грошы ўкладваў, а сродкі камсамола! На наш погляд, нам сёння трэба не змагацца за прыярытэты і сферы ўплыву, а збіраць разам усіх зацікаўленых у эфектыўнай маладзёжнай палітыцы.**

Менавіта так і робяць у адрозненне ад магіляўчан Барысаўскі гарком ЛКСМБ, які стаў ініцыятарам стварэння грамадска-дзяржаўнай структуры. Дзейнічаючы тут гарадскі камітэт па справах моладзі з'яўляецца органам рэалізацыі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі і надзяляецца адпаведнымі паўнамоцтвамі сесіяй гарадскога Савета народных дэпутатаў. Камітэт сфарміраваны з дзвюх асноўных структур: грамадскай і дзяржаўнай.

**Камсамольцы горада Барысава лічаць, што іх гарадская арганізацыя, як і любая іншая грамадская арганізацыя, будзе займацца ўласцівымі ёй ад прыроды функцыямі: яна будзе генератарам ідэй і грамадскім кантралёрам за іх ажыццяўленнем. Выяўляць найбольш важныя тэндэнцыі ў маладзёжным асяроддзі, фарміраваць актуальныя задачы, ад вырашэння якіх залежыць дабрабыт і сацыяльнае самаадчуванне моладзі, рэалізацыя інтарэсаў і здольнасцей — у гэтым яны правільна бачаць сёння сваю мэту. А ажыццяўляць гэту палітыку — справа дзяржаўных органаў, якія валодаюць адпаведнымі паўнамоцтвамі.**

У той час, калі на месцах ужо ствараюцца маладзёжныя структуры, якія будуць займацца рашэннем маладзёжных праблем, на ўзроўні парламента рэспублікі гэта ідэя пакуль не знайшла падтрымкі.

Калі на пасаду міністра па справах моладзі была прапанавана кандыдатура Аляксандра Хандогіна, разгарэліся спрэчкі: а ці так ужо неабходна такое міністэрства? На другой сесіі Вярхоўнага Савета БССР, калі зацвярджалася структура ўрада, не ўзнікала сумненняў аб неабходнасці такога міністэрства. Таму сённяшні паварот падзей з'явіўся поўнай нечаканасцю. Атрымліваецца, што дэпутаты супярэчаць самім сабе. Наша думка і Камісіі па справах моладзі была адзінай, што кандыдатура Аляксандра Хандогіна з'яўлялася самай удалай. Ён ведае гэтыя праблемы, мае ўласны пункт гледжання, можа яго пры неабходнасці адстаяць.

На сесіі не прагучала важкіх аргументаў «супраць». Была невялікая спасылка на тое, колькі гэта будзе каштаваць. Хоць міністр па справах моладзі зусім не прэтэндуе на вялікі штат. Асноўная функцыя такога міністэрства — заканадаўчая і кантрольная, мы павінны быць упэўнены, што хтосьці будзе сачыць за выкананнем распрацаваных камісіяй законаў.

Чым больш будзе пагаршацца эканамічнае становішча моладзі, тым больш абсурдным будуць спробы «дапамагчы» моладзі традыцыйнымі, састарэлымі сродкамі. Сёння неабходна выбіраць тыя метады дзейнасці, якія разлічаны ў першую чаргу на самаразвіццё, самарэалізацыю моладзі — праз прадпрымальніцтва, крэдытную палітыку і г. д. Да таго ж патрэба ва ўзмацненні ўвагі да моладзі настолькі своеасаблівая, што і метады правядзення маладзёжнай палітыкі, роўна як і структуры кіравання ёю — павінны быць неардынарнымі і нетрадыцыйнымі.

**Як паказваюць даследаванні, праведзеныя сацыялагічнай лабараторыяй ЦК ЛКСМБ, 56,1 працэнта апытаных маладых людзей лічаць, што патрэбны дадатковыя дзяржаўныя фарміраванні.**

**Гэты пункт гледжання асабліва актыўна падтрымліваюць вучні школ (78,2 працэнта) і студэнты ВНУ (61,2 працэнта). У той жа час, кожны чацвёрты апытаны выкладчык гэтых навучальных устаноў катэгарычна адмаўляе неабходнасць стварэння дадатковых структур. Навучэнцы школ (20,42 працэнта) і студэнты (19,05 працэнта): як правіла, аддаюць перавагу выключна грамадскаму статусу гэтых структур.**

**21,8 працэнта апытаных лічаць, што зноў ствараемыя дадатковыя фарміраванні, якія ажыццяўляюць сацыяльную абарону моладзі, павінны быць дзяржаўна-грамадскімі (для параўнання: 9,1 працэнта — толькі ў рамках дзяржаўных органаў; 16,3 працэнта — толькі грамадскія).**

Вынікі даследавання ўказваюць на прыкметную перавагу моладдзю грамадскіх структур перад дзяржаўнымі, што дазваляе меркаваць:

**у калегію міністэрства па справах моладзі, акрамя прадстаўнікоў дадзенага ведамства, зацікаўленых міністэрстваў, павінны ўключацца прадстаўнікі шырокага спектра маладзёжных грамадскіх і палітычных арганізацый і рухаў, што ў многім будзе вызначаць эфектыўнасць дзейнасці ведамстваў. Можна меркаваць і квоту ўдзелу «грамадскасці»: не менш як 50 працэнтаў колькасці членаў адпаведнай калегіі.**

Гэта не азначае сапраўднае стварэнне новых упраўленчых падраздзяленняў, якія патрабуюць дадатковых расходаў на іх утрыманне і ўзмацняюць бюракратычныя пачаткі ў рабоце з моладдзю. Задача можа быць вырашана і ў рамках пераарыентацыі існуючых упраўленчых звенняў, іх перафарміравання і пераразмеркавання сродкаў, якія і сёння трацяцца на падобныя мэты ў немалой колькасці, але недастаткова эфектыўна.

Са стварэннем дзяржаўных структур па выпрацоўцы і рэалізацыі маладзёжнай палітыкі востра паўстае пытанне аб іх узаемаадносінах з камітэтамі ЛКСМБ. Па сутнасці, пачынаецца хваравіты працэс перадачы выканаўчым органам Саветаў функцый камсамола, які доўгі час выступаў у ролі асноўнага і практычна адзінага манапаліста маладзёжнай палітыкі. І гэта натуральны працэс. У гэтых умовах, на наш погляд, ЛКСМБ не варта адмаўляцца ад ужо склаўшыхся форм работы ў працоўных і навучальных калектывах, ад стварэння сумесных прадпрыемстваў, цэнтраў, арганізацый турысцкай і іншых відаў дзейнасці.

Супярэчанні пераходнага перыяду непазбежныя, але арганізацыя можа ўплываць на моладзь не столькі сваімі палітычнымі імкненнямі, колькі магчымасцямі зрабіць штосьці канкрэтнае для яе. Гэта асабліва важна на пераходным перыядзе. Пры гэтым неабходна наладзіць дзелавыя адносіны з новымі падраздзяленнямі выканкомаў і імкнуцца да сумеснай работы.

Відавочны той факт, што ў розных рэгіёнах гэты працэс будзе адбывацца па-рознаму, і раўнавага такога супрацоўніцтва зможа захавацца далей там, дзе не будзе ўзаемных папрокаў, высвятленняў «хто кім камандуе», а будзе агульная зацікаўленасць у сумеснай дзейнасці па сацыяльнай абароне моладзі.

**А. МАКАРЭВІЧ,**
**загадчык аддзела**
**грамадска-палітычных**
**праблем ЦК ЛКСМБ.**

**P. S. 2 мая 1991 года газета «Знамя юности» апублікавала праект закона Беларускай ССР «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў БССР», а 21 мая гэты законапраект уключаны ў парадак дня чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Заклікаем чытачоў прыняць удзел у яго абмеркаванні. Свае заўвагі і прапановы просім накіроўваць па адрасу: Мінск, Ленінскі праспект, 77, Дом друку, рэдакцыя газеты «Чырвоная змена», а таксама звяртацца па тэлефонах у рабочую групу камісіі грамадска-палітычных праблем ЦК ЛКСМБ: 29-34-28; і ў камісію Вярхоўнага Савета БССР па справах моладзі.**

# У што мы верым?

УСЁ пачалося з размовы ў аўтобусе. Я чытала «Навуковы камунізм», рыхтавалася да экзамену. Хлопец, які сядзеў са мной побач і шамацеў старонкамі часопіса, перашкаджаючы мне сканцэнтравацца, раптам спытаў:

— А вы камсамолка?

«Гэта што: арыгінальны спосаб завязаць знаёмства? Стоп: а можа гэта які-небудзь камсамольскі фанат. Цікава-цікава. Так, добранька, зараз прыйдзецца выслухаць прамову аб лёсе камсамола. А гэта надоўга. «Гуд бай», мой экзамен. Ну што ж, прымаю выклік».

— А вас што, вельмі хвалюе будучае камсамола?

— Ды не, яно мяне зусім не хвалюе. Яно і так яснае. Гэта арганізацыя недзеяздольная. І спыненне яе дзейнасці — пытанне часу.

«Вось табе і на, вось і пагаварылі. А я меркавала пачуць іншае, меркавала ўбачыць абаронцу».

— Проста я зацікавіўся кнігай, што вы чытаеце. А камсамол мяне зусім не хвалюе, мяне хвалюе іншае. Няма ў нас зараз ідэалаў. Колькі ў нас розных груповак, нефармальных аб'яднанняў. У што яны вераць, да чаго хочуць прыйсці? А зараз важна не страціць людзей, якія вераць у штосьці, вераць у Ідэю. Гэта па-першае...

«Так, мне ўсё зразумела. Вось дык пашанцавала. Яшчэ адзін фанат».

— А, па-другое, у мяне ёсць ідэалы. Мяне хвалюе з аднаго боку лёс людзей, а з другога — лёс краіны, лёс Ідэі.

«Так, сапраўды, я прарочыца. Гэта фанат. Адзін такі кінуў бутэльку ў абком партыі, а гэты, калі кіне, дык ужо не бутэльку. Размова, здаецца, сапраўды, становіцца цікавай. Вось зараз я яго злаўлю».

— Пачакайце, пра Ідэю. Якую Ідэю вы маеце на ўвазе, яны ж бываюць розныя?

— Я веру ў камуністычную ідэю.

«Цяпер зразумела, чаму ён так пазіраў на маю кніжку. Напэўна, чарговы суддзя пакаленняў. Што ён ведае пра гэта. Цікава, ён сам да гэтага дацяміў ці начытаўся дзесьці. Зараз выкладзе. Ану...».

— Што такое камунізм? Гэта калі ўсё належыць усім, усё пароўну, усе роўныя. Так раней разумелі камуністычную ідэю, а што атрымалася?

## *Непрычэсаныя думкі*

— Добра. А ваш погляд? Наколькі я разумею, вы верыце ў ідэальнае грамадства, у падабенства з грамадствам Кампанелы ў яго «Горадзе Сонца».

— Можа штосьці і ёсць, але ў мяне сваё... (І мне давялося выслухаць даволі доўгі маналог, галоўная думка якога: «На нейкім пэўным этапе НТП становіцца магчымым адсутнасць уласнасці на сродкі вытворчасці).

«Галоўнае, не спрачацца з ім, бо залезем у такія ідэйныя нетры. Ды і людзі пачалі ўвагу звяртаць. Здаецца, я сёння нічога не прачытаю, прыйдзецца ноччу рыхтавацца. Трэба тэрмінова перапыніць гэты каскад. Тым больш, што я даўно зразумела яго ідэю. Што ж, зерне ісціны ёсць. Але для яе ажыццяўлення трэба не дзесяткі год, а стагоддзі. Цікавы чалавек. Здаецца, мне давядзецца змяніць сваю думку пра яго. Дрэнная я прадказальніца. Штосьці вось толькі не складваецца ў яго пакуль, але думае ён ясна. Толькі нешта адчуваецца не тое. Вось што? Катэгарычнасць? Не. Можа і ёсць, але на фанатыка ён «не цягне». Добра, потым падумаю. Цікава, і куды ён са сваёй ідэяй?»

— Прабачце, а як жа вашу ідэю можна перанесці на жыццё?

— У нас ёсць шанц выбрацца з прорвы. Справа толькі ў нашых людзях. Яны нічога не хочуць, жывуць па прынцыпу «мая хата з краю», нікуды не імкнуцца. І ўсё-такі, я думаю, што знойдзецца шмат людзей, якім не абыякавы лёс краіны.

«Можа і лягчэй думаць пра краіну, чым пра блізкага свайго. Знаёмая філасофія. А чым я, цікава, незадаволена? Ён сапраўды правільна гаворыць. І мне здаецца, гэта не фанабэрыя, а сапраўды шчыра. Ён мне ўсё больш пачынае падабацца. Паспрабуй зараз заікніся пра ахвяру, якую неабходна прынесці не ў імя светлай будучыні — не! — а ў імя незразумелага «сёння». «Кукіш!» — хорам адкажуць стройныя рады былых будаўнікоў камунізму. Ужо многія паспрабавалі, і што... Так, а што мой субяседнік?..».

— Вельмі шкада, але ўжо мой прыпынак... Дзякуй вам...

Ужо на вуліцы ён, усміхаючыся і махаючы мне рукой, нешта крычаў, але аўтобус крануўся з месца. А я задумалася. А ў што веру я? Напэўна, у мастацтва, у прыгажосць, у незалежнасць веру. Для мяне пакутлівая думка, што я з кімсьці. Я — сама з сабой і з усім, што мне ўяўляецца правільным. Левыя, правыя, чорнае, белае, а мне хочацца быць проста сумленнай і праўдзівай. Хочацца быць патрэбнай. Вось у гэтага хлопца (я нават імя не спытала) ёсць ідэя, ён верыць. Ён-такі выклікаў да сябе павагу. Ён дапамог мне паверыць, што ёсць неабыякавыя людзі, так сказаць, «лішнія людзі», «дзекабрысты». З іх смяюцца, а пасля смерці ставяць іх на п'едэсталы. І хай прабачыць мне гэты хлопец мой унутраны маналог. Што ж, ён аказаўся вышэй за мае скептычныя думкі.

### А Ў ШТО ВЕРАЦЬ ІНШЫЯ!

**ВІКТАР М., фарцоўшчык:**

— Не веру ў чалавечую сумленнасць і прыстойнасць, нават у каханне не веру. Не веру ні ў Гарбачова, ні ў Ельцына, ні ў Пазняка. Свет жорсткі, і сёння можна верыць толькі ў сябе і спадзявацца толькі на сябе.

Мой ідэал — гэта ўзяць ад жыцця ўсё, што можна, пакуль малады і ёсць сіла. А палітычныя ідэалы патрэбны толькі для таго, каб выконваць ролю пастуха ў адносінах да народа. Верыць — не бунтуе, не верыць — бунтуе. Усё вельмі проста. Хутка з'явяцца новыя ідэалы, відавочна, антыкамуністычныя, гледзячы на сённяшнія лозунгі, але такія ж утапічныя па сутнасці. І народ паверыць ім, бо без веры жыць не можа, прывык ён у штосьці верыць. Вось так. А я свабодны ад усяго гэтага і таму шчаслівы.

Вядома, ёсць грошы, ёсць прыгожае жыццё, якім хочацца пажыць хоць адзін вечар, ёсць каханне, і ворагі знойдуцца. Кар'еру можна будаваць, а можна з кампаніяй проста па вуліцы прайсці — морду каму-небудзь пачысціць, у рэшце рэшт. А можна і не хадзіць, можна проста дома музыку паслухаць. Усяго патроху знойдзецца ў гэтым жыцці. І нашто жыццё ў псіхушцы губіць? І зараз, і тады. Навошта? Каб мы сваіх выратавальнікаў любілі і паважалі? Але ж ратаваць нас ніхто не прасіў. Можна меркаваць так, а можна і інакш.

**ПЁТР М., малады чалавек:**

— У што мы верым? Якія ў нас ідэалы? Нас ужо нічым нельга здзівіць. Матам, які раз-пораз мільгае на старонках часопісаў? Ужо ў зубах засела. Бясформеннай мазнёй, якая выдаецца стваральнікамі за авангард? Што нас цікавіць, што хвалюе? Мы — натоўп. Мы масава любім, ненавідзім, плюём на дабрадзейнасць. Усё агульна, натоўпам.

— Як вы адносіцеся да «Спартака»?

— У-у-у!..

— А да «Зеніта»?

— А-а-а!..

— А вы былі ў Эрмітажы?

— А што гэта такое?

— «Спартак» з ім не гуляў...

— Але калі будзе гуляць, то абавязкова выйграе.

Вось такія ў нас ідэалы. Але ў нас ёсць людзі, якім не патрэбны арэол святасці: яны не былі ні героямі, ні ахвярамі. Проста яны жылі сугучна з унутранымі перакананнямі. Вось так.

**ВОЛЬГА Б., адна мая знаёмая:**

— Я не веру ні ў сацыяльныя, ні ў эканамічныя перамены. Не веру ў праўду, справядлівасць. Не веру ў бацькоў і дзяцей. Раніцай прачынаюся, ляжу ў ложку і думаю:

— Як добра, што не выхадны, што трэба ісці на работу, што будзе куды прыкласці свае рукі.

Не веру ў сям'ю, у радасць. Але я шчаслівая, што ўсё прайшло, што я ўжо перажыла, і мне радасна, што табе гэта трэба будзе перажыць. Ты абавязкова прыйдзеш да гэтага. Калі на вуліцы сонца, то мне хочацца, каб заўсёды ішоў дождж.

«Гледзячы на яе, гэтага не скажаш. Што ж, мы ўсе ў сваім жыцці выконваем якую-небудзь ролю, а бывае і не адну».

**МІКАЛАЙ УЛАДЗІМІРАВІЧ, ваенрук:**

— Вы так цікава выступалі. Прабачце, але гэта вашы погляды, ці проста выступленне на партыйным сходзе?

— Я камуніст. Я лічу сябе камуністам. Я веру ў партыю. Ніколі нічога не ўкраў за сваё жыццё, я чалавек сумленны.

Мне застаецца толькі дадаць, што Мікалая Уладзіміравіча паважаюць у школе і настаўнікі, і дзеці. Тыя за ім гужам ходзяць, і часта можна пачуць ад іх: «Маёр — чалавек!»

**ВАЛЯНЦІНА НАВУМАЎНА К., пенсіянерка:**

— Я, дзіцятка, ні на што не скарджуся. Жыву добра. Дзеці прыязджаюць часта, дапамагаюць мне, унукі любяць. Пенсія добрая, а што мне старой яшчэ трэба? Людзі паважаюць. Чалавеку тады ўсё дрэнным здаецца, калі ён сам дрэнным стаў.

«Эх, жаль, что не роняли вам на череп утюгов»,— спяваў Высоцкі. Ёсць такі анекдот-прытча. «Купі казла» называецца. Там аднаму «няшчаснаму» ўсё чагосьці для шчасця не хапала. Пайшоў ён да мудраца, так, маўляў, і так. Той яму параіў купіць казла і пажыць з ім. Паслухаўся. Казёл у яго ўсё паламаў, разбіў рагамі ў кватэры. Смурод ад яго. Навокал усе пачалі лічыць гэтага чалавека за прыдурка. Але мудрэц няўмольны — пацярпі, тады шчасця будзе цераз край. І вось аднаго разу казёл уцёк. Чалавек усё вымыў, вычысціў і такім шчаслівым сябе адчуў. Так што рабіце вывады.

**Святлана ПЛІСКО.**

г. Лепель.

---

*Так і жывем*

## Піянера зменіць... князь

ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна піянер Паўлік Марозаў сустрэў... на халоднай падлозе Гарадзецкага гаркома камсамола. Напярэдадні свята яго бронзавую фігуру знялі з пастамента, на якім ён прастаяў цэлыя 27 год, перавезлі ў гаркомаўскі будынак і паклалі ў калідоры на падлогу. Прыйшоўшыя 19 мая на сваё свята да традыцыйнага месца збору піянеры не ўбачылі піянера-героя.

Сваё рашэнне дэманціраваць помнік мясцовы гарсавет растлумачыў інтарэсамі добраўпарадкавання і санітарнай ачысткі горада, а таксама тым, што Паўлік не меў ніякіх адносін да ціхага волжскага гарадка. Тым, хто цікавіўся далейшым лёсам помніка, растлумачылі: бронзавы Паўлік з цягам часу будзе ўстаноўлены каля адной з сельскіх школ раёна, чыя піянерская дружына носіць яго імя. А на «паўлікавым» фундаменце ўзнікне новы помнік. Хударлявага Паўліка заменіць магучы князь Аляксандр Неўскі. Да горада палкаводзец мае прамыя адносіны — у 1263 годзе, вяртаючыся з Залатой Арды, князь захварэў і памёр у тутэйшым манастыры. Незразумела, праўда, чаму помнік патрыёту зямлі рускай да гэтага часу не быў пастаўлены на гарадзецкай зямлі. І ці не здарыцца што-небудзь падобнае і з гэтым новым манументам? Бо на «помнікавым» месцы «красаваліся» і імператар Аляксандр II, і правадыр народаў Сталін... **Э. КЕСАРЫЙСКІ.**

Ніжні Ноўгарад.

## 16 ЧЭРВЕНЯ—ДЗЕНЬ МЕДЫЦЫНСКІХ РАБОТНІКАЎ

*Парады прафесіянала*

# Як нарадзіць здаровае дзіця?



Фота А. Клешчука.

Сёння мы адкрыта заяўляем аб значным павелічэнні колькасці розных захворванняў чалавека ў сувязі з неспрыяльнай экалагічнай абстаноўкай. Гэта — бесперапынны рост сардэчна-сасудзістых, неўралагічных, псіхічных, анкалагічных захворванняў, хвароб крыві — лейкозаў, нараджэнне дзяцей з рознымі парушэннямі. Фактары асяроддзя пражывання чалавека па свайму ўплыву на стан яго здароўя ў дзесяткі разоў пераўвышаюць ролю медыцыны.

Пры гэтым хачу падкрэсліць: шкода, якую ў выніку неспрыяльных экалагічных умоў адчувае чалавечы арганізм у перыяд свайго ўнутрывантробнага развіцця, небяспечная асабліва. Знешняе асяроддзе плода — гэта арганізм маці. Такім чынам развіццё будучага дзіцяці залежыць, з аднаго боку, ад дабрабыту і здароўя маці, з другога — ад акружаючага маці асяроддзя, якое праз мацярынскі арганізм таксама ўздзейнічае на плод. На шчасце, арганізм маці абараняе плод ад шкоднасцей навакольнага асяроддзя, але абаронныя магчымасці гэтыя абмежаваны, і, калі яны зусім канчаюцца, рызыка шкоднага ўплыву павялічваецца.

Так, скажам, частата нараджэння дзяцей з выродлівасцямі ад жанчын ва ўзросце старэй за 40 год у некалькі разоў вышэйшая, чым ад жанчын ва ўзросце 20—25 гадоў. Тлумачыцца гэта тым, што жанчына к 40 гадам у сваім арганізме назапасіла шкодных фактараў у некалькі разоў больш, чым дваццацігадовая.

Напрыклад, жанчыны з цяжкімі формамі цукровай хваробы, амаль ва ўсіх выпадках нараджаюць дзяцей з адхіленнямі ад нормы (у большай або меншай ступені). Няправільныя абменныя працэсы ў арганізме маці прыводзяць да захворванняў плода і нованароджанага дзіцяці.

**Увогуле жанчына перад тым, як нараджаць дзіця, павінна сур'ёзна паклапаціцца пра ўласнае здароўе. У многіх цывілізаваных краінах існуе такі парадак. Рэгістрацыя шлюбу адбываецца толькі пасля прад'яўлення ўрачэбнага заключэння аб стане здароўя будучых мужа і жонкі. На жаль, у нашай краіне падобных правілаў няма, таму мы, урачы, заклікаем саміх будучых маладажонаў: абавязкова праверце сваё здароўе перад уступленнем у шлюб. Ну а як быць тым, хто хворы? Адказ просты: аздаравіце свой арганізм і ўжо потым жаніцеся і нараджайце дзяцей.**

Другі важны момант — гэта планаванне сям'і. Вельмі небяспечна, калі дзіця зачынаецца ў стане ап'янення ці нават часовай, накшталт грыпа, хваробы аднаго з бацькоў.

Нарэшце, трэцяя важная ўмова нараджэння здаровага чалавека — паводзіны цяжарнай жанчыны, яго будучай маці. Перш за ўсё яна павінна строга захоўваць рэжым працы і адпачынку, сна і харчавання, правільна апранацца. Падрабязную інфармацыю пра ўсё гэта даюць у жаночых кансультацыях, куды жанчына павінна звярнуцца ў самыя раннія тэрміны цяжарнасці.

Якімі могуць быць вынікі ўздзеяння шкодных фактараў на плод? Гэта — паскарэнне ці замаруджванне, поўнае спыненне ці заганы развіцця плода, пашкоджанне спадчыннага апарату ў сувязі з паражэннем палавых клетак — гамет.

**Прывесці да гэтага можа недастатковае і незбалансаванае харчаванне маці, кіслародная недастатковасць, разнастайныя захворванні жанчын — вострыя інфекцыйныя і хранічныя, ускладненні цяжарнасці, таксікозы, злоўжыванне рознымі лекавымі і асабліва гарманальнымі прэпаратамі. Шкоду плоду могуць нанесці таксама неспрыяльныя вытворчыя фактары і хімічныя рэчывы, якія забруджваюць навакольнае асяроддзе, іанізуючае выпраменьванне (верагоднасць яго асабліва ўзрасла ў апошнія гады, у прыватнасці, у сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС), заганныя звычкі (курэнне, алкаголь, наркаманія, таксікаманія).**

Час уносіць карэктывы ў нашы ўяўленні. Так, яшчэ зусім нядаўна мы шырока карысталіся рэнтгенаўскімі промнямі, нават пры абследаванні цяжарных жанчын, і не лічылі іх шкоднымі. Сёння ж гэты метад у дачыненні да цяжарных жанчын выкарыстоўваецца толькі як крайняя мера пры асаблівай неабходнасці, бо ўстаноўлена яго адмоўнае ўздзеянне на развіццё плода і ўвогуле на чалавека.

Што ж можна зрабіць, каб папярэдзіць ці хаця б паменшыць ступень шкоднага ўплыву пералічаных фактараў на развіццё плода, а значыць, на здароўе будучага дзіцяці? Адносна недастатковага харчавання і вітамінаў я магу толькі разам з вамі спадзявацца на мудрасць нашага ўрада, які ўжо прымае меры ў гэтым напрамку. Вельмі хацелася б у бліжэйшы час убачыць спецыяльныя прадуктовыя магазіны ці хаця б аддзелы для цяжарных жанчын.

Ідэальным, вядома, было б, каб маладыя людзі, асабліва жанчыны, да заканчэння дзетароднай функцыі не працавалі на шкоднай вытворчасці. Пакуль гэта, на жаль, мала верагодна, але прынамсі можна парэкамендаваць кіраўнікам вытворчасці строга захоўваць існуючыя заканадаўчыя палажэнні, якія датычаць будучых маці. Надзвычай станоўчая практыка ў гэтым сэнсе існуе ў Іванаве. Там на буйных тэкстыльных прадпрыемствах створаны спецыяльныя цэхі для цяжарных жанчын і для жанчын, якія маюць патрэбу ў лёгкай рабоце пасля аперацыі і перанесеных цяжкіх захворванняў.

Думаю, само сабой зразумела, што ў час цяжарнасці кожная жанчына павінна падумаць аб сваім будучым дзіцяці, а значыць своечасова расстацца з уласнымі шкоднымі звычкамі.

І пра апошняе — наш агульны нацыянальны боль. Як зменшыць уздзеянне іанізуючай радыяцыі на развіццё плода? Хацелася б засцерагчы цяжарных жанчын ад інтэнсіўнага загарання, ад карыстання фізіятэрапеўтычнымі працэдурамі і рэнтгеналагічнымі абследаваннямі (ужо нават пры падазрэнні на цяжарнасць), ад палётаў самалётамі на далёкія адлегласці — усё гэта звязана з павышаным апраменьваннем як іанізуючай, так і неіанізуючай радыяцыяй.

Наконт ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС ёсць шмат дзяржаўных праграм і пастаноў. Можна толькі выказаць шкадаванне аб адсутнасці спецыяльных інструкцый і методык па ахове здароўя цяжарных жанчын у зонах асаблівага кантролю, хоць існуе цэлы шэраг устаноў, якія павінны былі займацца гэтай праблемай (і перш за ўсё Беларускі навукова-даследчы інстытут радыяцыйнай медыцыны з яго рознымі філіяламі).

**І. ДУДА,**
**доктар медыцынскіх навук, прафесар.**

*Рэзананс-водгук*

# У гэты вечар быў аншлаг...

Я ВЕЛЬМІ ЎЗРАДАВАЛАСЯ, што мне пашэнціла купіць білет, хаця і ўваходны.

Прачытала ў афішы, што ў Белдзяржфілармоніі будуць выступаць квартэт «Рэтра», фальклорны ансамбль «Валачобнікі», якіх я чула па радыё, і вырашыла абавязкова прарвацца на канцэрт.

У апошні веснавы дзень творчыя калектывы Мінскага інстытута культуры трымалі справаздачу перад гледачом, калегамі, настаўнікамі.

Канцэрт пачаўся з выступлення харавога калектыву «Мара». Дырыжоры Альбіна Пякуцька і Яўген Рэутовіч, канцэртмайстры Таццяна Міснік і Людміла Удавічэнка дабіліся цудоўнага, выразнага, проста філіграннага гучання хору. У рэпертуары творы Б. Сметаны, К. Сен-Санса, І. Штрауса, А. Брукнера, Ю. Семянякі і многіх іншых кампазітараў розных эпох, стыляў і жанраў. Асабліва ўрачыста прагучаў твор А. Архангельскага «Помышляю день страшный». Хору падуладныя творы народныя, класічныя, эстрадныя. Зала была проста зачаравана, узрушана, расхвалявана.

Вельмі парадавала салістка, студэнтка II курса Ала Пракапеня. Яна выканала твор Ж. Векерлена «Абуджэнне». Думаю, хутка пачуем яе дзіўнае, чыстае, трапяткое, каларатурнае сапрана на сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета. Хацелася б, каб яна ззяла зоркай першай велічыні.

Упрыгожыў канцэрт (і вельмі!), як брыльянт, вакальны квартэт выкладчыкаў «Рэтра». Спявачкі Зінаіда Леановіч, Таццяна Міснік, Лілія Ярашэвіч і Святлана Ярохіна. Яны выконвалі сваю праграму пад акампанемент - суправаджэнне інструментальнай групы. Кіраўнік Аркадзь Эскін сваёй цудоўнай імправізацыяй узбагаціў гучанне ансамбля. Слухачы не адпускалі квартэт са сцэны: раздаваліся «біс», «брава». «Рэтра» запісалі на Беларускім радыё некалькі твораў. Хацелася б чуць іх часцей. Калектыў малады, але вельмі прафесійны і дасканалы. Выканаўцам удалося адрадзіць музыку 50—60-х гадоў, якую зараз вельмі тонка і радасна ўспрымае слухач—і сталы, і вельмі малады. Бо яна закранае самыя патаемныя струны душы. У рэпертуары пяшчотны рускі раманс «Только раз бывает в жизни встреча» і гарэзлівы «Стары рамізнік» А. Лемарка, «Калыханка» І. Дунаеўскага, «Раманс» А. Пятрова на вершы Марыны Цвятаевай з кінафільма «Пра беднага гусара закіньце слова». Выдатнае спалучэнне галасоў, высакародная натуральная манера выканання — адметная рыса квартэта. На дзяўчатах вельмі прыгожыя касцюмы —як кветкі ці ўральскія самацветы. Яны дапоўнілі эмацыянальнае ўспрыняцце. Крыху перашкаджала толькі тое, што ансамбль са сваёй цудоўнай праграмай (канцэрт у канцэрце) вымушаны быў туліцца на ўскрайку сцэны, бо хор заставаўся чамусьці фонам на сцэне ў час выступлення «Рэтра». Я лічу, што гэта — промах рэжысуры.

У другім аддзяленні на сцэне панаваў фальклорны ансамбль «Валачобнікі» (мастацкі кіраўнік — заслужаны работнік культуры БССР Станіслаў Дробыш, хормайстар — Барыс Сяргееў, музычны кіраўнік — Валерый Рамановіч, харэограф — Галіна Роўда).

«Валачобнікі» так расварушылі залу, што немагчыма было ўседзець на месцы. Хацелася скакаць і спяваць разам з імі. Праграма ў ансамбля вельмі багатая. Беларускія народныя песні, полькі, танцы, кампазіцыі. Усё выконвалася аднолькава таленавіта, іскрыста і тэмпераментна. Гледача запрашалі то на вячоркі, то на Купалле, то на вяселле. Дзякуй усім «Валачобнікам» за вялікую радасць, за Свята. Сэрца напаўняецца гонарам, што ёсць такі самабытны калектыў на Беларусі. Няхай жывуць і ён, і Беларусь.

У гады сваёй маладосці я пастаянна хадзіла ў філармонію, бывала і на справаздачных канцэртах кансерваторыі. Таксама цудоўны хор, якім дырыжыраваў тады Віктар Роўда. Цяпер, думаю, у кансерваторыі з'явіўся вельмі сур'ёзны сапернік — Мінскі інстытут культуры.

**В. СКАРЫНКІНА.**

**Пытанне: Ці можа нарадзіцца ў нашым сацыялістычным кампоце падсалоджанай рэчаіснасці капіталістычная акула прадпрымальніцтва? Нават не акула, хаця б невялікі селядзец разумнай працы і добрасумленнасці?**

**Адказ: Не, не можа. Пераканаўчае сведчанне гэтага — гісторыя, якая адбываецца на маладзечанскім вытворчым аб'яднанні «Электрамодуль»:**

...А пачалося ўсё некалькі гадоў таму, калі слова «перабудова» яшчэ не спрабавалі перакласці на англійскую як «debuilding» («дэбілдзінг»), а лозунгі накшталт «даеш арэнду, каўбасу і зямлю народу!» не выклікалі ўсмешак і невясёлых усмешак. Дакацілася перабудовачная хваля і да вытворчага аб'яднання «Электрамодуль»—у выглядзе незлічоных інструкцый і пастаноў. Пачухаўшы патыліцу, тагачаснае кіраўніцтва аб'яднання пачало «ўкараняць» арэнду і на сваім прадпрыемстве. Знайшліся энтузіясты, і ў хуткім часе выспела рашэнне аб пераходзе на арэнду аднаго з падраздзяленняў аб'яднання — завода прыбораў сілавой электронікі. Але нешта нявечнае пад месяцам, і здарылася так, што былы дырэктар памёр. На яго месца прыйшоў новы — Віктар Андрэевіч Васько. Спачатку ён быццам бы вырашыў працягнуць справу папярэдняга кіраўніка. Правялі канферэнцыю працоўнага калектыву завода, якая прагаласавала за пачынанне, і 25 кастрычніка 1990 года паміж Генеральным дырэктарам аб'яднання і кіраўнікам завода прыбораў сілавой электронікі быў падпісаны дагавор арэнды, згодна з якім «дзіця перабудовы» павінна было стаць на ногі 1 студзеня 1991 года. А 22 лістапада Маладзечанскі гарсавет зарэгістраваў новае арэнднае прадпрыемства. Загадам Васько была нават створана камісія па перадачы маёмасці.

Расказвае намеснік старшыні арганізацыі арандатараў Юрый Кляўко:

*— Наш завод быў стратным, датацыі складалі ад 6 да 9 мільёнаў у год. І калі стваралі арэнднае прадпрыемства, наша мэта была—зрабіць з робатаў жывых людзей. За кошт толькі некаторых пачынанняў за 6 месяцаў мінулага года страты завода скараціліся на мільён.*

Працоўныя паверылі ў ідэю, пацягнуліся за ёй. Паверыла і Л. Зіноўева, рабочая брыгады 113:

*— Не толькі на нашым прадпрыемстве, усюды так — калі ты працуеш, крыху болей зарабіў, табе адразу «ўразаюць» працэнт, і атрымліваецца, што працаваць трэба ўдвая больш, а зароб:ш за гэта якіх рублёў 10 звыш нормы. І я асабіста зразумела так, што арэнда — гэта нейкая іншая арганізацыя працы, калі адчуваеш, што тут ёсць нешта тваё.*

Але час ішоў, а кіраўніцтва аб'яднання не спяшалася выканаць свае абяцанні. Камісія падрыхтавала акты перадачы маёмасці ў арэнду, але яны чамусьці не былі падпісаны. У рэшце рэшт пачаўся звычайны «пераварот». Тым часам на самім заводзе адбывалася зусім ужо неверагоднае.

З расказу майстра брыгады Мікалая Валаткевіча:

*— З боку адміністрацыі аб'яднання пачалася кампанія, каб «задушыць» арэнду. Пачалі збіраць «паўторныя сходы» наконт таго, ці быць арэндзе, хоць было ўжо рашэнне працоўнага калектыву. Напярэдадні аднаго з такіх сходаў мяне выклікаў начальнік цэха і сказаў (амаль слова ў слова): «Калі ты выступіш за арэнду, і твая брыгада цябе падтрымае, то заўтра ж я з табой распраўлюся»...*

А вось што адбылося з Людмілай Зіноўевай:

*— Націск на нас быў даволі моцны. Наш начальнік цэха не саромеўся ў выразах, напрыклад, пытаўся ў мяне (я член праўлення арэнднага завода): «Цябе яшчэ не павесілі?» Зразумела, у многіх ёсць «грашкі», і некаторыя не вытрымалі...*

Аднак «рэкет па-маладзечанску» не карыстаўся чакаемым поспехам. Мяцежны завод не здаваўся, працягваючы вайну са сваім суровым бацькам. Адным з апошніх шанцаў у гэтай барацьбе стаў ліст у «Чырвоную змену».

...Трапіўшы на аб'яднанне, я пазайздросціў тамтэйшай дысцыпліне: пакуль Генеральнага дырэктара не было на месцы, на завод мяне не пусцілі. Галоўны інжынер паведаміў па тэлефоне, што не ўпаўнаважаны вырашаць такія пытанні, бо «гэта канфлікт не тэхнічны, а палітычны». Калі ж з'явіўся сам Віктар Андрэевіч, то збянтэжыў мяне яшчэ больш:

*— Якая справа «маладзёжцы» да нашага канфлікту? Вы няздольныя займацца гэтым.*

Але потым усё ж «злітаваўся», бо (выраз самога Васько) «я яго прымусіў да гэтага»:

*— Сёння можна канстатаваць той факт, што «дэ-юрэ» калектыў гэты ёсць (ён мае дагавор арэнды, зацверджаны статут), але «дэ-факта» яго правы не наступілі, бо ён не мае абсталявання і вытворчых плошчаў. Пры падрыхтоўцы дагавора не ўсе дакументы былі падрыхтаваны. Не была ўлічана перспектыва аб'яднання. Акрамя таго, там узялі верх не дзелавыя характарыстыкі, а некаторыя іншыя... Я не буду даваць каментарый наконт гэтага, я сказаў тое, што хацеў... Гэта была памылка, я нясу за яе адказнасць як Генеральны дырэктар, і лепей яе выправіць сёння, чым потым...*

Галоўныя пункты ў «пазіцыі» Васько гэта Распараджэнне Саўміна СССР, згодна з якім «не належаць выкупу доследна-эксперыментальныя вытворчасці» (а завод прыбораў сілавой электронікі — доследны) і Рашэнне, зацверджанае намеснікам міністра Ю. Захаравым, аб утварэнні на базе завода навукова-інжынернага цэнтра. Аднак, па-першае, Віктар Андрэевіч чамусьці «забыў» пра тое, што існуе спецыяльны спіс прадпрыемстваў, маёмасць якіх нельга перадаваць у арэнду. І, паводле слоў Ю. Кляўко, у ім завода няма. Па-другое ж...

*— Навукова-інжынерны цэнтр мы ўжо «праходзілі». У нас тры гады існавала ЦКТБ, якое было паспяхова расфарміравана, — дадае Юрый Аляксандравіч.*

На жаль, Генеральны дырэктар аб'яднання не захацеў больш абмяркоўваць гэтае пытанне, і замест адказу... выдаў мне камплект рэкламных брашурак з узорамі вырабаў. Можа, каб я зразумеў, што страчу, калі ўвяжуся ў гэтую гісторыю?..

«А што ж закон? — спытаеце вы. — Ён жа павінен абараніць інтарэсы юрыдычнай асобы, якой з'яўляецца арэндны завод»... Закон, як заўсёды, не спіць. Але і не спяшаецца «прыняць меры»:

*— Сапраўды, пракуратурай устаноўлена, што дагавор паміж арэндным прадпрыемствам і ВА скасаваны незаконна, — паведаміў Маладзечанскі міжрайпракурор Каляда. — Генеральны дырэктар В. Васько груба парушыў закон і ўшчаміў правы малога прадпрыемства. У сувязі з гэтым намі было накіравана прадпісанне Генеральнаму дырэктару, аднак той адмовіўся выканаць яго. Мы звярнуліся і да міністра электратэхнічнай прамысловасці СССР, аднак адказу не атрымалі. Калі да 1 ліпеня (менавіта да гэтага тэрміну прыпынена дзейнасць арэнднага прадпрыемства Рашэннем намесніка міністра. —П.С.) канфлікт не будзе вырашаны, мы будзем абавязаныя дапамагчы калектыву аднавіць свае правы.*

Пракурор лічыць, што лепей за ўсё звярнуцца з іскам у Дзяржарбітраж. Аднак, паводле слоў кіраўніцтва завода, іск гэты будзе прыкладна на 30 мільёнаў, прычым 10 працэнтаў забяруць за паслугі Дзяржарбітраж. А гэта 3 мільёны з кішэняў не начальнікаў аб'яднання, а простых рабочых...

Якая ж мараль гэтай гісторыі?

*— Асабіста для сябе я адно зразумела, — гаворыць Л. Зіноўева, — гэта тое, што ніякіх законаў у нашай краіне няма, калі на тваім баку сіла і хаця б маленькая ўлада. Напэўна, камусьці на карысць тое, каб мы не пайшлі на арэнду...*

Але каму, каму на карысць тое, што арэнднае прадпрыемства б'ецца галавой у дубовыя дзверы кіраўніцкіх кабінетаў, нібыта той селядзец аб лёд? Ці няўжо гэтыя людзі «замнога хочуць» — працаваць «без прыгляду» на сваю і дзяржаўную карысць?

*— Зразумела, мы не збіраемся разрубаць сякерай сувязі, якія ўжо склаліся паміж аб'яднаннем і намі, — супакойвае Ю. Кляўко. — Трэба толькі паставіць іх на эканамічныя рэйкі. Трэба навучыць людзей зарабляць грошы, а не размяркоўваць іх. І без таварна-грашовых адносін гігантаў прадпрыемствы, такія, як ВА «Электрамодуль», ва ўмовах рынкавай эканомікі не вытрымаюць.*

Дык у чым жа сутнасць канфлікту? Вось што думае наконт гэтага Юрый Аляксандравіч:

*— Зараз могуць быць зроблены захады Міністэрства па цэнтралізаванаму акцыяніраванню, г.зн. міністэрства набудзе кантрольны пакет акцый і будзе кіраваць аб'яднаннем на тэрыторыі Беларусі без уліку яе інтарэсаў. Мы планавалі ў перспектыве праз акцыяніраванне стварыць народнае прадпрыемства, якое б адносілася да юрысдыкцыі Беларусі...*

# СЕЛЯДЗЕЦ У КАМПОЦЕ

**І АДЗІН У ПОЛІ ВОІН, КАЛІ ЁН — ГЕНЕРАЛЬНЫ ДЫРЭКТАР ВА «ЭЛЕКТРАМОДУЛЬ»**




**Пытанне: Дык што лепей — салодкі кампот ці селядзец, праўда, з цыбуляй ды перцам?**
**Адказ: Кожны выбірае сам.**

*Павел СІМАНАЎ,*
**аглядальнік «Чырвонай змены».**

**Няцвёрдая хада, мутныя вочы, «заблытаны» язык, нецэнзуршчына, а то і кулакі, гатовыя да бою, — вось няпоўны, але амаль што абавязковы «джэнтльменскі набор» многіх выпівох.**

**Пра тое, што з-за алкаголю гінуць людзі, ламаюцца сем'і, калечацца лёсы і душы не толькі саміх алкаголікаў, а і тых, хто жыве і працуе побач, гаварылася і пісалася шмат.**

**Зараз распавесці гаворку хацелася б пра іншае. Пра чалавека, які, прайшоўшы ўсе «кругі пекла», усё ж адолеў пераўзысці самога сябе — ператварыцца з горкага п'яніцы ў нармальнага і, больш таго, вельмі цікавага, працавітага, добрага чалавека.**

**Метамарфозы адбыліся, вядома, не па загаду чароўнай палачкі. Нямала душэўных сіл, здароўя прыйшлося прыкласці родным таго, з кім мяркую вас пазнаёміць. Але адных толькі іх клопатаў, канешне, недастаткова. Невядома, якой была б развязка, калі б наш герой не трапіў да вядомага ўрача-нарколага С. Л. Данской, што працуе ў 16-й паліклініцы г. Мінска. Менавіта яна паставіла апошнюю, але такую важную і неабходную кропку ва ўсёй гэтай гісторыі, якая цягнулася больш як дзесяць год.**

# «ТЫ ТАКІ ДОБРЫ, КАЛІ НЕ П'ЕШ»

## ЦВЯРОЗЫ ПОГЛЯД НА ЗАГУБЛЕНЫЯ ГАДЫ

ДВА ГАДЫ ТАМУ для Алега пачаўся новы адлік часу і жыцця. Калі мы сустрэліся, я спытала, ці можна называць у газеце прозвішча? Не задумваючыся ён згадзіўся: «Мне няма чаго хаваць і няма чаго саромецца». Але паразважаўшы, я вырашыла ўсё ж не называць горад, у якім жыве Алег і яго прозвішча. Навошта лішні раз нагадваць сям'і ды і самому яму тое, што, перакананa, усе яны хочуць хутчэй забыць.

**— Алег, два гады «цвярозага» жыцця ты імкнешся навярстаць упушчанае. Разумею, табе не вельмі радасна ўспамінаць сваё «беспрабуднае» мінулае; выварочваць душу перад чужымі людзьмі. І ўсё ж твой вопыт можа стаць той самай адзінай выратавальнай саломінкай для таго, хто пакуль што не бачыць сэнсу ў жыцці без бутэлькі. Неаднойчы даводзілася чуць ад такіх людзей: «Так, трэба было б кінуць яе, горкую...» Але чамусьці на справе нічога ў іх не мяняецца. Часам жа патрэба ў чарцы, наадварот, становіцца ўсё больш неадольнай...**

**Скажы, калі піў, ці ўсведамляў, што ты — алкаголік?**

— Ну што ты! Калі мне пра тое казалі, я так злаваўся, спрачаўся. І, разумееш, у тым была рацыя. Мае сябры, большасць знаёмых — яны такія ж або амаль такія. Для нас выпіць шклянку гарэлкі пры сустрэчы было справай натуральнай — як жа інакш размаўляць? Традыцыя, так бы мовіць. Ну, а пасля таго як пераступаеш «мяжу», без «гэтага» ўжо не можаш. І тут не да разваг. «Дзе дастаць пляшку?» — вось і ўсе думкі.

**— Што ж стала тым штуршком, які даў табе жаданне і сілы вырвацца з абдымкаў «зялёнага змія»!**

— Было шмат розных падзей. Коратка не адкажаш. Каб зразумець, трэба расказаць пра апошнія дзесяць год майго жыцця.

**— Калі ласка...**

— Канчаткова ўцягнуўся ў п'янства дзесьці ў 25 год. З жонкай разышліся, і я зусім «сышоў з тармазоў». Настолькі, што нават новая сям'я не магла мяне спыніць. Адзін за другім нараджаліся дзеці, але нічога мяне не цікавіла, усё толькі раздражняла. Атмасфера ў доме адпаведная: скандалы, бойкі...

Мяне спрабавалі ўгаворваць, каб пайшоў лячыцца. Доўга не згаджаўся, але потым саступіў — надта ўжо надакучылі родныя. Так вось я ўпершыню апынуўся на «добраахвотна-прымусовым» лячэнні. У бальніцы аказалася зусім няблага. Па-першае, сябры. А, па-другое, і тут мы ўмудраліся «апракінуць чарку». Гэта было своеасаблівае спаборніцтва: выпіў і ў вачах «хворых» ты — герой. Яшчэ б! Падмануў урача. Пасля выпіскі першае, што я зрабіў, — накіраваўся ў краму, набыў бутэльку. І, натуральна, выпіў.

Зараз успамінаю той свой стан. Недзе на донцы душы часам, на адно вока, прачыналася сумленне. Прыходзілі пакаянныя думкі, адчуванне віны перад маці, дзецьмі, жонкай. Вось і тады, я разумеў: раблю не тое. Але адмовіцца ад бутэлькі не мог. Стараўся піць так, каб ніхто нічога не бачыў. Але ці ж магчыма схаваць тое, што само лезе ў вочы? А хутка і ўвогуле перастаў хавацца. Навошта? Маё жыццё, як хачу, так ім і распараджаюся.

А жыццё ў алкаголіка, трэба сказаць, нялёгкае. Вось уявіце. Дома скандалы — гэта адно, справа жыццёвая, звыклая. А вось работа. Напіўся — прагуляў. Тлумачыць чымсьці трэба. Вось і носішся як звар'яцелы па паліклініках ды ваенкаматах — шукаеш добранькага дзядзьку або цётку, якія дадуць ліпавую даведку. Натуральна, не проста так. Дык тую даведку калі дадуць, а калі і не. Смех і грэх, але выратоўвала тое, што быў... членам партыі. І наш сакратар, ды і сама партыйная арганізацыя імкнуліся захаваць хаця б такога камуніста. «Разумелі» мяне, дапамагалі, каб не ставілі прагул. Звычайна пісаў заднім чыслом заяву на водпуск за свой кошт.

Маці паглядзела на ўсё гэта і кажа аднойчы: «Сынок, пойдзем зноў лячыцца».

Я шкадаваў яе. Цяжкае, бязрадаснае жыццё пражыла яна. Сямёра дзяцей, муж-п'яніца. Я разумеў яе, і пайшоў лячыцца зноў.

На гэты раз у бальніцы трымаўся, не піў. Пры выпісцы галоўны ўрач спытаў, як я гляджу на будучае. «Пачну нармальнае жыццё», — не прымусіў сябе чакаць з адказам. Паглядзеўшы адзін аднаму ў вочы, мы кожны ведалі цану маіх слоў. Ды што словы, я мог паабяцаць тады што захочаш...

Першую бутэльку віна выпіў, як кажуць, не адыходзячы ад касы, другую — дома.

Зараз не магу паверыць, што ўсё, пра што расказваю, — не кашмарны сон. Толькі зараз я пачынаю разумець, што прайшлі, беззваротна страчаны лепшыя гады жыцця. Светлых дзён было — пальцаў адной рукі хопіць падлічыць.

Мяняў адну работу на другую. Нарэшце выключылі з партыі. Спачатку перажываў, аднак спыніцца не мог.

**— Выбачай, Алег, што перабіваю. Тое, што ты расказваеш, у тых або іншых варыяцыях адбываецца з кожным п'яніцам. Аднак далёка не кожны знаходзіць у сабе мужнасць крута павярнуць падзеі. Мабыць, адбылося нешта такое, што перавярнула тваю сістэму каштоўнасцей!**

— Ёсць цудоўная руская прымаўка «Пока гром не грянет, мужик не перекрестится». У нашай вялікай сям'і «грымнуў гром» — памёр сярэдні брат. Тады я не думаў, а зараз перакананы: калі б не піў ён, не здарылася б няшчасце. Гэтая раптоўная трагедыя бы працвярэзіла мяне. Я паглядзеў на яго дзяцей, на сваіх. Пакуты маці ўвогуле не перадаць. І вось мяне апякла думка: «Як жа балюча будзе маці хаваць другога сына...»

Упершыню я ацаніў сябе быццам збоку. І ўпершыню ў маім «гарачым» мазгу мільганула цвярозая думка: «Што ж я раблю? Куды качуся?».

А праз пэўны час сам накіраваўся ў наркалагічны дыспансер. Трэці раз. Але я ішоў не лячыцца, таму папрасіў ніякіх прэпаратаў не даваць. Мне быў патрэбен час, каб узважыць, ацаніць сваё жыццё і вырашыць: што для мяне больш важнае ў ім. Тады я, дарэчы, і ўспомніў, што калісьці чытаў пра метад Даўжэнкі, што ў Мінску працуе яго вучаніца Святлана Львоўна Данская. Трапіць да яе стала маёй галоўнай мэтай. Я верыў: яна выратуе мяне.

Цяжка было, натуральна. Ледзь не сарваўся, калі даведаўся, што звольнены з работы. Дакладней, было так. Скарацілі нашу арганізацыю, а туды, куды перайшлі ўсе, мяне браць не захацелі: ведалі, што за птушка. Я страціў не толькі работу, страціў чаргу на кватэру... Але жонка нечакана мяне падтрымала: «Не хвалюйся, наладзіш цвярозае жыццё, усё стане на свае месцы».

Няпростымі былі і сустрэчы з сябрамі. Што і казаць, многія пасмейваліся з мяне, відаць, не верылі, што маё рашэнне цвёрдае. Я адчуваў сваю непаўнацэннасць. Гэта суровае выпрабаванне. Але я трымаўся, не піў, стараўся нават не праходзіць міма таго месца, дзе звычайна збіраліся. І можаце мне паверыць, мае былыя «калегі», я раптам адчуў вялікую асалоду ад цвярозага жыцця.

Перад сустрэчай з Данской хваляваўся моцна. Памятаю, з якой грэблівасцю на нас, хто чакаў прыёму, глядзелі наведвальнікі іншых кабінетаў. Гэткія погляды білі мацней за бізун. Пяць мінут гутаркі са Святланай Львоўнай знялі напружанне. Літаральна некалькімі словамі яна супакоіла, усяліла надзею. Добразычлівасць, з якой яна размаўляла з намі, алкаголікамі, мяне проста ўразіла. Але менавіта гэта і трэба было, каб я канчаткова адчуў сябе нармальным чалавекам. Пасля кадзіравання Святлана Львоўна сказала: «Я ў вас веру. Вы ніколі не будзеце піць. Ніколі не вернецеся да ранейшага жыцця».

**— Алег, а якім чынам складваюцца адносіны з былымі сябрамі? Відаць, няпроста разарваць тое, што аб'ядноўвала вас столькі год!**

— Многія пры сустрэчах пытаюцца: «Ну што, не развязаў?» Нехта зайздросціць. Я спрабаваў пагутарыць з найбольш блізкімі, з кім прайшло дзяцінства, з кім разам калісьці гулялі ў футбол. Пераконваю іх, што і яны змогуць стаць нармальнымі людзьмі. Бяруся дапамагчы трапіць да Данской. У той момант ён згодны, а як працверазее, дык усё, дзякуй, не трэба. Я ж, выбраўшыся з той багны, у якой жыў, зараз лічу сваім абавязкам выцягваць і іх. Зараз гэта для мяне задача нумар адзін.

Затое прыкметна змяніліся адносіны з боку знаёмых, якія раней, бывала, спяшаліся адвярнуцца, каб не вітацца. Зараз спыняюцца, распытваюць пра навіны. На рабоце таксама — хаджу са спакойным сэрцам. Мяне і тут пачалі паважаць. Дарэчы, хутка атрымаю кватэру...

**— Ну а дома, у сям'і!**

— Тут я даведаўся пра столькі невядомых раней радасцей! Якое гэта шчасце — гадаваць дзяцей. Іх у мяне ў гэтай сям'і трое. Як выраслі двое старэйшыя, я практычна не бачыў. Затое з малым зараз ваджуся кожную вольную хвіліну. Ды і дзеці пацягнуліся да мяне. «Тата, — аднойчы кажа сын, — ты такі добры, калі не п'еш».

Усе гады, што пражылі з жонкай, у мяне не было ніякага жадання займацца домам. Зараз — быццам прарвала. Хочацца і гэта, і тое. І на зямлі працаваць, і кватэру абставіць, і грошы зарабіць, і кніжкі чытаць. Як мага хутчэй імкнуся навярстаць упушчаны час, упушчаныя магчымасці. Але што тут гаварыць. Святлана Львоўна Данская без перабольшання падарыла мне другое жыццё. І я бясконца ўдзячны ёй. Не толькі за сябе. За ўсіх тых, каму яна дапамагае знайсці сябе.

Што датычыць мяне, то хоць я і закадзіраваны ўсяго на дзесяць год, але цвёрда перакананы: вяртання да мінулага не будзе ўжо ніколі.

**В. ЕРАШЭНКА.**



Фота А. Клешчука.



Фота А. Клешчука.

# «ЯК РАЗ ПЛЮНУЦЬ»

**Так называўся артыкул журналіста Уладзіміра Міхно, змешчаны ў адным з сакавіцкіх нумароў нашага штотыднёвіка («ЧЗ», 18.03.—24.03.1991 г.)**

У ПАСЁЛКУ Коласава, што ў Стаўбцоўскім раёне, пабіліся паміж сабой два хлопчыкі—чацвёртакласнік Юрка Арлоў і вучань восьмага класа Валерка Бацяеў. Як запэўніваюць нешматлікія сведкі гэтай бойкі, ды і самі хлопцы, усё пачалося са звычайнага пляўка: спачатку Валерка з вышыні пятага паверха практыкаваўся ў ролі вярблюда і выпадкова (па-валеркінаму) трапіў слінай на рукаў Юрку, а потым ужо Юрка, сустрэўшы свайго крыўдзіцеля на вуліцы, плюнуў (хацеў плюнуць — па-юркінаму) у твар Валерку. Завязалася бойка, вынікам якой сталі сінякі на тварах, руках, нагах і іншых частках цела ў абодвух хлапчукоў, звяртанне маці Юркі С. К. Арловай у інспекцыю па справах непаўналетніх Стаўбцоўскага РАУС, пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх пры Стаўбцоўскім райвыканкоме і пастаноўка на ўлік у дзіцячым пакоі міліцыі Валеры Бацяева, скарга на пастанову камісіі па справах непаўналетніх бацькі Валеркі — В. Ф. Бацяева, трагікамедыя журналіста У. Міхно, некалькі прыйшоўшых у рэдакцыю лістоў, і ўрэшце вось гэта сустрэча з чытачом на старонках нашай газеты.

«...У артыкуле няма ніякай праўдзівасці, факты падтасаваны... Праводзячы самастойнае расследаванне (невядома, па чыёй ініцыятыве), журналіст Міхно піша артыкул, у якім становіцца на бок Валеры Бацяева, хлопчыка, які так бязлітасна збіваў майго сына. Так атрымліваецца, што Валера ледзь не герой... Я не згодна з журналістам Міхно і патрабую даць праз вашу газету абвяржэнне. У адваротным выпадку я буду звяртацца ў суд». Вось так коратка можна перадаць змест ліста, які даслала ў рэдакцыю С. К. Арлова, маці «па-зверску збітага» Юркі. Адначасова з гэтым прыйшоў ліст і ад інспектара па справах непаўналетніх Стаўбцоўскага РАУС Л. М. Ваяводскай: «Тры дзеянні з прадузятасцю. Напэўна, пад такой назвай можна змясціць абвяржэнне на дакументальна-фантастычную трагікамедыю журналіста Міхно. Зразумела, рэдакцыя «Чырвонай змены» не пойдзе на гэта. Чаму? Ды як жа можна пасля супярэчыць самім сабе?.. Моцнае фантазёрства... Некампетэнтнасць... Доказнасць... Аднабаковасць... Можна пісаць яшчэ шмат. Асабіста я супраць такой пазіцыі газеты і буду звяртацца ў суд...»

Па дапамогу да ахоўнікаў справядлівасці вырашыў звярнуцца і В. Ф. Бацяеў, бацька Валеры. Але скардзіцца Васіль Фёдаравіч не на «некампетэнтнага і прадузятага» журналіста, а на пастанову камісіі па справах непаўналетніх пры выканкоме Стаўбцоўскага раённага Савета народных дэпутатаў — «прыгавор», які вынесла гэтая камісія яго сыну — пастаноўка на ўлік у дзіцячы пакой міліцыі — В. Ф. Бацяеў лічыць неабгрунтаваным. І таму, відаць, так падрабязна паведамляе ў сваёй скарзе (дарэчы, адзін экземпляр яе ёсць у рэдакцыі) аб дакладных падрабязнасцях таго злашчаснага дня, калі, абмяняўшыся пляўкамі, Юрка і Валерка наставілі адзін аднаму сінякоў. «Ён палез біцца першым», — запэўнівае Валерка. «Не, першым зачапіў мяне Валерка», — не згодзен Юрка. Ёсць яшчэ два сведкі бойкі — Сяргей Майсееў і Андрэй Жукавец. Яны — за Юрку. «Гэта ж яго сябры» — растлумачвае Валерка. — «А ўвогуле, мы ўжо даўно памірыліся, у футбол гуляем». (Гэтай апошняй сцэнай прымірэння і заканчваецца трагікамедыя). «Хлусня, я з табой не мірыўся і ніколі сябраваць не буду», — абураецца Юрка. «Як можна сябраваць з такім хуліганам?» — здзіўляецца маці Юркі Святлана Кірылаўна. А маці Валеркі Вера Сяргееўна Бацяева «сама бачыла, як хлопцы разам нядаўна гулялі ў футбол...»

Я нічога гэтага не бачыла: ні як плявалі адзін на аднаго, ні як біліся пасля, ні апошнюю сцэну ўсёй драматычнай гісторыі — гульню ў футбол. І таму грунтавацца я магу толькі на існуючых дакументах гэтай невясёлай справы. Згодна з імі, дзесяцігадовы Юрка Арлоў у выніку бойкі атрымаў «лёгкія цялесныя пашкоджанні, якія не прывялі да кароткачасовага расстройства здароўя». Гэта — з акта судова-медыцынскай экспертызы, на якую накіравала Юрку старшы інспектар па справах непаўналетніх Стаўбцоўскага РАУС Л. М. Ваяводская. Амаль упэўнена, што такія ж «лёгкія цялесныя...» засведчыла б экспертыза і Валерку Бацяеву, бо «твар яго было не пазнаць» (са слоў маці, аднакласнікаў). «Аднак навошта ўмешваць міліцыю, калі адбылася звычайная хлапцоўская бойка?» — палічыла Вера Сяргееўна Бацяева. І, зразумела, «знімаць пабоі» з сына не пайшла. «Нічога сабе звычайная... Я знайшла Юрку амаль без прытомнасці... »,— не згаджалася Святлана Кірылаўна Арлова.

Так, дакументы ёсць. Юрка быў пабіты. Ёсць і сведкі. Далейшае слова — за камісіяй па справах непаўналетніх, якая большасцю галасоў (чатыры супраць траіх) ставіць «хулігана» Валеру Бацяева на ўлік у дзіцячы пакой).

І вось тады ў «барацьбу за справядлівасць» уключаецца бацька Валеры — В. Ф. Бацяеў. Піша ў розныя інстанцыі, звяртаецца ў пракуратуру, адзін экземпляр скаргі на пастанову камісіі пры Стаўбцоўскім райвыканкоме дасылае ў рэдакцыю «Чырвонай змены». Калі ўважліва з ёй азнаёміцца, можа скласціся ўражанне, што Васіль Фёдаравіч у час бойкі паміж хлопцамі стаяў дзесьці збоку і пільна занатоўваў тое, што было перад вачыма, у блакнот. Яшчэ больш незразумелым жэстам быў ліст ад С. А. Фянько — нашага чытача і, як аказалася, вашага добрага знаёмага. Як ні дзіўна, Васіль Фёдаравіч, але адрасы вашай кватэры і кватэры С. А. Фянько супадаюць поўнасцю. Як кажуць, тут каментарыі непатрэбны. «Прачытаў у газеце «Чырвоная змена» артыкул У. Міхно «Як раз плюнуць», — піша Фянько, — і вырашыў напісаць водгук. Артыкул выклікаў вялікую цікавасць, таму што напісаны вельмі аб'ектыўна і сумленна. Чуў нямала такіх станоўчых адзнак і з боку іншых чытачоў... Вельмі здзіўляе сам працэс пасяджэння камісіі па справах непаўналетніх пры выканкоме Стаўбцоўскага раённага Савета народных дэпутатаў ад 25 студзеня 1990 года...»

Хочацца, аднак, дадаць, што ніводнага слова ў артыкуле Міхно не было пра пасяджэнне гэтай камісіі. Таму зноў не зусім становіцца зразумелым, чаму аўтара пісьма вельмі здзівіў «сам працэс пасяджэння», аб якім ён зусім не мае ніякага ўяўлення. Як кажуць, чуў звон...

Іншая справа — рашэнне гэтага пасяджэння. Вось дзеля яго, а дакладней, супраць яго і накіраваны артыкул журналіста. Ці зможам мы папярэдзіць падлеткавую злачыннасць, калі будзем усіх «цяжкіх» і «падазроных» ставіць на ўлік? А потым жахацца: адкуль яны, чаму яны, нашы дзеці, такія жорсткія, бязлітасныя? «Бірка цяжкага» для многіх з іх можа застацца кляймом на ўсё жыццё, а некаторыя так звыкаюцца са сваёй «бандыцкай сутнасцю», што «ўваходзяць ў ролю» поўнасцю. І на ўсё жыццё. Вось гэта павінна было наводзіць на роздум. І яшчэ тое, чаму так авалодалі намі «ўсемагутныя» паперы, праверкі, правілы?

— Калі ўжо адбылося пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх, то абавязкова падлетка трэба ставіць на ўлік, — гаворыць мне В. І. Клябанская, адказны сакратар камісіі па справах непаўналетніх пры Стаўбцоўскім райвыканкоме.

— Нават калі камісія высветліла, што падлетак невінаваты?

— Правіла такое...

— А ці ёсць увогуле нейкі план пастаноўкі падлеткаў на ўлік?

— Што вы... Чым меней з кожным годам, тым лепш...

— А ці атрымліваецца меней?

— На жаль, падлеткавая злачыннасць расце. За апошнія гады ў нас у раёне павялічылася ў два разы.

Бясспрэчна, выхаванне — працэс складаны. І, завёўшы чарговую справу на падлетка ў дзіцячым пакоі міліцыі, на жаль, не заўсёды (а часцей і зусім) не атрымаем мы ўзорнага хлопчыка або дзяўчынку. Будзе ён з дзяцінства «цяжкі», будуць забараняць бацькі іншых дзяцей з ім сябраваць, а ў інспектара па справах непаўналетніх будуць «пухнуць» кнігі ад новых і новых запісаў патэнцыяльных хуліганаў. А вынік? Ён пакуль адзіны — «дзіцячая злачыннасць расце». І метадаў барацьбы з ёй мы, на жаль, не знайшлі. І кожную дваравую бойку паміж хлопцамі гатовы разглядаць нават не як правапарушэнне, а як злачынства (як у дадзеным канкрэтным выпадку).

Дырэктар Коласаўскай сярэдняй школы С. І. Бясько, на маю думку, вельмі справядліва лічыць усю гэтую мітусню «вакол міліцыі» дарэмнай. Сіламі школы, лічыць Сяргей Іванавіч, можна было б вырашыць гэты канфлікт. Знайшліся б і формы, і метады ўздзеяння на абодвух...

І сапраўды, знайшліся б. І не трэба было б усіх гэтых «дарослых» пасяджэнняў і сумніцельна абгрунтаваных рашэнняў. І не траўміравалі б яны лішні раз дзіцячыя душы.

**Мая ШЭНДРЫК.**

# Устаноўчы, але і першы

**У маі пад час святкавання Дзён славянскага пісьменства ў Мінску адбылася важная падзея, якая, на думку многіх, павінна стаць гістарычнай у жыцці рэспублікі. Размова ідзе пра першы Міжнародны кангрэс беларусістаў, які адначасова з'яўляўся і ўстаноўчым. У вялікім форуме даследчыкаў беларускай культуры і мовы прымалі ўдзел прадстаўнікі 11 краін свету. Трэба адзначыць, што на сённяшні дзень усе існуючыя нацыянальныя асацыяцыі беларусістаў налічваюць у сваіх радах каля 600 членаў, прычым у нашай рэспубліцы іх зарэгістравана амаль 350. Сярод замежных самымі буйнымі па колькаснаму складу асацыяцыямі беларусістаў з'яўляюцца польская і амерыканская, куды ўваходзяць адпаведна 100 і 66 чалавек.**

**На першым пленарным пасяджэнні шчырыя прывітанні да ўсіх сяброў Беларусі выказалі першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР С. Шушкевіч, прэзідэнт АН БССР акадэмік У. Платонаў, міністр замежных спраў рэспублікі П. Краўчанка, народны пісьменнік В. Быкаў. З прывітаннямі ад Беларускага ПЭН-цэнтра і ад Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» выступілі пісьменнікі Р. Барадулін і Я. Лецка. Змястоўныя, глыбокія даклады зрабілі старшыня Англабеларускага таварыства Дж. Дзінглі, дактары гістарычных навук В. Сядоў, М. Ткачоў, прафесар Нью-Йоркскага універсітэта Т. Бэрд. Між іншым, С. Шушкевіч паведаміў, што ад часоў Скарыны гэты кангрэс фактычна можна лічыць першай міжнароднай сустрэчай прыхільнікаў культуры і мовы беларускага народа. Ад імя мітрапаліта Філарэта павіншаваў усіх дэлегатаў з адкрыццём кангрэса протаіерэй Г. Латушка.**

**Пасля заканчэння пленарнага пасяджэння пачалі сваю працу тры секцыі па асноўных напрамках беларусістыкі: «Гісторыя і культура», «Мовазнаўства», «Літаратура, мастацкі пераклад і фальклор». З дакладам і паведамленнямі за два дні выступілі больш як 100 удзельнікаў кангрэса.**

**Найбольш цікавымі і арыгінальнымі былі па агульнаму меркаванню, даклады доктара філасофскіх навук У. Конана, дактароў гістарычных навук М. Іванова (Польшча), А. Смірнова (Масква), гісторыка з Маладзечна М. Ермаловіча, доктара фізіка-матэматычных навук Ю. Хадыкі і некаторых іншых. Вельмі эмацыянальна сваю асабістую канцэпцыю стварэння і развіцця беларускай дзяржаўнасці выклаў М. Ермаловіч, апошняя кніга якога, між іншым, выклікала інтарэс сярод многіх дэлегатаў кангрэса. Няпростыя і дыскусійныя праблемы этнічных граніц беларусаў у мінулым закрануў доктар тэхнічных навук з Масквы Я. Шыраеў. Нязгоду з асобнымі яго вывадамі выказаў прафесар С. Польскі і інш.**

**У другі дзень працы кангрэса, 26 мая, дэлегатамі амаль аднагалосна быў прыняты Статут Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (МАБ), падрыхтаваны раней групай спецыялістаў пад кіраўніцтвам беларускага філолага Г. Цыкуна. Падкрэслім, што абмеркаванне Статута прайшло вельмі ажыўлена і зацікаўлена, прычым некаторыя савецкія і замежныя беларусісты прапанавалі ў яго тэкст шмат паправак і ўдасканаленняў. Выбары Міжнароднага Камітэта беларусістаў (МКБ) з-за абмежаванасці часу былі перанесены на наступны дзень. Пасля тайнага галасавання ў склад МКБ дэлегаты выбралі найбольш вядомых спецыялістаў-беларусістаў з усіх раёнаў свету. Ад Беларускай асацыяцыі беларусістаў у МКБ увайшло 5 чалавек (больш усяго), сярод якіх прафесары А. Мальдзіс, Н. Гілевіч, Г. Цыкун, П. Сцяцко, А. Каляда. Члены МКБ на спецыяльным закрытым пасяджэнні вылучылі са свайго складу прэзідэнта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, ім, як і меркавалі многія, стаў старшыня Аргкамітэта кангрэса, доктар філалагічных навук, пісьменнік Адам Мальдзіс. Дарэчы, ад розных рэгіёнаў свету былі выбраны яшчэ 4 віцэ-прэзідэнты. Так, ад Амерыкі віцэ-прэзідэнтам зацверджаны прафесар Т. Бэрд, ад краін Заходняй Еўропы — прафесар Дж. Дзінглі (Англія), ад Усходняй Еўропы—доктар М. Кандрацюк (Польшча). Беларусістаў Савецкага Саюза будзе прадстаўляць у МАБ С. Піўтарак (Украіна).**

**У апошні дзень працы кангрэса вялікую зацікаўленасць сярод яго ўдзельнікаў і гасцей выклікаў круглы стол «Беларуская дыяспара».**

**На ім была праведзена дыскусія, а з дакладамі выступілі дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва з Нью-Йорка В. Кіпель і дэмограф з Мінска С. Мацюнін. Яны падрабязна расказалі пра праблемы беларускай эміграцыі ў Амерыцы і рассялення беларусаў у свеце. Пасля гэтага адбылося заключнае пленарнае пасяджэнне. Такім чынам трохдзённую напружаную працу кангрэса можна з відавочнасцю лічыць карыснай і плённай.**

**Э. ДУБЯНЕЦКІ.**

# Кузня беларускіх зорак



Алесь ЖАЛДАКОЎ

**Летась на фестывалі «Рока-кола-90» я сядзеў у журы побач з вядомым наваполацкім рок-музыкам Алесем Жалдаковым. Ён шчыра радаваўся таму, што гэты рух набывае нацыянальныя формы, што адным з цэнтраў гэтага працэсу становіцца ягоная родная Полаччына. Нібы прарок, ён, аднак, ужо спяваў тады са сваім «Сталкерам»: «Бацькавай рукою прыгарні, бацькаў позірк мне вярні». І вось сёлета «Рока-кола-91» пачалося пад «бацькавым позіркам» на наваполацкім могільніку, дзе той ляжыць з 1989 года, а сын — з 1990. Ён памёр у снежні летась ад лейкозу. А фестываль, прысвечаны ягонай памяці, пачаўся 25 мая ў дзень 30-годдзя Алеся Жалдакова.**

30 гадоў. Ён быў ненамнога старэйшым за сённяшніх зорак, але ледзь паспеў захапіць той час, калі справа ягонага жыцця — рок-музыка — нарэшце пачала знаходзіць разуменне, асэнсаванне ейнай ролі і ў справе нацыянальнага адраджэння сярод моладзі, пачала знаходзіць мецэнатаў і спонсараў. Спонсарамі «Рока-кола-91» сталі навукова-вытворчыя аб'яднанні «Цінопас», «Маркет», завод «Палімір». З іхняй фінансавай дапамогай і пры падтрымцы дырэкцыі Палаца культуры будаўнікоў наваполацкі рок-клуб здолеў арганізаваць фэст на салідным узроўні.

Узровень маецца на ўвазе не толькі арганізацыйны, калі для самога фэсту была прадастаўлена бліскуча аформленая зала, калі музыкі атрымалі цудоўныя ўмовы для рэпетыцый і выступу на класнай апаратуры фірмы «Dynacord», а для гасцей і ўдзельнікаў журы былі забяспечаны ўтульныя паўлюксы гатэлю «Беларусь». Але быў і саліднага ўзроўню кантынгент — як канкурсанты, гэтак і госці.

Адкрыцці пачаліся з самага пачатку. І гэта было нават сімвалічна. Вядучы аб'явіў нікому раней не вядомы гурт **«Ветэран-скрэпер»,** які, паводле ягоных слоў, «пазбягае сацыяльнай публіцыстыкі ў сваёй творчасці дзеля таго, каб паглыбіцца ў духоўны свет чалавека».

**Жыццё маё —**
**Гэта выдатны крок.**
**Паўзверх падзей —**
**Такі бясконцы шэраг слоў...**

Так, даследуючы духоўны свет сучасніка, гурт не мог абысціся без вяртання да роднай мовы, і яна цудоўна спалучылася з прафесійна выкананай рэтра-музыкай бугі-вугі. Колькі гледачоў не стрымаліся адразу і завіравалі ля сцэны ў эфектным танцы. А ўсе музыкі гурта «Ветэран-скрэпер» сапраўды маюць прафесійнае дачыненне да музыкі: яны — студэнты Наваполацкага музвучылішча. Самі пішуць музыку, добра аранжыруюць яе, а тэксты стварае іхні ж саксафаніст Ігар Спірыдонаў.

Больш сталы па ўзросту, але і больш наіўны ў творчым плане гурт **«Городское население».** Іхні «класічны гард-рок» уяўляў сабой набор тапорна скляпаных гатовых схем з музыкі ўзору 70-х гадоў. І хоць рытмічная структура магла справакаваць фанаў да танца, але захапіць слухача выканаўчым майстэрствам ці ўзрушыць глыбінёю ўзнімаемых праблем — ёк!

У гэтым сэнсе куды лепш выглядаў ансамбль **«Начны патруль»,** касцяк якога склалі вядомыя па мінулагоднім фестывалі музыкі з гуртоў «Рэйдар» і «Счастливый наследник». Прызёр «Рока-кола-90» гітарыст Валерый Пашчанка зноў скарыў публіку пявучымі пералівамі свайго «фэндэра». Аднак слабасцю гурта быў недахоп артыстызму, а статычнасць на сцэне стварала сярод публікі настрой штучна ствараемай узнёсласці.

Поўным кантрастам таму быў выступ трэшавай каманды з Полацка **«Дзіда»,** добра ўжо вядомай чытачам «Чырвонкі» ды слухачам рэспубліканскага радыё. Гурт расце на вачах і ў выканаўчым майстэрстве, і ў свядомай творчай пазіцыі. Авангардныя структуры трэш-металу, ад якіх завальвалася слава на канцэртах нават такіх заходніх кітоў, як «Вэнам», тут, у Наваполацку, стварыла ў зале ўражанне дакладна працуючага, імпэтна заведзенага гадзінніка, на цыферблаце якога адбываецца шаманская дзея.

Ад упэўненай зухаватасці музыкаў шматлікая металічная тусоўка завялася адразу і не на жарт, а ад ейнага самаадданага захаплення і музыкі ў сваю чаргу гралі з яшчэ большай аддачай.

— «Дзі-да»! «Дзі-да»! «Дзі-да»! — скандзіравалі ўражаныя прыхільнікі крутой музыкі, мабыць, першае ў сваім жыцці роднае беларускае слова.

А гурт тым часам заварожваў сугестыяй сваіх трэшавых вобразаў:

**З выгляду — быццам грозныя,**
**Спробуй капнуць — дык тухлыя.**
**Поскудзь бывае розная:**
**Ёсць і худыя, і пухлыя.**

Гэта новая кампазіцыя «Поскудзь», тэкст якой гітарыст і вакаліст «Дзіды» Валеры Воліс напісаў разам з Лерай Сом. Былі і старыя творы. Напрыклад, «Стрэса-тэрапія». Але колькі чароўных фарбаў з'явілася апошнім часам у ёй. Як лагодна і ў той жа час нечакана можа ўплываць у трэшавы чос пявучая блюзавая мелодыя.



Выступае «ВЕТЭРАН-СКРЭПЕР».

Тэма нацыянальнай свядомасці часам, на жаль, становіцца выгадным спекулятыўным козырам. Як гэта выявіў і наваполацкі рок-ансамбль **«Отдел кадров».** У песні «Нацыянальная эрозія» ён бічаваў той грэх, апалагетам якога быў сам. А колькі крывадушнасці выявілася ў ягоных дэкларацыях, калі следам за імі ішла поўная нацыянальная эрозія ў песні «Ты не плач, Расія», дзе чуўся плач не па прыгнечанай бацькаўшчыне, а менавіта па імперыі.

Расчараванні змяніліся ажыўленнем надзей, калі на сцэну выйшаў **«Кадэцкі корпус»,** які публіка сустрэла як чаканую зорку. Гурт яшчэ не такі тытулаваны, як «Мясцовы час», але весткі пра яго дакаціліся ўжо і да рэспубліканскага радыё, прэсы. Таму дзівіцца, што калектыў мае добрую вядомасць і на радзіме, не даводзілася. Стылістычна ён грунтуе жывыя рытмы на меладычных традыцыях рок-мэйнстрыма. У рэпертуар уваходзяць і ўласныя кампазіцыі накшталт прысвечанай Алесю Жалдакову песні «Вазьмі ў рукі гітару сваю», і рок-апрацоўкі бардаўскіх твораў («Чароўная Ганна» С. Сокалава-Воюша). Фестывальным супер-гітам аказалася кампазіцыя «Рок-аэробіка», якую падпявала ўся зала.



**Музыкант Алесь КУЗЬМІН і паэт Алесь АРКУШ абмяркоўваюць чарговы выступ.**

Старэйшым з канкурсантаў аказаўся ансамбль **«Квазар»,** які існуе з 1987 года. Стылістыку ягонай музыкі вядучы чамусьці ахарактарызаваў як нэа-гард, хоць была гэта дакладная калька з рока 70-х гадоў. У адрозненне ад дзіравых кампазіцый «Городского населения» група «Квазар» іграла гладка, шчыльна, гітава, але... не магла ўтрымаць стомленую доўгім канцэртам публіку ад разбягання.

Цяжкі лёс завяршыць конкурсны марафон выпаў ансамблю **«Вчера».** Трэба сказаць, што выканаўчыя здольнасці прыкметна ўзняліся з часу леташніх выступаў групы Ігара Фальчанкі на наваполацкім «Рока-коле-90» і мінскіх «Трох колерах». Але, як справядліва паспела зазначыць усюдыіснае мюнхенскае радыё «Свабода», «гэтага цяжка было б не дасягнуць, год ад года іграючы адны і тыя ж сентэнцыі накшталт: «привет-ответ-сомнений нет».

Вядучы выказаўся, што ансамбль выступае ў стылі «ленинградского смыслового рока».

— Ці не працягваючы традыцыі Маі Крысталінскай,— слушна дадаў нехта з публікі.

Выступленне гасцей фестывалю, якое адбылося перад гала-канцэртам, на маю думку, было занадта зацягнутым і перагружаным. Што ўяўлялася там сапраўды мэтазгодным, дык гэта прэзентацыя новай праграмы «Ускраіна» полацкай зоркі **«Мясцовы час»,** знаёмства з цікавай піцерскай панк-бандай **«Куалалалумпур»,** выступленне жонкі **Алеся Жалдакова** Ірыны, якая выканала некалькі ягоных песень, і Алесевага гурта **«Сталкер»,** спецыяльна сабранага да фестывалю. Запомнілася яшчэ віцебская **«Грамада»** сваімі рок-апрацоўкамі беларускага фальклору. Але розныя тутэйшыя **«Міражы», «Попмагазіны», «Магістры»,** якія штогод выступаюць пад новымі назвамі, не мяняючы толькі сваёй несвядомасці, патаналі сярод рэстаранных «зорак» накшталт групы **Сяргея Часнакова,** якая ў вольны ад «двух прихлопов-трех притопов» час намагалася закасіць пад Джымі Хендрыкса. Не кожны тут дасядзеў бы да канца, каб не чаканне канцэрта пераможцаў.

Адкрыў яго «Начны патруль». Выступаў, аднак, пад новай ужо назвай — **«Грунвальд»,** матывуючы гэтым сваё жаданне пераходу на нацыянальныя рок-рэйкі.

Лепшы вакаліст **«Отдела кадров»,** як і трэцяе месца **«Вчера»,** зноў панервавалі публіку «нацыянальнай эрозіяй».

Затое далей слухачоў чакала яшчэ адна порцыя заваднога рэтра-бугі **«Ветэран-скрэпера»** (2 месца), меладычныя гіты **«Кадэцкага корпуса** (1 месца) і на завяршэнне — сугестыўная свістапляска **«Дзіды»,** сапраўдны маятнік гадзіннікавага механізма якой — бубнач Уладзя Дзёмін — не дазволіў праігнараваць калектыў нават самым кансерватыўным удзельнікам журы. Як слушна зазначыў прэзідэнт наваполацкага рок-клуба Сяржук Анішчанка, «Дзіда» ўжо гатовая, каб кінуць яе і на вялікія сцэны. Нядзіўна, што гэты крыху экстравагантны, але, бадай, самы эфектны рок-гурт завяршаў праграму ўсяго фэсту. Канчатковая стаўка заўсёды робіцца на зорак, а не на тытулы ды званні.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА,**
**сябра журы «Рока-кола-91».**
Фота **У. Панады.**

г. Наваполацк.



**«Дзіда» перад выступленнем.**



**Журы ўручае приз Алегу ПАЎЛЕНКУ («Кадэцкі корпус».)**

**«Не тое шкада, што чалавек нарадзіўся ці памёр, што ён страціў свае грошы, дом, маёнтак: усё гэта не належыць чалавеку. А тое шкада, калі чалавек страчвае сваю сапраўдную ўласнасць — сваю чалавечую годнасць».**

СЦВЯРДЖЭННЕ гэтае належыць рымскаму філосафу Эпіктэту. І выказана яно на рубяжы І і ІІ стагоддзяў нашай эры.

Два тысячагоддзі пасля гэтага дзевяцікласнікам адной з мінскіх школ у час самастойнай работы на ўроку этыкі было прапанавана наступнае заданне. «Дзяўчынка зрабіла прычоску, як у любімай актрысы, і прыйшла ў школу. Класны кіраўнік сказала ёй прывесці галаву ў звычайны выгляд. Дзяўчынка не паслухалася. Тады настаўніца ўзяла і насільна расчасала валасы вучаніцы. Прааналізуйце сітуацыю».

Сітуацыя, прама скажам, ганебная. Але чаго дамагалася выкладчыца этыкі, прапануючы яе для аналізу сваім выхаванцам? Падштурхнуць іх да разважанняў аб чалавечай годнасці? Але хіба само прызнанне верагоднасці падобнага канфлікту не прыніжае годнасць вучняды і годнасць настаўніка? У цывілізаванай школе цывілізаванай краіны гэткія дзікунскія паводзіны педагога немагчымыя нават на гіпатэтычным узроўні.



Як жа дызарыентавана маральна наша грамадства, калі нават настаўнікі этыкі не здольны намацаць дакладныя інтанацыі ў ажыццяўлені сваёй галоўнай па ідэі задачы — выхаванні маральнасці.

Мы гінем духоўна ад фальшу і прымітыўнасці. Нібыта адасобленыя недарэчным сямідзесяцігоддзем нашай гісторыі ад тысячагоддзяў этычных шуканняў і знаходак чалавецтва. Цынізм таталітарнай дзяржавы ў адносінах да векавых маральных нормаў павярнуўся цынізмам асобных людзей у адносінах адзін да аднаго і нават цынізмам у адносінах да самога сябе.

КРЫМІНАЛЬНАЯ справа Ігара Г. вызначаецца зусім не вастрынёй сюжэта. Сюжэт якраз да прыкрасці просты.

У час вячэры са сваёй сужыцелькай Марынай К. і яе сяброўкай Людмілай Н. гэты малады чалавек дазволіў сабе пэўныя вольнасці. Абдымаў Людмілу, спрабаваў яе пацалаваць, садзіўся да яе на калені.

Марыне, натуральна, гэта не спадабалася. І калі сяброўка пайшла, яна накінулася на Ігара з папрокамі. Але той, не абцяжарваючы сябе тлумачэннямі і тым больш апраўданнямі, б'е ў адказ жанчыну па сківіцы. Паміж палюбоўнікамі пачынаецца бойка. Ігар хапае з паліцы адвёртку і ўтыкае яе ў Марыну.

Кроў ахалоджвае абодвух. Сумеснымі намаганнямі перабінтоўваюць рану і кладуцца спаць на розных ложках.

Ноччу Марыне робіцца зусім дрэнна. Ёй выклікаюць «хуткую дапамогу». З бальніцы, даведаўшыся пра акалічнасці траўмаў пацыенткі, урачы паведамляюць усё гэта ў міліцыю.

Некалькі радкоў з заключэння судова-медыцынскай экспертызы. «У Марыны К. меліся пашкоджанні: пранікаючае раненне грудной клеткі злева, якое суправаджаецца вярхушачным пнеўматраксам, адкрыты пералом ніжняй сківаіцы злева ў вобласці 8-га зуба, закрытая чэрапна-мазгавая траўма, страсенне мазгоў... Пашкоджанні ў сукупнасці адносяцца да катэгорыі цяжкіх па прыкмеце небяспекі для жыцця». Ці не надта сур'ёзны дыягназ для звычайнага высвятлення адносін?

Раніцай у кватэру Марыны К. прыязджае міліцыя. На Ігара Г. заводзіцца крымінальная справа.

Аднак у ходзе следства пацярпеўшая нечакана змяняе свае паказанні: пачынае сцвярджаць, што на адвёртку напаролася сама, упаўшы выпадкова з ёю ў руках на тахту. Больш таго, напярэдадні суда Марына К. выходзіць замуж за Ігара. Зрэшты, на змест прыгавору ўсе гэтыя хітрыкі пацярпеўшай ніякага ўплыву не зрабілі: віна падсуднага была відавочнай і поўнасцю даказанай. Тры гады пазбаўлення волі — мера прызначанага яму судом пакарання.




Вось такі немудрагелісты сюжэт. І, як я ўжо казала, не ўласна ім прыцягнула да сябе маю ўвагу гэта крымінальная справа. Уражвае тут іншае: абсалютнае, паслядоўнае, ледзь не дэманстратыўнае грэбаванне жанчынай сваёй годнасцю.

Як можна апусціцца да папрокаў мужчыну, які на тваіх вачах абдымае тваю ж сяброўку і садзіцца да яе на калені? Як можна пакінуць у сябе на ноч чалавека, які збіў і прынізіў цябе? Як можна хлусіць дзеля яго следчым і суддзям? Як можна ў рэшце рэшт выйсці за гэтага мужчыну замуж?

Бясспрэчна, боязь жаночай адзіноты, шкадаванне чалавека, з якім жыў пэўны час пад адным дахам, — пачуцці зразумелыя і зусім не ганебныя. Але, ахвяраваўшы сваёй годнасцю, мы не проста ахвяруем сабой — мы страчваем сябе. Памятаеце ў Эпіктэта: «А тое шкада, калі чалавек страчвае сваю сапраўдную ўласнасць — сваю чалавечую годнасць»?

Зрэшты, ці карэктнае гэта супастаўленне: маральнай пазіцыі вялікага мудраца старажытнасці, аднаго з самых славутых філосафаў-стоікаў і жыццёвай логікі простай, зацюканай нашай савецкай рэчаіснасцю жанчыны? Эх, калі б у адной Марыне была справа! Яе ж паводзіны ў апісанай сітуацыі той жа маральнай пробы, што і паводзіны многіх нашых суайчынніц, якія пішуць скаргі на сваіх мужоў у партком, дробязна скандаляць у гарадскім транспарце, не саромеюцца п'янымі паказвацца сваім дзецям. Яны той жа маральнай пробы, што і паводзіны нашых суайчыннікаў — мужчын, якія дазваляюць начальніку павышаць на сябе голас, спрачаюцца з жанчынамі за месца ў чарзе, пакорліва бяруць у жонак штодня рубель на абед (ці, можа, ужо два, з папраўкай на эканамічную сітуацыю.) Яны той жа маральнай пробы, што і паводзіны адказных асоб, якія спакойна прымаюць гуманітарную дапамогу з Заходняй Германіі і застаюцца на сваіх адказных пасадах, нягледзячы на неаднойчы і недвухсэнсоўна выказаны ім народам недавер.

І не трэба толькі суцяшаць сябе тым, што віной усяму — наша матэрыяльная галеча. Галеча духоўная — вось гэта сапраўды.

А ШТО ДАТЫЧЫЦЬ Эпіктэта, то ён па нараджэнню—раб. Быў куплены сакратаром Нерона, вольнаадпушчанікам Эпафрадытам. Эпіктэт сцвярджаў, што былы раб, стаўшы гаспадаром, асабліва жорсткі да сваіх слуг. У прыпадку гнева Эпафрадыт так пакалечыў свайго раба-філосафа, што той застаўся кульгавым на ўсё жыццё. Да нас дайшла яго эпітафія: «Раб Эпіктэт, кульгавы і бедны, як Ір, сябар бессмяротных». Сябар бессмяротных — сябар багоў — чалавек, які спазнаў вышэйшую мудрасць.

К канцу жыцця Эпіктэт і сам быў адпушчаны на волю, працягваў займацца філасофіяй. Жыў ён у вялікай беднасці, хаця і стаў славутым і надзвычай паважаным сучаснікамі. Адзін з іх, яго вучань, сенатар, а потым і консул Флавій Арыян застэнаграфаваў і выдаў гутаркі Эпіктэта.

Цэнтральная ідэя, якая праходзіць праз усе чатыры кнігі дыятрыбаў (гутарак), — ідэя ўнутранай свабоды чалавека. Філосаф даказвае, што можна захаваць годнасць і самапавагу пры любых самых неспрыяльных знешніх умовах.

«Разбяры ўсё, размяжуй і скажы: «Тое, што адносіцца да знешняга свету, не залежыць ад мяне. Свабода волі залежыць ад мяне. Дзе мне шукаць дабро і зло? Унутры ў сабе». А ўсё чужое ніколі не называй ні дабром, ні злом, ні карысцю, ні шкодай»...

Эпіктэт імкнецца, каб яго слухачы ўсвядомілі самакаштоўнасць свайго ўнутранага свету, зразумелі, што толькі іх уласная воля здольна зрабіць іх сапраўды свабоднымі і незалежнымі ад прыхамацей лёсу.

«Калі тыран пагражае мне: «Закую цябе», я гавару: «Ён пагражае рукам і нагам». Калі ён гаворыць: «Адсяку табе галаву», я гавару: «Ён пагражае галаве». Калі ён гаворыць: «Кіну тябе ў турму» — «Усёй тленнай плоці»... Так, значыць, ён табе нічым не пагражае?— Калі я ўпэўнены ў тым, што ўсё гэта не мае ніякага дачынення да мяне, то — нічым... Каго, такім чынам, мне баяцца?




Над чым гаспадара? Над тым, што залежыць ад мяне? Няма ніводнага такога чалавека».

Бо ніхто не ўладарны над нашымі меркаваннямі, пачуццём уласнай годнасці, воляй, акрамя нас саміх. Усвядоміўшы гэта, пачынаеш адчуваць прыліў сіл.

Вядома, сітуацыя з тыранам, як мы гаворым сёння, экстрэмальная. Аднак, калі б мы ў нашым паўсядзённым жыцці менш хваляваліся, скандалілі з-за рэчаў знешніх, ад нас не залежных, наколькі больш прыстойным і шчаслівым было б яно! Наколькі прыемней было б кантактаваць з калегамі, ездзіць у транспарце, хадзіць па пакупкі, праводзіць вечары з сям'ёй.

Прама скажам, рэчаіснасць наша не вельмі спрыяе культываванню пачуцця ўласнай годнасці ў чалавеку. Нас імкнуцца прынізіць пастаянна: прымушаючы жыць у цесных кватэрах, таўчыся ў чэргах, цярпець хамства савецкага сервісу і высакамернасць савецкіх чыноўнікаў. Аднак нават у гэтых ганебных умовах ніхто не можа адняць у нас — акрамя нас саміх! — нашу сапраўдную ўласнасць — нашу чалавечую годнасць.

ДОЎГАЯ ЧАРГА ў касу напярэдадні красавіцкага павышэння цэн. У кожнага ў руках — бохан гарачага хлеба, у таўкучцы выхаплены з кантэйнера.

— Божа, як жыць у наш ненармальны час? — з горыччу ўскліквае адна з жанчын.

— Застаючыся нармальным, — спакойна адказвае ёй другая.

Так, гэта адзінае дастойнае выйсце. Толькі яно, пачуццё ўласнай годнасці,



здольнае не даць кожнаму з нас быць уцягнутым у багну татальнага раздражнення, беззаконнасці, амаральнасці, духоўнага плебейства. Толькі яно засцерагае ад дробязнасці і мітуслівасці.

«Сушаныя фігі з арэхамі раскідваюць. Дзеці хапаюць і сварацца паміж сабой. Мужчыны — не: яны ж лічаць гэта дробяззю... Правінцыі раздаюць... Грошы... Прэтарства, консульства. Хай расхопліваюць дзеці. Хай іх праганяюць, хай б'юць, хай яны цалуюць рукі даючага, рабоў яго. А для мяне гэта — сушаная фіга з арэхамі».

Дробнарабамі называе Эпіктэт тых, хто прыніжаецца перад моцнымі свету гэтага дзеля простага абеду, вялікарабамі — тых, хто ахвяруе ўласнай годнасцю дзеля больш буйной мэты — правінцыі або консульства.

Ці не таму наша грамадства ніяк не можа выбрацца з крызіснай сітуацыі, што ў ім на ўсіх узроўнях рэзка не хапае смела, самастойна, маштабна думаючых кіраўнікоў? Надта доўгі час кіруючыя пасады запаўняліся вялікарабамі. Калі, нарэшце, мы зразумеем, што самастойна думаючая адказная асоба — гэта выгадна ўсім?

Зрэшты, пераважна грамадства наша складаецца якраз з дробнарабоў.

ЛЯ ТРАЛЕЙБУСНАГА прыпынку адкрыўся новы кааператыўны кіёск. Жаночыя боты — за тысячу, світэр—за васемсот, духі — за трыста. Маладая пара доўга разглядвае рэчы і цэны.

— Пазабівала б, — рэзюміруе, нарэшце, дзяўчына.

Сродкі не дазваляюць ёй купляць кааператыўныя тавары. Прайсці міма спакойна — не хапае годнасці. Гэта — логіка дробнараба.

Да свята на арганізацыю выдалі некалькі прадуктовых заказаў, але менш, чым людзей у калектыве. Вырашылі заказы расфарміраваць і падзяліць. Пакуль дзялілі — усе ўшчэнт перасварыліся. Гэта — паводзіны дробнарабоў.

У нас і так усяго мала і ўсё дэфіцытнае. Ці міласэрна гэта — заклікаць людзей праяўляць годнасць і стрыманасць там, дзе ім можа хоць штосьці дастацца? Ды няўжо ж імпартныя боты ці бляшанка растваральнай кавы вартыя нашых душэўных перажыванняў? Мы ж такім чынам самі даём над намі ўладу ўсім гэтым мафіёзі, спекулянтам, фарцоўшчыкам.

І ўсё ж ці не супярэчаць пастаянная стрыманасць і самакантроль прыродзе чалавечай? Мы і так надта доўга грэбавалі ёю, за што і пакараны.

«Калі конь не шчаслівы? Калі ён страчвае свае прыродныя здольнасці: не тады, калі ён не можа кукаваць, але калі не можа бегаць. А сабака? Калі лятаць не можа? Не, калі не можа ісці па следу. Значыць, ці не так і чалавек нешчаслівы, не той, які не можа душыць ільвоў ці абхопліваць статуі (ён жа прыйшоў, не маючы нейкіх здольнасцей для гэтага ад прыроды), але той, які страціў добразычлівасць, сумленнасць. Вось яго варта было б аплакваць: наколькі злы прыйшоў ён!» Такім чынам, дабрату, спагадлівасць, любоў да сябе падобных Эпіктэт лічыць **прыроднымі** чалавечымі якасцямі.

Ставячы найвышэйшай мэтай свабоду асобы, ён зусім не прапаведуе свавольства, несумяшчальнае з жыццём у грамадстве. Чалавек павінен заўсёды памятаць, што ён частка вялікага поліса багоў і людзей і маленькага поліса, гэты вялікі поліс капіруючага (мікракалектыву, па тэрміналогіі сучасных нам сацыёлагаў).

Хіба састарэлі ідэі філосафа? Хіба ўспрыняцце іх не здольна зрабіць жыццё наша больш дастойным і шчаслівым?

Чалавек з пачуццём уласнай годнасці не дапусціць халтуры ў рабоце, не будзе красці па-дробнаму і па-буйному, не дазволіць сабе жыць у брудзе. Ён — душэўна ўраўнаважаны. А ці не ў адсутнасці менавіта душэўнай раўнавагі ў большасці з нас — усеагульная сённяшняя раздражнёнасць, апатыя, мітуслівасць, агрэсіўнасць?

**Галіна ПШОНІК.**

*Сваімі рукамі*

# Пояс «стужка»

**Матэрыял:** шчыльная папера (ватман або паўватман), скура натуральная або штучная, тканіна, клей гумавы.

Зрабіце загатоўку: на палоску шчыльнай паперы па памерах пояса нанясіце тонкі слой клею і, даўшы яму злёгку падсохнуць, налажыце палоску тканіны. Шырыня і даўжыня яе павінны быць на 1—2 мм больш за шырыню і даўжыню папяровай стужкі. Выступаючыя краі падвярніце і падшыйце з адваротнага боку пояса. Аднаму з канцоў надайце форму трохвугольніка.





Адваротны бок загатоўкі таксама намажце клеем і налажыце на яе палоску скуры або скураміта. Калі яна добра наклеіцца, прастрачыце яе па краі на швейнай машынцы. Нітку вазьміце ў тон тканіны.

Адпрасуйце пояс, зрабіце адтуліны і ўстаўце блочкі. Імі ж прымацуйце пояс да спражкі.

Зрабіце загатоўку спражкі: дроцік даўжынёй 10—12 см і сячэннем 1,5—3 мм сагніце ў выглядзе трохвугольніка, авала, квадрата (па жаданню). Разагнуўшы шпільку, пераламіце яе кусачыкамі папалам. Адну палавінку прымацуйце да загатоўкі для спражкі: гэта будзе стрыжань для зашпільвання пояса. Каркас абцягніце трубачкай з тканіны ў тон пояса. (Прыклейце да яе гумавым клеем палоску паперы для шчыльнасці).

Надзеньце на пояс два сшытыя трубачкай кальцы для прасоўвання свабоднага канца стужкі. Акрамя прамога варыянта, ён можа быць розных канфігурацый.

Пояс можна выкарыстоўваць для касцюма, паліто, плашча.

*Наша атэлье*



# СПАДНІЦА

**ПАМЕР 164—92—100.**

**РАСХОД ТКАНІНЫ пры шырыні 150 см — 65 см.**

**УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ:**

**——— — задняя полка**

**— · — — пярэдняя полка**

**Сярэдняе шво задняй полкі заканчваецца шліцай. Пояс 79×6 см, запас на засцежку 4 см, шырыня ў гатовым выглядзе 3 см.**

*(Выкрайка на 12—13-й стар.)*

# Жаночы джэмпер

Памер 44.

**МАТЭРЫЯЛ:** 300 г пражы ліловага колеру, 100 г пражы белага колеру; пруткі №№ 3 і 4; кручок № 3,5.

**УЗОРЫ ВЯЗКІ. УЗОР 1** — рызінка (1х1). **УЗОР II** — ажурная вязка «зігзаг». Вязка дзеліцца на 10 плюс 2 крайнія. 1-ы рад: * накід, 3 правыя, 1 вочка зняць, не правязваючы, 2 разам правым, надзець раней неправязанае вочка на гэтае правае; 3 правыя, накід, 1 правае *. 2-гі рад і ўсе вываратныя рады вязаць вываратнымі вочкамі. 3-ці рад: * 1 правае, 1 накід, 2 правыя, 1 вочка зняць, не правязваючы, 1 накід, 2 правыя, 1 вочка зняць, не правязваючы, 2 разам правым, надзець раней неправязанае вочка на гэтае правае, 2 правыя, 1 накід, 2 правыя *. 5-ы рад: * 2 правыя, накід; зняць, не правязваючы, 1 вочка, 2 разам правым, надзець раней не правязанае вочка на гэтае правае, 1 правае, накід, 3 правыя *. 7-ы рад: * 3 правыя, накід, 1 вочка зняць, не правязваючы, 2 разам правым, надзець раней не правязанае вочка на гэтае правае, накід, 4 правыя *. 9-ы рад: паўтараць вязку з першага рада. **УЗОР III** — каляровыя ажурныя палоскі. 1-ы рад: вязаць з пражы ліловага колеру правымі вочкамі. 2-гі рад: з пражы ліловага колеру вязаць вываратнымі вочкамі. 3-ці рад: з белай пражы — 1 правае *, 1 накід, 2 разам правым *; паўтараць ад * да * да канца рада. 4-ы рад: з белай пражы — вываратнымі вочкамі. 5-ы рад: з пражы ліловага колеру — правымі вочкамі. 6-ы рад: з пражы ліловага колеру — вываратнымі вочкамі. 7-ы рад: з белай пражы — правымі вочкамі. 8-ы рад: з белай пражы — вываратнымі вочкамі. 9-ы рад: паўтараць вязанне з першага рада.




**ДЖЭМПЕР:** вяжацца адным кавалкам. На пруткі № 3 набярыце 54 вочкі з пражы ліловага колеру і правяжыце 7 см па ўзору 1. Змяніце пруткі на № 4 і працягвайце вязаць па ўзоруIII. У першым радзе зрабіце 24 дадатковыя вочкі, раўнамерна размеркаваўшы іх па ўсім радзе. Паўтарайце 8 разоў вязку палосак па ўзору III, павялічваючы з абодвух бакоў 22 разы ў кожным трэцім радзе па 1 вочку. Затым з бакоў па 1 вочку. Затым з пражы ліловага колеру набярыце з абодвух бакоў па 23 дадатковыя вочкі для пераду і спінкі і вяжыце 3 см панчошнай вязкай (правыя рады вяжыце правымі вочкамі, левыя — левымі). Далей пераходзьце на вязку па ўзору II. Затым правяжыце яшчэ 3 см панчошнай вязкай.

Для афармлення гарлавіны закрыйце 6 цэнтральных вочак і працягвайце вязаць абедзве палавіны асобна. Працягвайце вязаць толькі на вочках пераду. Для далейшага афармлення гарлавіны памяншайце ў кожным другім радзе 3 разы па 2 вочкі і 2 разы па 1 вочку. Далей вяжыце 12 см прама, затым павялічвайце ў кожным другім радзе 2 разы па 1 вочку і 3 разы па 2 вочкі. Далей вяжыце толькі на вочках спінкі. Для афармлення гарлавіны спінкі закрывайце ў кожным другім радзе 1 раз па 2 вочкі, 1 раз па 1 вочку і 1 раз па 2 вочкі. Афармляйце другую палавіну гарлавіны спінкі адпаведна. Затым злучыце палавінкі гарлавіны спінкі і пераду, набраўшы 6 дадатковых вочак, і вяжыце на ўсіх вочках рада. Правяжыце 3 см панчошнай вязкай, затым вяжыце па ўзору II, затым яшчэ 3 см панчошнай вязкай. Закрыйце з абодвух бакоў па 23 крайнія вочкі спінкі і пераду.

Пераходзьце на вязку па ўзору III — каляровыя палоскі на рукавах, паўтараючы малюнак 8 разоў і выконваючы ўсе ўбаўленні адпаведна з ужо звязаным рукавом. У апошнім радзе перад рызінкай закрыйце 24 вочкі, раўнамерна размеркаваўшы па ўсім радзе. Змяніце пруткі на № 3 і вяжыце 5 см па ўзору 1. Закрыйце ўсе вочкі ў адзін прыём.

Для афармлення спінкі і пераду правяжыце аддзелачную рызінку. Для гэтага на пруткі № 3 па краі набярыце 90 вочак і вяжыце па ўзору 1—9 см. Закрыйце ўсе вочкі ў адзін прыём.

**ЗБОРКА.** Сшыйце бакі і рукавы. Край гарлавіны абвяжыце слупочкамі без накіду (2 рады) кручком.

*Рыба на любы густ*

## РЫБНАЕ ФІЛЕ Ў ФАЛЬЗЕ

800 г рыбнага філе, лімонны сок, соль, чорны молаты перац, салодкая папрыка, алей, лімон, лаўровы ліст, 6 гарошын чорнага перцу, зяленіва пятрушкі.

Рыбнае філе вымыць, папырскаць лімонным сокам і даць пастаяць на працягу 10 мінут. Пасаліць, папярчыць, пасыпаць папрыкай. Ліст фальгі спырснуць алеем і пакласці на яго кавалкі рыбы. Зверху пакласці кружочкі лімона, лаўровы ліст і пасыпаць гарошкамі перцу. Фальгу закрыць і пакласці швом дагары ў плоскі посуд, папярэдне наліўшы ў яго крыху кіпеню. Рыбу паварыць 10 мінут, пакет дастаць, пакласці на талерку. Фальгу адкрыць. Рыбу гарніраваць зяленівам пятрушкі.

Падаваць з адвараным рысам і зялёнай салатай.

## РЫБНАЕ ФІЛЕ Ў ЦЕСЦЕ

800 г рыбнага філе, воцат або лімонны сок, 200 г мукі, 2 яйцы, 1/4 л піва, сталовая лыжка алею, лімон, пятрушка, тлушч для смажання, соль.

Філе вымыць, нарэзаць маленькімі парцыённымі кавалачкамі, спырснуць воцатам або лімонным сокам, даць пастаяць паўгадзіны і пасаліць.

З астатніх кампанентаў (акрамя бялкоў) прыгатаваць не вельмі вадкае цеста і падмяшаць у яго ўзбітыя бялкі. Кавалачкі рыбы накалоць на відэлец, абмакнуць у прыгатаванае цеста і абсмажыць з абодвух бакоў у вялікай колькасці разагрэтага тлушчу.

Пры падачы на стол гарніраваць кружочкамі лімона і зяленівам пятрушкі.

## ЯХНІЯ З РЫБЫ

3/4 кг рыбы (карпа), 3—4 рэпчатыя цыбуліны, 1/2 шклянкі алею, 4—5 памідораў, 2 сталовыя лыжкі дробна пасечанага зяленіва пятрушкі, лаўровы ліст, соль, чорны молаты перац.

Пачышчаную, вымытую і нарэзаную на кавалкі рыбу пасаліць і пасыпаць перцам. Нарэзаную цыбулю падсмажыць на алеі. Калі цыбуля падрумяніцца, дабавіць нацёртыя на буйной тарцы памідоры, пасаліць і варыць 10—15 мінут. Даліваць гарачую ваду, каб атрымаўся соус умеранай густаты, дабавіць зяленіва пятрушкі і здробнены лаўровы ліст. Соус выліць у сатэйнік, пакласці ў яго кавалкі рыбы і варыць на слабым агні каля 30 мінут.

## ГЮВЕЧ З ДРОБНАЙ РЫБЫ

1 кг дробнай рыбы, шклянка алею, шклянка белага сталовага віна (віно можна замяніць 4—5 сталовымі лыжкамі воцату і 1/2 шклянкі вады), 5—6 долек дробна нарэзанага часнаку, 2—3 рэпчатыя цыбуліны, нарэзаныя кавалачкамі, дробна пасечанае зяленіва пятрушкі, 1—2 лаўровыя лісцікі, некалькі гарошын чорнага перцу.

Свежую дробную рыбу пачысціць, вымыць, пасаліць і пакласці ў гліняны посуд. Дабавіць усе астатнія кампаненты і запячы ў духавой шафе. Падаваць на стол у халодным выглядзе.

## ШАШЛЫК З РЫБЫ ПА-РАСТОЦКУ

400 г рыбы, нарэзанай кавалачкамі, 2 цыбуліны, 80 г не вельмі тлустага шпігу, 2 стручкі агароднінага перцу або 2 яблыкі (альбо 5 памідораў), алей для смажання.

Рыбу абсмажыць у разагрэтым алеі з кожнага боку на працягу мінуты. Рыбу дастаць з алею. Надзець на шпажкі па чарзе кавалачкі рыбы, цыбулі, сала, перцу або яблыка (васьмушку памідора).

Шашлык абсмажыць з абодвух бакоў у разагрэтым алеі на працягу 6 мінут.

Падаваць з вострым таматным соусам або кетчупам і адвараным рысам або з хлебам і салатай са свежай агародніны.

## РЫБА ПА-ІСПАНСКУ

1 кг марской рыбы, лімонны сок, 100 г алею, 50 г рэпчатай цыбулі, соль часнок, перац чорны гарошкам, 130 г свежых памідораў, 50 г зяленіва пятрушкі, калі ёсць — 20 г міндалю.

Рыбу ачышчаюць, наразаюць парцыённымі кавалкамі, дробную рыбу выкарыстоўваюць цалкам, спырскваюць лімонным сокам і абсмажваюць з дробна пасечанай рэпчатай цыбуляй, соляць. Расцёрты часнок, здробнены міндаль (калі ёсць), перац гарошкам, нарэзаныя памідоры, зяленіва пятрушкі перамешваюць і выкладваюць зверху абсмажанай рыбы.

Пад накрыўкай тушаць каля 20 мінут. Пасля выпарэння ваду даліваюць. На гарнір прапануюць смажаную бульбу.

*У спякотны дзень*

# Замест вады— салёная гарбата



У спякотныя летнія дні звычайна павышаецца смага. Гэта непрыемнае, пакутлівае пачуццё. Смага пераносіцца куды горш, чым недахоп у ежы і нават частковае галаданне.

Здавалася б, што для наталення смагі не патрабуецца ніякіх правілаў. Захацеў піць — напіўся досыць — вось і ўся навука! На самай жа справе гэта, зразумела, не так. Празмернае ўжыванне вады заўсёды прыводзіць да шкодных вынікаў для здаровага чалавека. І ныркі, і сардэчна-сасудзістая сістэма, перагружаныя вадкасцю, у канчатковым выніку захворваюць.

Агульнавядома, што розныя людзі ў залежнасці ад індывідуальных асаблівасцей і ад характару работы ўжываюць розную колькасць вады. Некаторым упаўне дастаткова аднаго літра, другім — двух літраў і г. д.

Кожны, напэўна, не раз адчуваў на сабе, што чым больш мы п'ём у спякотны дзень вады, ды яшчэ халоднай, тым больш хочацца піць. Адпаведна павялічваецца і потавыдзяленне. Гэтая акалічнасць тлумачыцца тым, што чалавек пры пацённі разам з вадой страчвае каштоўную для арганізма паваранную соль, якой усяго ў нашым целе знаходзіцца каля 100 грамаў. Чым больш пацее чалавек, тым больш ён страчвае солі, і тады настае парушэнне воднага абмену. У гэтым выпадку мы пачынаем паглынаць вады яшчэ больш, каб папоўніць арганізм соллю, што знаходзіцца ў вадзе.

Ці можна пазбегнуць такой смагі і значна паменшыць патлівасць? Як вядома, вопытныя турысты перад паходам абавязкова праглынуць у папіроснай паперы 5—6 грамаў солі і зап'юць гарачай гарбатай. Касцы з даўніх часоў бяруць на пакос соль і ў час яды густа соляць хлеб і запіваюць яго кіслым квасам.

Дык што ж такое смага? Яе адчуванне тлумачыцца простым раздражненнем нервовых канчаткаў пяшчотных слізістых абалонак рота і горла пылам або высокай тэмпературай. Старанна прапалашчыце рот і горла пры кожным «прыступе» смагі — і гэтага будзе ўпаўне дастаткова.

Аднак зазначым, што смага бывае ў чалавека не толькі ў час спякоты, але і тады, калі ён з'еў салёную ежу. Гэта тлумачыцца тым, што ў салёнай ежы маецца не толькі соль, але і прадукты распаду, якія выклікаюць вялікую патрэбнасць у вадзе. У гэтым выпадку наталенне смагі ўжываннем вады для «нейтралізацыі» гэтых прадуктаў прынясе толькі карысць. Але прымаць салёную ежу для захавання вільгаці ў тканках нельга, таму што яна гэтай здольнасцю не валодае, і толькі паваранная соль з'яўляецца адзіным рэгулятарам воднага абмену ў клетках нашага арганізма.

**У папярэднім выпуску мы пісалі, як можна скінуць лішнюю вагу і заставацца стройнай. Жадаючым і ўпартым прапануем яшчэ адзін варыянт. Ён заснаваны на падліку, але не калорый, а пунктаў. Важна тое, што пры гэтай дыеце некаторыя прадукты можна есці без абмежаванняў, г. зн. наядацца дасыта.**

*Тым, хто хоча пахудзець*

# Есці і... лічыць

ГАВОРКА ідзе аб бялкова-тлушчавай дыеце, якая абмяжоўвае ўжыванне вугляводаў да 50 г у суткі, г. зн. да 10 пунктаў, у той час, як бялкі і тлушчы можна есці без абмежаванняў. На першы погляд, усё гэта можа паказацца вельмі складаным, таму паспрабуем выкласці больш папулярна. Перш за ўсё назавём прадукты, якія не ўтрымліваюць вугляводы, а значыць маюць ноль пунктаў. Да іх адносяцца розныя віды каўбасы, мяса. Ноль пунктаў атрымлівае таксама свойская птушка, рыба, тварог, сыр, смятана (пры ўмове, што сутачны рацыён смятаны не перавысіць 30 г, а тварагу і сыру — 100 г), акрамя таго, несалодкая гарбата і кава.

Пункты пачынайце лічыць з моманту, калі ў састаў ежы ўключаны прадукты, якія ўтрымліваюць вугляводы: хлебабулачныя вырабы, малако, крупы, макароны і клёцкі, цукар, цукеркі, піржныя і пячэнне, бульба, агародніна і садавіна. Для таго, каб арыентавацца ў сутачным рацыёне гэтых прадуктаў, агульная колькасць якіх на працягу дня не павінна перавышаць 10 пунктаў, ніжэй мы прывядзём іх нормы, што ацэньваюцца на 2 пункты.



Такім чынам, 2 пункты — гэта: 20 г хлеба або батона, 250 г малака, 15 г мукі, 15 г грэцкай або рысавай кашы, 15 г локшыны або іншых макаронных вырабаў, 15 г сушанага гароху або фасолі, 50 г свежага зялёнага гарошку, 50 г зялёнай пятрушкі і сельдэрэю, 100 г бурака, агароднiннага набору для супу, морквы, белакачаннай капусты, 150 г шчаўя, салодкага перцу, 300 г агуркоў, рэвеню, зялёнай салаты, шпінату, радыскі, 50 г бульбы, 80 г яблыкаў, груш, апельсінаў, мандарынаў, 150 г лімону, трускалкі, журавіны, 15 г чарнасліву, разынак, мармеладу, джэму або павідла (з паніжаным утрыманнем цукру), 40 г кампоту, 100 г фруктовага соку, 10 г цукру, 12 г мёду, 20 г шакаладу, 25 г піржнага, 50 г марожанага, 100 г каўбасных вырабаў з прымессю булкі.

**Снеданне** — 225 г кавы або гарбаты з малаком, без цукру=1,8 пункта; масла, нятлустая каўбаса або вяндліна, мяса з дабаўленнем маянэзу=0 пунктаў.

**Другое снеданне** —тварог=0 пунктаў, 100 г свежых або мароженых трускалак або 30 г яблыкаў =1,3 пункта.

**Абед** — 100 г агароднiннага супу на мясе, баршчу без смятаны або таматнага супу без смятаны і запраўкі=2 пункты, варанае або смажанае мяса без цыбулі=0 пунктаў, 50 г бульбы=2 пункты, з маслам=0 пунктаў, 50 г зялёнай салаты або 25 г салаты са свежай капусты без цыбулі, з алеем=0,3 пункта.

**Вячэра** — амлет з 2 яец і 25 г малака і мяса=0,2 пункта; масла, мяса і гарбата без цукру=0 пунктаў, 20 г набору агародніны для супу, у якім зварана мяса (яго можна прапусціць праз мясарубку і дабавіць да амлету)=0,4 пункта.

*Догляд валасоў*

# Па рэцэптах старажытных майстроў

**Як і абяцалі ў мінулым выпуску, сёння мы вам раскажам пра народныя сродкі догляду валасоў і скуры галавы.**

Старажытным народным сродкам для мыцця валасоў з'яўляецца кіслае малако. Са старажытных часоў многія народнасці Сярэдняй Азіі выкарыстоўваюць для гэтай мэты кісламалочныя прадукты.

Кісламалочныя прадукты ствараюць тлушчавую плёнку, якая ахоўвае валасы ад пашкоджання шчолачным растворам, які ўтвараецца пры растварэнні мыла ў вадзе.

Як жа мыць галаву сыраквашай?

Добра змачыўшы ёй валасы, пакрыць галаву поліэтыленавай хусткай, а зверху — махровым ручніком. Цераз 25—30 мінут прамыць у пене туалетнага мыла тыпу «Дзіцячае», «Ланалінавае», «Рускі лес». Затым старанна прапаласкаць спачатку чыстай вадой, а затым падкісленай (адна сталовая лыжка 6-працэнтнага раствору воцату на літр вады).

Калі валасы сухія і ломкія, то іх вельмі карысна мыць яйцом, бо ў састаў яго ўваходзіць ліцыцін і амаль усе амінакіслоты, якія ахоўваюць валасы ад пашкоджання і спрыяюць ухіленню перхаці. Звычайна выкарыстоўваюць усё яйцо — жаўток і бялок добра ўзбіваюць у невялікай колькасці вады. Валасы папярэдне змочваюць вадой, яечную пену выліваюць на галаву і мыюць ёй без мыла. Затым галаву старанна апалоскваюць спачатку цёплай чыстай, а затым падкісленай вадой.



Адным з лепшых стымулятараў росту валасоў з'яўляецца адвар з каранёў дзядоўніку. Для мыцця валасоў бяруць ад 10 да 15 г каранёў на паўлітра вады. Спачатку мыюць 2—3 разы на тыдні, затым толькі 1 раз.

У касметыцы выкарыстоўваюцца бярозавыя пупышкі і лісце, таполевыя пупышкі. Робяць адвар (шклянка сыравіны на 1 літр вады) і даюць яму адстаяцца. Гэтым сродкам мыюць галаву. Прэпарат паляпшае рост валасоў, умацоўвае іх лукавіцы.

Змагацца з перхаццю дапамагае шалфей. На 100 г кіпячонай вады або спірту бяруць 5—10 г сухой сыравіны, якая ўтрымлівае дубільныя рэчывы і эфірныя маслы. Настой прымяняецца ў выглядзе прымочак.

Росту валасоў спрыяе адвар з лістоў падбелу і крапівы (50:50).

Ад выпадзення валасоў і супраць перхаці выкарыстоўваюць сок свежай капусты, які ўціраюць у скуру галавы.

Сок алоэ і настойка з выжатых яго лістоў, прыгатаваная на 40-працэнтным спірце, валодае бактэрыцыднымі ўласцівасцямі і таксама служыць выдатным сродкам ад перхаці і супраць выпадзення валасоў. Карысны адвар кветак календулы (нагаткоў). У гэтым выпадку гатуецца наступная настойка: 20 г сухіх кветак на 100 г 70-працэнтнага спірту. Пры тлустай перхаці скуру галавы націраюць чыстым настоем календулы або яшчэ лепш з дабаўленнем 10-працэнтнага касторавага масла 1—2 разы ў дзень, а пры сухой перхаці — настоем календулы з дабаўленнем 35—50-працэнтнага касторавага масла.

Прыгодны для догляду валасоў адвар з лістоў крапівы і лясной герані. Для яго прыгатавання бяруць паўлітра вады, змешанай з такой жа колькасцю сталовага воцату, кладуць 100 г дробна нацёртых лістоў і вараць паўгадзіны. Састаў уціраюць у скуру галавы.

*(У наступным выпуску мы раскажам, як пры дапамозе раслінных фарбавальнікаў атрымаць разнастайныя адценні валасоў).*

*Вяртаючыся да надрукаванага*

# Не пра стыль, а пра сумленне...

Крытычныя публікацыі, прысвечаныя той ці іншай мастацкай падзеі, — з'ява ў нашай прэсе звычайная. Не засталася без увагі і выстава «Адраджэнне», якую ладзіла творчая суполка «Пагоня» ў гонар Дня Незалежнасці Беларусі. Мяне, як аднаго з арганізатараў экспазіцыі, наўрад ці здзівіў бы артыкул «Пагоня за чым?», (Ч. З. № 19), калі б не прычыны, што прадвызначылі яго з'яўленне ў друку.

Творчая суполка «Пагоня» (ці не ўпершыню ў гісторыі Саюза мастакоў Беларусі) аб'яднала людзей не на вузка-прафесійнай аснове, а на глебе духоўнай еднасці, ды блізкасці поглядаў на шляхі адраджэння і развіцця нашай нацыі, яе мастацтва. Мы ясна ўсведамляем свае мэты ў справе абуджэння нацыянальнай і гістарычнай памяці, на якіх грунтуюцца агульначалавечыя каштоўнасці. Гэта ўсведамленне надае нам упэўненасць у правільнасці абранага шляху, і мне, як і маім калегам па суполцы, няма ў чым апраўдвацца ні перад нашымі прыхільнікамі, ні перад нашымі нядобразычліўцамі. І таму ў сваім допісе я не маю намеру весці паленіку са сваімі апанентамі, а толькі хачу звярнуць увагу на некаторыя маральна-этычныя моманты, звязаныя з вышэйпамянёнай публікацыяй.

Справа ў тым, што Алесь Тарановіч, падтрымліваючы сталыя адносіны з мастакамі «Пагоні», задоўга да адкрыцця выставы ведаў пра яе падрыхтоўку. Яе арганізатарамі была распрацавана пэўная канцэпцыя, якая апіралася на тысячагадовую гісторыю нашай Бацькаўшчыны і яе нацыянальныя традыцыі. Гэта зусім не азначала нейкай тэматычнай ці стылявой завужанасці, што вельмі яскрава засведчыла сама выстава. Тарановіч добра ведаў нашы ўмовы, тым больш, што многія ягоныя творы поўнасцю ім адпавядалі. Але, не зважаючы на гэта, ён прынёс толькі адну, мяркую, не самую лепшую са сваіх прац — выяву аголенай жанчыны. Твор гэты, на думку аргкамітэта выставы, нічым не адпавядаў ні канцэпцыі, ні агульнаму кантэксту экспазіцыі. Такім чынам, праца Тарановіча да гледача не трапіла. У мастацкім асяроддзі такі факт — з'ява зусім звычайная, і я не магу прыгадаць выпадку, калі б такія акалічнасці сталіся прычынай канфліктаў. Але для Тарановіча гэтага было дастаткова, каб на ўсю рэспубліку абвясціць больш як 60 мастакоў «Пагоні» не толькі сваімі асабістымі праціўнікамі, але і галоўнымі ворагамі беларускага мастацтва, якое наш апанент пэўна атаясамлівае з уласнай асобай. Што ж датычыць другога аўтара артыкула, Копшы, то гэты мастак не толькі прыняў удзел у выставе, але і даволі станоўча ахарактарызаваў яе на абмеркаванні ў Палацы мастацтва. Тым не менш ён паставіў уласны подпіс пад артыкулам, які разбіваў гэтую выставу ўшчэнт.

Адным з галоўных матываў абвінавачвання суполкі «Пагоня» было тое, што мы, на думку нашых апанентаў, дужа кепска ставімся да авангардавых кірункаў у мастацтве і гэтым замаруджваем яго развіццё. Між іншым, сярод мастакоў «Пагоні» даволі шмат тых, хто вядзе свае творчыя пошукі ў нетрадыцыйных формах. На выставе «Адраджэнне» гэткіх твораў было не адзін дзесятак. Дазволю сабе нагадаць маім апанентам прозвішча С. Цімохава, А. Цыркунова, Ул. Вішнеўскага, В. Баранава, Ю. Герасіменкі. Творы гэтых мастакоў цяжка было не заўважыць.

Што ж да самога артыкула, то крытычным і канструктыўным назваць яго цяжка. Але якраз гэтым і цяжка ўразіць лідэраў «Пагоні». Бо на іх творчым шляху сустракалася шмат ахвотнікаў пазмагацца з «нацыяналістамі» на старонках друку.

**Рыгор СІТНІЦА,**
**член Саюза мастакоў СССР, сябра рады суполкі «Пагоня».**

*Ах, вернісаж!*

# Акно ў Еўропу—

**гаворачы вобразна «прарубіла» выстава сучасных беларускіх мастакоў, якія працуюць, як у нас гавораць, у нетрадыцыйнай творчай манеры. У астатнім цывілізаваным свеце — у іх — яна называецца проста: авангард. Такім чынам, работы нашых авангардыстаў упершыню арганізавана прадстаўлены за межамі Радзімы — у Польшчы. Ужо прайшоў вернісаж, ужо вядомы водгукі гледачоў, замежныя мецэнаты «паклалі вока» на некаторыя карціны, якія ім спадабаліся, ужо выдадзены польскім бокам маляўнічы каталог работ, прадстаўленых на выставе мастакоў (дададзім, дома такія знакі павагі ім і не сніліся), ужо выстава стала падзеяй у культурным жыцці Варшавы, але не пакідае думка, што творчы кантакт, узаемная цікавасць, нарэшце, знаёмства маглі спыніцца, яшчэ не пачаўшыся, калі б не, як гавораць у нас, асабістая, а ў іх. — прыватная ініцыятыва аднаго чалавека...**



ПОЛЬСКІ цэнтр сучаснага мастацтва праз Беларускі фонд культуры афіцыйна запрасіў мастакоў-авангардыстаў у Варшаву. Спачатку ідэя спадабалася. Прапанова здалася прывабнай. Яшчэ б! Такая перспектыва ў паказе ўласных талентаў, такая магчымасць выйсці на еўрапейскі ўзровень. Тое, што таленты ёсць, грамадскасць Беларусі змагла пераканацца на І Рэспубліканскай выставе сучаснага беларускага нетрадыцыйнага мастацтва, якая праходзіла ў Мінску ў лістападзе 1989 года і атрымала ў асноўным станоўчы рэзананс. Дарэчы, з тых часоў, з той памятнай «Панарамы-1» да мастакоў, якія працуюць у свавольнай манеры, такой увагі не было. Пра іх, як гэта часта бывае ў нас, забыліся. Маўляў, адзначыліся, пракукарэкалі, а там як хочаце. Дык вось, узважылі ў фондзе ўсе «за» і «супраць» і астылі, а потым і зусім прынялі адмоўнае рашэнне, зрабіўшы спасылку на аб'ектыўныя цяжкасці: адсутнасць сродкаў і магчымасцей. Што і казаць, сапраўды становішча ў краіне ахавае. Ужо не ляцім «над», а падаем у бездань. На самай справе не да відовішчаў і замежных паездак.

А калісьці ўсё ў нас было інакш. Знакамітая танцоўшчыца Айседора Дункан, жанчына з фатальным лёсам, прыехаўшы ў Расію, рэпеціравала ў памяшканні, якое не абагравалася. Аднак на яе выступленнях не было свабодных месцаў. Ленінградскі мастацкі тэатр, які нядаўна прыехаў у Мінск на гастролі, сваім нараджэннем абавязаны блакаднаму 1942 году, калі гледачы прыходзілі на спектаклі з ліхтарыкамі...

Не хочацца параўноўваць і множыць паралелі, не хочацца адцягваць увагу чытача ад асноўнай думкі: у нашых бедах, часам, вінаваты мы, а не час, на які так зручна спісаць усё. Пасля той «Панарамы», якая так удалася, беларускія авангардысты, знаходзіўшыся да гэтага ў глыбокім цені, ажылі духам, паверылі ў перамены, у тое, што плюралізм бывае не толькі на словах. Усе жанры і віды мастацтва маюць аднолькавае права на існаванне. На жаль, у нас гэта пастаянна прыходзіцца даказваць. Здавалася б, дайце відовішчаў, а народ сам разбярэцца, што да чаго і колькі каштуе. Але штосьці з народам-гледачом зусім не густа і на афіцыйных сацрэалістычных выставах. Ці то змарыліся ад «рабочага і калгасніцы», ці то «заездзілі» бытавыя нягоды.

ЯК БЫ там ні было, а польскія візіцёры, нягледзячы на афіцыйную адмову, не паехалі з Беларусі з



пустымі рукамі. Ролю камісара выставы ў прыватным парадку ўзяў на сябе мастак-авангардыст Аляксандр Тарановіч, займаючы ў Беларускім фондзе культуры пасаду старшага эксперта. Ён кінуў кліч калегам-мастакам, заняўся адборам карцін, ездзіў у Польшчу для ўстанаўлення больш цесных кантактаў з арганізатарамі выставы, ён жа знайшоў гэтаму беспрэцэдэнтнаму мерапрыемству спонсара: кааператыў «Аляксандр». Адным словам, тое, што не змаглі або не захацелі зрабіць афіцыйныя структуры, ажыццявіў па сваёй ініцыятыве, у асноўным у вольны ад работы час, адзін чалавек. Не скажу, што яму было лёгка і проста, што не было асабістай выгады, бо і яго работы ў ліку іншых 180 карцін убачылі замежныя аматары мастацтва ў Варшаўскай галерэі «Норбліна». Але што такое асабістая выгада ў параўнанні з тытанічнай арганізацыйнай працай, якую правёў мастак. За мяжой упершыню ўбачылі, ацанілі і параўналі беларускі авангард з еўрапейскім, адкрылі імёны такіх мастакоў, як мінчане Артур Клінаў, Аляксей Жданаў, Сяргей Малішэўскі, Вольга Сазыкіна, Андрэй Плясанаў, брэстаўчанін Уладзіслаў Куфко, віцябчанін Аляксандр Малей.





Марэк Газдзеўскі, мастацтвазнаўца, эксперт цэнтра сучаснага мастацтва, які займаўся разам з Тарановічам арганізацыйным бокам справы, адзначыў у беларускіх майстроў высокі прафесійны ўзровень, адкрытасць і гуманізм. Пры кансерватызме вашай сістэмы, — сказаў ён, — адарванасці ад заходняга мастацтва, вашым мастакам удалося захаваць шчырасць, вырвацца з плену традыцый і прапаведаваць свой светапогляд».

А беларускія мастакі, у сваю чаргу, з белай зайздрасцю адзначылі, што польскі цэнтр сучаснага мастацтва, размешчаны ў старажытным замку, спецыяльна створаны для прадстаўлення ультралевых напрамкаў у мастацтве, ці то жывапіс, тэатр або кіно. Поспех твора залежыць ад сімпатыі публікі, а не ментарскага жэсту «зверху». Польшча вырасла з дзіцячых штонікаў, перахварэла нашымі хваробамі. Там напрамкі ў мастацтве не дзеляцца на любімчыкаў і пасынкаў. Для першых галерэі і персанальныя выставы, для апошніх — незайздроснае месца на галёрцы.

— Як бы там ні было, — падвёў вынікі нашай размовы Аляксандр Тарановіч, камісар выставы, — а прадстаўленне беларускіх мастакоў-авангардыстаў у Польшчы адбылося. Выстава стала фактам, які камунебудзь можа падабацца, або не, але ад гэтага нікуды не дзецца.

Далучаемся да слоў арганізатараў-піянераў і спадзяёмся, што ў «прарубленае» імі ў Еўропу акно накіруюцца творчыя сілы і таленты, да якіх у нас моцна прыстаўлена часціца «не» — «нетрадыцыйная», з падтэкстам-здзекам, «не наша, не дамарослае мастацтва». Прадказальнікаў у Айчыне паранейшаму няма, бачым толькі тое, што хочам бачыць, да чаго дараслі і што прыемна нашаму воку. А шкада, бо ад гэтага становімся яшчэ больш беднымі.

**Святлана БАРАННІКАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ:**

✦ Аляксандр ТАРАНОВІЧ: «Нашы прыйшлі».

✦ Аляксандр РОДЗІН: «Кампазіцыя».

✦ Аляксандр МАЛЕЙ: «Распяцце».

✦ Артур КЛІНАЎ. «Гарадскі раманс».

## Жодзінскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 149 машынабудавання

**аб'яўляе прыём навучэнцаў**



Вучылішча рыхтуе кваліфікаваных рабочых для Беларускага аўтамабільнага завода, Жодзінскага вытворчага швейна-трыкатажнага аб'яднання, будаўніча-мантажнага трэста № 29.

**На машынабудаўнічае аддзяленне з адукацыяй 9 класаў па спецыяльнасцях:**

наладчык станкоў і маніпулятараў (прамысловых работаў) з праграмным кіраваннем (тэрмін навучання — 3,5 года);

станочнік шырокага профілю, аператар станкоў з праграмным кіраваннем;

слесар-рамонтнік, слесар механазборачных работ, кантралёр станочных і слясарных работ;

электрагазазваршчык;

электрагазазваршчык на аўтаматычных і паўаўтаматычных машынах, кантралёр зварачных работ;

электраманцёр па абслугоўванню і рамонту электраабсталявання.

Тэрмін навучання — 3 гады.

**На швейна-трыкатажнае аддзяленне па спецыяльнасці**

аператар швейнага абсталявання, швачка. Тэрмін навучання — 3 гады.

**На будаўнічае аддзяленне па спецыяльнасці**

майстар па аддзелцы інтэр'ераў (маляр, тынкоўшчык, абліцоўшчык- плітачнік, абліцоўшчык-мазаічнік). Тэрмін навучання — 3 гады.

**На машынабудаўнічае аддзяленне з адукацыяй 11 класаў па спецыяльнасцях:**

аператар станкоў з праграмным кіраваннем;

электрагазазваршчык;

машыніст крана.

Тэрмін навучання — 1 год.

**На швейна-трыкатажнае аддзяленне па спецыяльнасці**

аператар швейнага абсталявання, швачка. Тэрмін навучання — I год.

**На будаўнічае аддзяленне па спецыяльнасцях:**

муляр;

мантажнік жалезабетонных і металічных канструкцый;

электразваршчык.

Тэрмін навучання — I год.

Для паступлення неабходна падаць заяву на імя дырэктара з указаннем выбранай спецыяльнасці. Да заявы прыкладаюцца: дакумент аб адукацыі (арыгінал), медыцынскія даведкі (формы № 286 і 25-ю), карта прафілактычных прышчэпак (форма № 63), даведка з месца жыхарства (з указаннем складу сям'і), шэсць фотаздымкаў (3×4 см). Пасля прыбыцця ў вучылішча паступаючыя прад'яўляюць пасведчанне аб нараджэнні або пашпарт.

Навучэнцы з тэрмінам навучання 3 і 3,5 года забяспечваюцца бясплатным харчаваннем, абмундзіраваннем, спецвопраткай. З тэрмінам навучання I год — атрымліваюць стыпендыю ва ўстаноўленым памеры. Выдатнікам навучання памер стыпендыі павялічваецца да 50 працэнтаў. Усім навучэнцам выплачваецца не менш як 50 працэнтаў ад заробленых сум у час вытворчага навучання і практыкі.

Іншагароднім навучэнцам прадастаўляецца інтэрнат. Час навучання ў вучылішчы залічваецца ў агульны працоўны стаж.

Выпускнікам выдаецца дыплом аб атрыманні сярэдняй адукацыі і прысваенні разраду па спецыяльнасці, асабліва старанным — дыплом з адзнакай і залатым медалём. Атрымаўшыя дыплом з адзнакай пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы карыстаюцца перавагамі, устаноўленымі для выпускнікоў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, атрымаўшых дыплом з адзнакай.

Акрамя высокай прафесійнай падрыхтоўкі, вы зможаце развіць свае здольнасці ў тэхнічнай і мастацкай творчасці, 14 відах спорту (бокс, барацьба, самба, волейбол, баскетбол, атлетычная гімнастыка, рытмічная гімнастыка, бадмінтон, лыжны спорт, хакей, футбол і інш.), а таксама вакальна-інструментальным ансамблі, дыска-клубе, фотасправе, бальных танцах, хоры, калектыўнай радыёстанцыі, стралковым гуртку, клубе інтэрнацыянальнай дружбы, на курсах матацыклістаў і інш.

Адрас вучылішча: 222160, г. Жодзіна Мінскай вобл., вул. Лебядзеўскага, 20. Тэл. 3-45-70, 3-46-68.

Праезд электрапоездам да прыпынку «Жодзіна-Паўднёвы».

**Дырэкцыя.**

## Віцебскае ПТВ № 46 лёгкай прамысловасці

запрашае на вучобу на 1991/92 навучальны год па спецыяльнасцях:

**З адукацыяй 9 класаў (тэрмін навучання 3 гады):**

1. Ткач шаўковай вытворчасці.
2. Ткач дывановай вытворчасці.
3. Прадзільшчык.
4. Вязальшчыца вырабаў верхняга трыкатажу і палатна, швачка (па накіраванню).
5. Вязальшчыца трыкатажных вырабаў і палатна.
6. Швачка, кантралёр якасці.
7. Аператар швейнага абсталявання, швачка.

**З адукацыяй 11 класаў (тэрмін навучання 1 год):**

1. Аператар швейнага абсталявання, швачка.
2. Швачка, кантралёр якасці.
3. Фармоўшчык, аператар фарбавальна-аддзелачнага абсталявання (тэрмін навучання 5 месяцаў, прымаюцца юнакі і дзяўчаты).
4. Швачка, вышывальшчыца.
5. Вязальшчыца вырабаў верхняга трыкатажу і палатна (па накіраваннях).

Вучылішча рыхтуе кваліфікаваных рабочых для прадпрыемстваў г. Віцебска: панчошна-трыкатажны камбінат імя КІМ, камбінат шаўковых тканін, дывановае аб'яднанне імя 50-годдзя БССР і прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання.

Паступаючыя ў вучылішча прымаюцца без экзаменаў. Час навучання ў вучылішчы залічваецца ў працоўны стаж.

Паспяваючым навучэнцам з адукацыяй 11 класаў выплачваецца стыпендыя ў размеры ад 150 да 170 рублёў у месяц.

Усе навучэнцы з адукацыяй 9 класаў знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні.

Паспяваючым навучэнцам з адукацыяй 9 класаў выплачваецца стыпендыя ў размеры ад 40 рублёў да 60 рублёў у месяц.

Навучэнцаў, якія паспяхова асвойваюць прафесію на выпуску гатовай прадукцыі, базавыя прадпрыемствы прэміруюць у размеры 40 рублёў у месяц. Ёсць сталовая і інтэрнат.

Паступаючыя падаюць наступныя дакументы: заяву на імя дырэктара вучылішча, дакумент аб адукацыі, даведку аб стане здароўя (ф. 086-у), даведку з месца жыхарства, 6 фотаздымкаў (3×4 см).

Прыём дакументаў — з 1 чэрвеня 1991 г.

Наш адрас: 210002, г. Віцебск, вул. Залатагорская, 30. Тэл. 33-32-84.

Праезд трамваем №№ 1, 2, 6, 7, аўтобусам №№ 1, 17, 20, 23 да прыпынку «Паліклініка», ў накірунку ДСК.



## Нёманскае ПТВ-116

**аб'яўляе прыём навучэнцаў**

Запрашаюцца юнакі і дзяўчаты без уступных экзаменаў пасля гутаркі.

На базе няпоўнай сярэдняй школы тэрмін навучання 3 гады з атрыманнем сярэдняй адукацыі, на дзяржаўным забеспячэнні па спецыяльнасці выдзімальшчык-шліфоўшчык шклавырабаў.

На базе сярэдняй школы тэрмін навучання 10 месяцаў, стыпендыя 120 — 126 рублёў **па спецыяльнасцях:**

выдзімальшчык шклавырабаў, выдзімальшчык-шліфоўшчык шклавырабаў, выдзімальшчык-прасаўшчык шклавырабаў, размалёўшчык па шкле, кантралёр шкляной вытворчасці.

Усе навучэнцы забяспечваюцца добраўпарадкаваным інтэрнатам, у вучылішчы працуюць тэхнічныя гурткі, спартыўныя секцыі, гурткі мастацкай самадзейнасці, відэасалон. Выпускнікі, якія скончылі вучылішча з адзнакай, пры паступленні ў ВНУ здаюць толькі адзін экзамен або маюць права паступаюць у тэхнікумы без экзаменаў па атрыманай спецыяльнасці.

Вытворчую практыку навучэнцы праходзяць у вучэбна-вытворчым корпусе па вырабу шклавырабаў. Атрымліваюць зарплату за выкананую работу. Час навучання ў вучылішчы залічваецца ў няспынны льготны працоўны стаж. Выпускнікі вучылішча накіроўваюцца на работу на ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга шклозавод «Нёман», Барысаўскі крыштальны завод імя Дзяржынскага, Гродзенскі шкляны завод.

Для паступлення неабходна прадставіць: заяву на імя дырэктара вучылішча з указаннем выбранай спецыяльнасці; дакумент аб адукацыі (арыгінал); медыцынскую даведку (ф. № 086-у), даведку аб складзе сям'і; 6 фотакартак (3×4 см).

Адрас вучылішча: 231306, Гродзенская вобл., Лідскі раён, г. Бярозаўка, Нёманскае ПТВ-116, тэл. 61-8-12, 61-8-20, 61-0-18.

## Полацкае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 2 бытавога абслугоўвання

**аб'яўляе прыём навучэнцаў на 1991/92 навучальны год**

У вучылішча прымаюцца юнакі і дзяўчаты, якія маюць сярэднюю і дзевяцігадовую адукацыю.

Вучылішча рыхтуе спецыялістаў для Міністэрства бытавога абслугоўвання насельніцтва, лёгкай і мясцовай прамысловасці БССР па наступных спецыяльнасцях:

1. Кравец, закройшчык (на базе 11 класаў). Тэрмін навучання 1 год 10,5 месяца.
2. Кравец, закройшчык (на базе 11 класаў). Тэрмін навучання 2 гады 10,5 месяца.
3. Кравец (на базе 9 класаў). Тэрмін навучання 2 гады.
4. Кравец (на базе 11 класаў). Тэрмін навучання 1 год.
5. Кравец (на базе 11 класаў). Тэрмін навучання 2 гады.
6. Швачка, аператар швейнага абсталявання (на базе 11 класаў). Тэрмін навучання 1 год. (Для работы на Полацкай швейнай фабрыцы).

ЗАЎВАГА: навучэнцы па ўсіх спецыяльнасцях навучаюцца раскрою тканін у гуртках тэхнічнай творчасці.

**Парадак прыёму**

Заява аб прыёме ў вучылішча падаецца на імя дырэктара з указаннем выбранай прафесіі. Да заявы прыкладаюцца:

1. Дакумент аб заканчэнні сярэдняй або дзевяцігадовай школы.
2. Медыцынская даведка (форма № 086-у).
3. 5 фотакартак (3×4).
4. Карта аб прышчэпках (ф. 25-ю).
5. Даведка з месца жыхарства і аб складзе сям'і.

Пасля прыбыцця на мандатную камісію паступаючыя праходзяць медыцынскі агляд для вызначэння годнасці па стану здароўя да работы па выбранай спецыяльнасці.

**Парадак залічэння**

Заява аб прыёме ў вучылішча з усімі прыкладзенымі дакументамі і медыцынскае заключэнне разглядаюцца прыёмнай камісіяй.

**Умовы прыёму**

Паспяваючыя навучэнцы атрымліваюць стыпендыю ў памеры 40 рублёў у месяц і забяспечваюцца харчаваннем. Па прафесіі «швачка, аператар швейнага абсталявання», «вышывальшчыца, швачка» выплачваецца стыпендыя ў памеры 80 рублёў. Навучэнцам, якія маюць выдатныя адзнакі па ўсіх прадметах, памер стыпендыі павялічваецца на 25 працэнтаў. Навучэнцы, што паступаюць на базе 9 класаў, знаходзяцца на дзяржзабеспячэнні. Акрамя таго, навучэнцы атрымліваюць грошы за работы, выконваемыя імі ў працэсе вытворчага навучання.

Асобы, якія скончылі вучылішча на «выдатна», залічваюцца ў ВНУ па роднаснай спецыяльнасці па-за конкурсам.

Маючым вострую патрэбу прадастаўляецца інтэрнат.

У вучылішчы створаны добрыя ўмовы для вучобы. Ёсць добраабсталяваныя кабінеты і вытворчыя майстэрні.

Навучэнцы вучылішча займаюцца ў розных гуртках тэхнічнай творчасці, спартыўных секцыях, гуртках мастацкай самадзейнасці.

Харавому калектыву вучылішча прысвоена назва «Народны».

Зборныя каманды вучылішча па розных відах спорту і калектывы мастацкай самадзейнасці пастаянна займаюць прызавыя месцы ў горадзе, вобласці, рэспубліцы.

Адрас вучылішча: 211400, БССР, г. Полацк, пр. К. Маркса, 20, прафесійна - тэхнічнае вучылішча № 2 бытавога абслугоўвання насельніцтва.





Фота С. БРУШКО.

# УРАЧА, ХУТЧЭЙ УРАЧА!

*— Санітар, можа ўсё ж у рэанімацыю?*
*— Маўчы! Урач сказаў у морг, значыць у морг.*
*(Чорны гумар).*

З-за расчыненых дзвярэй вылупілася ўскудлачаная галава і абвясціла.

— Атас!.. Ідуць.

Адкрыты ўрок. Настаўніца абяззбройвае белазубай усмешкай. Вось хлопчык справіўся з заданнем і цягне руку, пытаючыся, што рабіць далей.

— Малайчына, Дзімачка, — хваліць настаўніца і гладзіць хлопчыка па галаве. Я сяджу збоку і мне бачна, як яна, адвярнуўшыся ад гасцей, робіць хлопчыку страшныя вочы і моцна сціскае яго руку. Хлопчык ойкае. «Ціха», — шыпіць настаўніца і шырока ўсміхаецца.

***

Перагорнем старонку.

— У нас гонка раззбраення, а дзеці выбягаюць на сцэну са зброяй і страляюць у залу.

— Дык каманда ж называецца «Лясныя разбойнікі»...

— Ну вось, калі яны лясныя, то няхай бы выбеглі з кветкамі ў руках. І што гэта за форма адзення?

— Дык гэта ж казка!

— Якая казка! Дзеці ў школе — вучні. Яны павінны выходзіць на сцэну ў школьнай форме!

Так пачынаецца выхаванне нашых дзяцей. А так працягваецца.

Тлумачальныя:

*«Я, Верабкін Аляксандр, не прыйшоў у гальштуку, бо яго пад гэтым світэрам бачна не будзе».*

*«Я, Зубаў Гена, не прыйшоў у гальштуку, бо класны мне сказаў, каб на гэтую кашулю я яго не завязваў».*

*«Я... прыйшоў без гальштука, бо я яго не памыў».*

*«Я... прыйшоў без гальштука, бо ён быў пакамечаны і мне было сорамна надзець яго на сябе».*

Так ідзе барацьба за высокі культурны ўзровень у сярэдніх класах.

Што ж, а цяпер давайце зазірнём у люстэрка школы не з чорнага боку амальгамы.

*«Я люблю школу. Тут я магу пасмяяцца з таварышамі, пагаварыць з настаўнікамі пра жыццё, пра адзнакі, пра фільмы, пра школьныя і асабістыя цяжкасці... Люблю школу за ўрокі літаратуры, за гурток рок-н-рола, за блакітны басейн, за факультатыў па філасофіі, за настаўнікаў, якія ходзяць з намі ў паходы і гэтак жа, як і мы, ядуць недаваранаю локшыну і ганяюць з намі ў футбол у мокрых красоўках».*

Але часцей за ўсё гэта люстэрка паварочваецца да нас чорным бокам.

*«Я ненавіджу школу. Раніцай я ўстаю з ужо сапсаваным настроем — трэба ісці на ўрокі. Я не гультай, я хачу ведаў. Але цяперашняя сістэма навучання — гэта дарэмна затрачаны час. На ўроках нецікава, таму часцей за ўсё чытаеш мастацкія кнігі. Ну нашто мне гэта хімія? Мне яна ніколі не спатрэбіцца. Што зменіцца ад таго, што я буду ведаць, што $H_2O$— гэта вада? А наш Рудзій-108 толькі муштруе формуламі».*

А бывае і так:

*«Веды. Што яны нам даюць? Жывуць зараз добра не выдатнікі, якія палыселі і пастарэлі над сваімі дысертацыямі, а спрытнюгі, якія ўмеюць уладкавацца ў жыцці. Яны — асобы ў грамадстве, яны могуць усё, дастаць, у іх усюды свае людзі. Ім— лепшыя тавары, пуцёўкі за мяжу, дачы (свае, мо і казённыя) з басейнам і саўнамі».*

Так, ёсць тут свая частка праўды. З чым мы выходзім са сцен школы? Мы ведаем, што катэт карацей за гіпатэнузу, што ў табліцы Мендзялеева 107 элементаў, што Базараў — нігіліст. А ці ведаем мы, што такое музыка, паэзія, жывапіс, прыгажосць, дабро, справядлівасць, сумленне? Што такое рэальнасць і жыццё? І дзе праўда? І як жыць? Але зменім дэкарацыі. Гавораць настаўнікі.

*«Раўнадушша, абыякавасць усё часцей праяўляюцца сярод нашых вучняў. Часта прыходзіцца чуць:*

*— І гэта нам нецікава, і тое, і, наогул, знайшлі дурня ўдзельнічаць у гэтай справе, няхай працуюць іншыя».*

*«Нізкі інтэлектуальны і культурны ўзровень, нізкія патрэбнасці. Здаецца, стараешся як можаш. Начамі сядзіш, шукаеш што-небудзь новае, цікавае. А няма ніякай аддачы, і рукі апускаюцца. Ідзеш на ўрок — душа спявае, а бачыш гэтыя патухлыя вочы, а часам і нахабныя. І становіцца страшна. Што ім Пушкін! У іх іншыя патрэбы: дыскатэкі, шмоткі, відзік».*

Нешта рухнула ў нашым духоўным жыцці. Мяняецца час, мяняюцца і каштоўнасці.

*«Помню, калі немцы палілі нашу хату, я ляжала ў баразне бульбы і плакала. Не, мне шкада было не хаты, але ж там, за бэлькаю, ляжаў мой камсамольскі білет...».*

*«Два п'яныя хлопцы ўзялі вінтоўку і вырашылі пазабаўляцца. І для забаў выбралі абеліск загінуўшым у час Вялікай Айчыннай вайны. У прыцэле словы: «Яны загінулі за Радзіму».*

Адкуль гэта? Ці не вучылі іх дабру, спагадзе, любві?..

Чым мы выхоўваем нашых дзяцей? Якія ў нас ідэалы?

Хутчэй гэтыя ідэалы ператварыліся ў ідалаў, так доўга мы на іх маліліся. І вось ідалы рухнулі. Мы вучылі аднаму, а ў жыцці дзеці бачылі другое. Бавілі час у пад'ездах ды падваротнях, як карабель, які страціў кіраванне. А ён можа наткнуцца і на рыф — наркаманіі, прастытуцыі, таксікаманіі, алкагалізму... Куды ісці? У чым сэнс жыцця? А колькі ўжо загублена! І таму замест бібліятэк, тэатраў нашы дзеці выбіраюць бары, кафэ, кіно. Гэта прасцей, гэта не патрабуе ніякіх намаганняў, ніякай працы. Моладзь прывыкла да ўсяго гатовага. Мы самі дапамагалі ёй у гэтым. Мы змагаліся супраць прычосак, завушніц, міні, максі. І, усведамляючы мізэрнасць нашых патрабаванняў, моладзь пратэставала.

Нас завивают щипчиками, укладывая в прическу,
А ты все еще растишь волосы, дикие, как водопад,
И твое джинсовое сердце плачет кровавыми слезами...

## Ідалы ці ідэалы

У паўсядзённай барацьбе з моладдзю, з яе няправільнымі прычоскамі, са светапоглядам, з рокам, адзеннем мы забыліся пра галоўнае: пра чалавека і яго культуру, з якой усё і пачынаецца.

*«Выхоўвалі б нас не на матэрыялах чарговага з'езда, а на дасягненнях агульначалавечай культуры, не пранiклі б так глыбока ў нас бязвер'е, цынізм, жорсткасць і лянота. Які геній растлумачыць мне сэнс і значэнне выразу, які сустракаецца амаль што ва ўсіх школьных характарыстыках: «Правільна разумее палітыку партыі»?*

А калі няправільна? А калі зусім не разумее? Ці ж гэта крытэрый культуры, маралі, адукаванасці?..

А чым мы выхоўваем зараз? Мацерным словам, якое часта гучыць нават у кінафільмах. «Таннымі» газеткамі? Ці тымі новымі пісьменнікамі тыпу Эдзічкі Ліманава, аўтара «неўміручых» радкоў: «Ах родная, родная, зямля. Я скажу тебе русское—«бля...» (знакаў прыпынку аўтар не ставіць), якія былі ўзведзены на пастамент новай скульптурнай групы побач з такімі тытанамі, як Набокаў, Салжаніцын. Музыка? Кіно? Аб гэтым можна меркаваць па звону ланцугоў металістаў і павальным захапленні баевікамі і «парнухай».

І, гледзячы на ўсё гэта, здаецца, што працэнт дурняў у нашым грамадстве стаў такі вялікі, што арыентуюцца толькі на іх.

Вось таму і няма свайго голасу, няма свайго «я». Таму і згубілася АСОБА, таму і ўзнікла стаднае пачуццё:

**Эй, вы кучка детей, не видящих смысл,**
**Вы с теми, кто молчал.**
**С юных лет весьма жирная пища,**
**Гниенье в крови и печальный финал.**
**Кодла на кодлу, район на район,**
**Волчья боязнь синих погон.**
**Кровь изо рта, сломанный нос,**
**Предки ночью устроят допрос!**

А што могуць зрабіць гэтыя «продкі»? Яны ківаюць на школу: «Гэта вашы вучні» і чуюць у адказ: «Гэта вашы дзеці». Атрымліваецца зачараванае кола. Чаму такія дзеці, чаму нічога не цікава вучням, чаму апускаюцца рукі ў настаўнікаў? Яны як бы знаходзяцца па розныя бакі барыкады. Чаму?—пытаюся я ў сябе і чую, як мне адказвае — груба і раздражнёна — другі чалавек, маё другое «я»: «Нашу сістэму навучання і выхавання даўно час у морг. І неадкладна». Толькі дзе ўрач?

**Святлана ПЛІСКО, настаўніца.**

## *Дарэчы...*

**Ад усяго сэрца «Чырвонка» віншуе настаўніка мінскай СШ № 49 Валерыя Аляксандравіча Гербутава з перамогай ва ўсесаюзным конкурсе «Настаўнік года-91». Галоўны прыз «Крыштальны пелікан» паедзе ў Беларусь! Плёну Вам, Валерый Аляксандравіч, і новых знаходак у Вашай творчай і неспакойнай дзейнасці!**





**У дзяцей пасёлка Чысць, што ў Маладзечанскім раёне, нечакана з'явіліся чацвераногія сябры. Да радасці дзяцей, створаны гурток верхавой язды. Паклапацілася пра гэта навукова-вытворчае аб'яднанне «Тэмп». І хоць сфера дзейнасці прадпрыемства ляжыць зусім у іншай плоскасці — будаўнічыя работы — на набыццё коней грошай не пашкадавалі. Здаецца, вырашылі правільна: кантакты з жывёлінамі пойдуць на карысць і маральнаму, і фізічнаму здароўю вясковых дзяцей.**

**НА ЗДЫМКАХ: кіраўнік гуртка Іван ЮХНЕЎСКІ са сваімі выхаванцамі Оляй ЧУЙКОВАЙ, Сярожам КІРЫЛЕНКАМ, Васілём СУСЛІНЫМ.**

Фота А. Талочкі.

КАПІШЧА



*Літоўскі нацыянальны Пантэон:*

**ЖЭМІНА — Багіня зямлі.**
**ЛАЙМА — Багіня лёсу.**
**РАГАНА — ведзьма, апякунка мудрасці.**
**ДЫЕВАС — Бог неба, дзённага святла.**
**ВЯЛЬНЯС — д'ябал, Бог краіны памершых, другая (роўная) палавіна Дыеваса.**
**ПЯРКУНАС — Бог агню і вайны, у старажытны час — Бог прыроды.**
**МЯНУЛІС-КУНІГАЙКШЦІС — Бог князь-месяц.**



# А «РАМУВА» ЖЫВЕ...



A. Galdikas. „Lai iemia gera mums Dieva!"

**Летась на вясновае свята Йорэ (Ярылы) мне выдалася патрапіць на адну з горак у парку ля вежы Гедыміна, што ў цэнтры Вільні. Якраз на тое месца, дзе 600 гадоў таму назад яшчэ гарэла паганскае вогнішча. Тут, на святой горцы, сабралася вільнюская суполка аматараў дахрысціянскай рэлігіі «Рамува», каб аднавіць шэсць стагоддзяў таму прыпыненую традыцыю і адсвяткаваць паводле тых абрадаў дзень Йорэ.**

**Маладыя паганцы, хто ў нацыянальнай вопратцы, а хто і ў джынсах, распалілі вогнішча на адведзеным месцы і правёўшы сімвалічнае ачышчэнне — апалосканне вадой, сталі вакол яго, узяліся за рукі, паклікаўшы і мяне ў свой гурт. Ходзячы то ўлева, то ўправа па акружнасці, увесь гурт спяваў сакральныя песні. Потым дзеля аб'яднання людзей па ланцужку пайшоў хлеб, сыр і кубак з пітвом. Кожны адломліваў сыру і хлеба, адпіваў з кубка. Рытуальныя песні, карагоды, ігра на гуслях працягваліся. З кубка адлілі трошкі і на вогнішча — гэта для продкаў... Потым з песнямі і танцамі паганцы ўбаку пасадзілі дубок.**

**І весела, і дзіўна мне было бачыць усё гэта ў канцы касмічнага стагоддзя. Я адвёў ад гурта аднаго з паганцаў (як аказалася, спецыяліста рэспубліканскай службы кінапракату), наіўна запытаў яго: «А што, каталіцкая вера для вас не падыходзіць?» Той адказаў: «Інтэлігенцыю і моладзь цяпер вельмі цяжка заманіць у касцёл — няма яму былой веры. Ды й не ў гэтым справа. Вось мы будуем незалежную Літву, і калі зробім яшчэ адну еўрапейскую каталіцкую дзяржаву — то што тут цікавага? Такіх дзяржаў вунь колькі. А калі мы адродзім сваю дахрысціянскую рэлігію, то гэта здзівіць многіх».**

**Сёлета суполкі «Рамува» з'явіліся амаль што па ўсёй Літве і многія іх маладыя лідэры адназначна заяўляюць аб сваёй рашучасці будаваць літоўскі паганскі Храм. А мы маем магчымасць пагутарыць з кіраўніком на леташнім свяце Йорэ, а сёння ўжо і старшынёй Літоўскага саюза «Рамуў» Іонасам Трынкунасам.**

**— Спадар Іонас, вядома, што паганская рэлігія ў Літве ў старажытнасці мела іншы лёс, чым у Латвіі...**

— Так. Трэба адрозніваць, што ёсць рэлігія народная, якая пражыла тысячы гадоў у хатах у форме звычаяў, песень і дайшла ў такім неаформленым выглядзе да нашых дзён. Гэта было і ў Літве, і ў Латвіі, і ў іншых мясцінах. А ёсць і іншая форма паганскай рэлігіі — дзяржаўная. У часы нашых князёў ішоў працэс арганізацыі такой рэлігіі. Яна перажыла некалькі рэформ Відэвуда і Рутэна (агульнабалцкая рэформа, V—VI стагоддзе н. э.), увядзенне Совіем агню як галоўнага сімвала (VII—VIII стст.), заснаванне ў XIII стагоддзі Швентарыгісам ахвярніку ў Вільнюсе. Галоўным жа заснавальнікам паганскай рэлігіі як дзяржаўнай лічыцца Вялікі князь Гедымін. У пачатку XIV стагоддзя, гадоў за 60 да хрысціянства, пры ім на вышэйшае месца ўзнялі Бога Пяркунаса. Тады ішла ўпартая бесперапынная вайна з крыжакамі і Пяркунас (Пярун) быў наўмысна ўзвялічаны як Бог воінаў, апякун Літвы.

Арганізаваная паганская рэлігія паспяхова стваралася, распаўсюджвалася па ўсім княстве. І цяпер у Заходняй Беларусі, напрыклад, захаваліся населеныя пункты з назвамі «Бакшты» ці «Башты» (ад літоўскай назвы «вежы») і «Крыўляны», «Крывулі», дзе, па-мойму, знаходзіліся паганскія святары. Паводле старых апісанняў, існуе цэлы ланцужок такіх мясцовасцей. Я лічу, што гэта і была сістэма дзяржаўнай рэлігіі. Можна зрабіць вывад, што тады вялася вялікая арганізацыйная работа і дзяржаўная паганская рэлігія паспела ўжо як след зацвердзіць сябе, але наступленне хрысціянства было жорсткім і справа гэтая была спынена...

**— І тады паганская рэлігія знікла?**

— Старажытныя народныя вераванні існавалі без змен і далей. Ды і арганізаваная рэлігія яшчэ гадоў дзвесце недзе на вёсцы, на нізкім узроўні культывавалася. Да прыходу езуітаў у XVI—XVIII стст. Яны пайшлі ў вёскі, у глыбінкі, па хатах, разбуралі ахвярнікі. Да таго ж часу толькі недзе ў княскіх палацах, у гарадах жылі хрышчаныя людзі. Але і пасля паходаў езуітаў існавала арганізаваная форма паганскай рэлігіі — у падполлі. Археалагічныя знаходкі даводзяць, што да канца XVIII стагоддзя існавалі арганізаваныя групы, якія выконвалі язычніцкія абрады — у балотах, лясах стаялі іх ахвярнікі, свяшчэнныя камяні, дрэвы...

**— Выходзіць, што, па сутнасці, каталіцтва, як рэлігія простага народа ў Літве вельмі маладая вера?**

— Так. Поўная перамога хрысціянства ў Літве мела месца толькі ў пачатку XIX стагоддзя. Аб гэтым жа сведчыць і такая своеасаблівасць народных песень Літвы як некранутасць іх хрысціянскай культурай у параўнанні з фальклорам суседніх народаў (палякаў, беларусаў), не гаворачы ўжо пра сакральныя песні літоўцаў, развітую рытуальную культуру нашых продкаў.

**— Каго вы лічыце папярэднікам сучаснага паганскага руху ў Літве?**

— Калі мы ў 1968—69 гг. стварылі сваю «Рамуву», то амаль нічога не ведалі пра тое, што было да нас. Цяпер жа мы можам сказаць, што ў XIX ст., калі ў народзе знікала арганізаванае паганства, у інтэлігенцкім асяроддзі нараджалася хваля захаплення язычніцтвам, цікавасці да яго. Сярод такіх людзей назаву гісторыка Даўкантаса, які бачыў у паганстве свой ідэал. Калі ж у канцы XIX ст. пачалося літоўскае адраджэнне, то былі людзі, якія лічылі сябе паганцамі. Яны мелі свае свяцілішчы, святыя дрэвы і г. д. Нельга абысці ўвагай і нашага знакамітага пісьменніка, філосафа, драматурга Відунаса. Гэта ён напісаў вядомую драму «Вечны агонь» пра абарону святога месца «Румовэ» ў Прусіі, выратаванне святога агню. Яна распаўсюдзіла саму ідэю Ромувы ў асяродку інтэлігенцыі.

**— Растлумачце ўсё ж, што абазначае «Ромува»?**

— Назва паходзіць са старажытнай Прусіі, дзе было свяшчэннае месца балтаў «Румовэ» — духоўны цэнтр, там знаходзіўся галоўны жрэц Крыве.

**— А быў у вас у 20—30-я гады гэтага стагоддзя рух, падобны да руху латышскіх дыеўтураў?**

— Так. Домас Жыдлаўскас арганізаваў таварыства Вісомечаў (ад імя аднаго з персанажаў «Вечнага агню»). На беразе возера Сартай з'явілася свяшчэннае месца. Але так развіць свой рух, як латышам, нашым папярэднікам не ўдалося. Па-першае, каталіцтва ў нас было больш агрэсіўным, а па-другое, слабейшай была інтэлігенцыя — тут ролю адыграла забарона на літоўскі друк пасля паўстання 1863 года... Нядаўна мы даведаліся, што была арганізацыя «Ромува» ў Каўнаскім універсітэце імя Вітаўта Вялікага з 1930 па 1940 год. Потым прыйшлі Саветы, вайна...

**— А пасля вайны?**

— Нядаўна нам стала вядома, што ў сталінскім лагеры ў Інце была свая «Ромува» — са складу ўдзельнікаў даваеннай арганізацыі. Але ім было вельмі цяжка, яны толькі сустракаліся, размаўлялі на гэтыя тэмы. Потым, калі ўжо вярнуліся з лагера, інфармацыя пра іх арганізацыю ўсплыла, у 1965 годзе іх схапілі і хацелі «прышыць» справу пра тайную антысавецкую арганізацыю, але (былі ўжо больш «мяккія» часы) адпусцілі.

**— А ваша «Рамува» займалася легальна?**

— Два-тры гады нам удалося спакойна папрацаваць спачатку як гуртку краязнаўцаў, фалькларыстаў. Мы адзначалі старажытныя святы, рэканструявалі абрады, ездзілі ў экспедыцыі, паспелі выдаць тры нумары газеты «Рамува», хоць да нас увесь час прыдзіраліся, перашкаджалі. А потым у 1971—1972 гадах быў разгром. Усё забаранілі, усіх разагналі. Мяне самога ў 1973 годзе выгналі з працы (я быў выкладчыкам Вільнюскага універсітэта), і я амаль 15 гадоў не мог знайсці сабе прымяненне па спецыяльнасці—працаваў рознарабочым, камень драбіў, быў падручным скульптараў. Мне не дазволілі закончыць работу над дысертацыяй і забаранілі працаваць у культурных ці навучальных установах. Дзякуй Богу, што мне ўдалося пэўны час займацца арганізацыяй фальклорных ансамбляў... І толькі ў 1988 годзе я змог вярнуцца да звычайнай сваёй працы, да навукі. Цяпер працую ў Акадэміі навук Літвы.

**— Тады ж, відаць, вы і аднавілі сваю «Рамуву»?**

— Так. У 1988 годзе мы аднавілі яе. А цяпер маем шмат адгалінаванняў па ўсёй Літве, каля 20 цэнтраў, больш як дзве тысячы прыхільнікаў.

**— Ці маеце вы аднадумцаў за мяжой?**

— У Амерыцы ёсць цэнтр «Рамувы», там выходзіць газета на англійскай і літоўскай мовах. Цяпер у нас з'явіліся сувязі з «Паган федэрэйшэн», язычніцкімі арганізацыямі ў Англіі, Фінляндыі. Тыя рухі, дарэчы, таксама пачыналіся ў 60-я гады. Гэта сведчыць, відаць, аб заканамернасці працэсу з'яўлення паганскіх рухаў.

**— Вы прэтэндуеце на ролю нацыянальнай рэлігіі?**

— Гэта складанае паняцце — нацыянальная рэлігія. Гэта як бы дзяржаўная, агульнанародная рэлігія — тут тым жа камунізмам пахне. Я думаю, што на такую ролю мы не можам прэтэндаваць. Па-першае, дэмакратычнае грамадства плюралістычнае. Па-другое, наша задача не ў тым. Мы павінны даць людзям уяўленне, што ёсць аснова нашага народа, якія важнейшыя нашыя рысы як нацыі. І хоць дзе хто кажа, што нібыта каталіцызм цяпер становіцца нацыянальнай рэлігіяй... Тут ёсць умоўнасць, якая заключаецца ў тым, што каталіцызм інтэрнацыянальны.

**— Якія філасофскія і этычныя асновы вашага вучэння?**

— У хрысціянстве на першым месцы духоўнасць, якая з'яўляецца як бы і выражэннем Бога, таму ўсе памкненні хрысціян накіраваны ад грэшнай, чорнай зямлі да духоўнага ідэалу. У паганстве зусім іншая накіраванасць. Там галоўнае — гэта жыццё, усё, што жывое, усё, што расце. Жыццё як вынік і выражэнне прыроднай гармоніі. У нас усе абрады скіраваны на спрыянне жыццю, каб усё расло: і дрэвы, і трава, і людзі. Ідэал чалавечага існавання — гэта і ёсць гармонія ўзаемаадносін з прыродай. Пражыць жыццё добра, памерці спакойна, са сваімі родзічамі, на сваёй зямлі... Нашай старажытнай традыцыі зусім не ўласцівы роздумы пра духоўнасць, якімі зараз запоўнены ўсе часопісы, кнігі — гэта ад хрысціянства. Нідзе ў нашым фальклоры няма ўсхвалення духоўнасці і духаў. Духі былі якраз не асабліва любімымі, іх лічылі беспрытульнымі, непрывязанымі да нечага пэўнага.

Таму нашай традыцыі зусім не ўласцівы такія формы жыцця, як манаства, бясшлюбнасць (гэта супярэчыць самому прынцыпу прыроднай гармоніі). У нашай міфалогіі Бог стварае свет поруч з д'яблам. Яны ўраўнавешваліся, і свет атрымліваўся ўстойлівым. Такі вось дуалізм і ва ўсіх нашых абрадах. Дзе яго няма — там пачынаецца разбурэнне. Камунізм вось забараняў усё, акрамя сябе самога, —і вось разбурэнне. Хрысціянства таксама толькі сябе хацела пакінуць...

**— Якія святы вы будзеце адзначаць сёлета?**

— 22 чэрвеня ля Чарняхоўска ў Прусіі — агульнабалцкае паганскае свята Купалле на месцы гістарычнай Румовэ. 28 верасня ў Вільнюсе свята Гедыміна, 29 верасня там жа — сход Дома балтаў. Запрашаю ўсіх жадаючых прылучыцца да нас з Беларусі. Мой тэлефон у Вільнюсе: 65-13-84.

**— Дзякуй вам за шчырую размову.**

**Інтэрв'ю правёў**
**Валер КАЛІНОЎСКІ.**
**Тэл. 32-24-96.**

Граніц яго сапраўды не вызначыш, бо заблыталіся яны сярод беларускіх, літоўскіх, польскіх, латышскіх, рускіх і змешаных вёсак на Віленшчыне і ў Латгаліі.

Грунтоўна!

# Бяскрайні паўночны захад

**Па-рознаму ацэньваецца мінулае і сучаснае гэтых земляў. Гледзячы карыслівымі вачыма, лёгка перабольшыць свае набыткі і знікчэміць або ўвогуле не заўважыць суседнія. Тым больш зараз, калі прыйшла пара гаспадарам агледзецца ў сваіх, дагэтуль гвалтоўна запакінутых абсягах. Аднак хочацца спадзявацца, што і Віленшчына, і беларуска-латгальскае сумежжа будуць не раз'ядноўваць, а, наадварот, збліжаць нашы народы, звязваць іх культурна, духоўна, моўна. Як, дарэчы, гэта і было ў мінулым.**

**Таму ці не лепей было б аб'явіць мараторый на балючыя ацэначныя заявы наконт гэтых і сумежных ім зямель у Беларусі і прымаць пад увагу толькі разважлівую, аргументаваную пазіцыю ды навукова пацверджаную інфармацыю. Такую вось, якую прапануюць чытачам «Чырвонкі» кандыдаты філалагічных навук, старшыя навуковыя супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР Фёдар Данілавіч КЛІМЧУК і Алена Іванаўна ЧАБЯРУК.**

**(Заканчэнне. Пачатак у № 19).**

Характарызуюцца пэўнай моўнай спецыфікай розныя рэгіёны ПАЎДНЕВА-УСХОДНЯЙ ЛАТВІІ.

На аўтобуснай станцыі ў раённым цэнтры Краслава нярэдка можна пачуць звычайную беларускую гаворку. Людзі размаўляюць ёю, не саромеючыся. Яны прыехалі ў раённы цэнтр з беларускамоўных вёсак. Але нас зацікавіла сітуацыя ў суседнім, Лудзенскім раёне, які размешчаны на поўнач ад Краслаўскага: у мінулым на яго тэрыторыі даследчыкі адзначалі беларускія гаворкі. Садзімся ў аўтобус, які з Краславы ідзе ў Лудзенскі раён. Аўтобус набіты людзьмі, якія гучна гамоняць паміж сабою. Чуецца гамонка на дзвюх мовах. Адна мова латышская, другая — руская, але трошкі своеасаблівая, нейкая занадта кніжная, не народная. Едзем далей. У рускай мове пасажыраў пачынаюць з'яўляцца беларускія словы. Далей едзем. Беларускіх слоў у гэтай мове становіцца ўсё болей і болей. Калі ж пад'язджаем да вёскі Пасіене, дзе нам трэба выходзіць з аўтобуса, у мове пасажыраў пераважае ўжо беларуская стыхія. Мы знаходзімся пэўны час у Пасіенскім і Вецслабадскім (Істранскім) сельсаветах Лудзенскага раёна, пабывалі ў некалькіх вёсках. У Пасіенскім сельсавеце пераважаюць католікі, у Вецслабадскім — праваслаўныя. Але гаворкі вёсак абодвух сельсаветаў блізкія. І стыхія аналагічная той, якую мы назіралі ў аўтобусе: калі людзі звяртаюцца адзін да аднаго, ці мы гаворым з мясцовымі людзьмі, дык у іх мове назіраецца нібы хвалевы пераход з рускай стыхіі ў беларускую.

### З ІНШЫХ КРЫНІЦ

Нашы назіранні моўнай сітуацыі ў Віленскім краі і Латгаліі знаходзяць адпаведнасць у іншых дакументах. Прывядзём звесткі перапісу насельніцтва ў 1897 годзе.

Перапіс 1897 г. у Расійскай імперыі цікавы тым, што ў аснову яго пакладзена моўная прыналежнасць насельніцтва.

Віленскі (Вільнюскі) павет без горада Вільні (Вільнюса): беларусы — 87382 чалавек (41,9 працэнта), літоўцы — 72916 (34,9 працэнта), палякі — 25293 (12,1), яўрэі — 15538 (7,4), рускія — 6939 (3,3 працэнта). Па рэлігіі сярод беларусаў складалі: католікі — 82527 чалавек, праваслаўныя — 4457, стараверы — 242 чал. Сярод рускіх — стараверы — 3428, праваслаўныя — 3067, католікі —323 чалавекі.

Троцкі (Тракайскі) павет: літоўцы — 118153 чалавекі (58,1 працэнта), беларусы — 32015 (15,7), палякі — 22884 (11,3), яўрэі — 19812 (9,7), рускія — 9315 (4,6 працэнта). Сярод беларусаў католікі складалі 29429, праваслаўныя — 1836, стараверы 96 чалавек, сярод рускіх: праваслаўныя — 6296, стараверы — 1917, католікі — 132 чалавекі.

Латгалія: Дзвінскі (Даўгаўпілскі), Люцынскі (Лудзенскі) і Рэжыцкі (Рэзекненскі) паветы Віцебскай губерні: латышы — 253792 чалавекі (50,6 працэнта), рускія — 77967 (15,5), беларусы — 66448 (133), яўрэі — 64224 (18,8), палякі — 30972 (6,2 працэнта). Па рэлігіі сярод беларусаў католікаў налічвалася 36029 чалавек, праваслаўных — 17057, стараveraў — 13281. Сярод рускіх — стараверaў 46974, праваслаўных 28300, католікаў 2189 чалавек.

Ілуксцкі павет Курляндскай губерні, які прымыкаў да латгальскіх паветаў Віцебскай губерні: латышы — 18956 (28,6 працэнта), беларусы — 11478 (17,3), палякі — 11380 (17,2), рускія — 10121 (15,3), літоўцы — 6996 (10,6), яўрэі — 6383 (9,6 працэнта). Сярод беларусаў католікаў было 8353 чалавекі, праваслаўных — 2636, стараверaў — 344. Сярод рускіх — стараверaў 6329, праваслаўных 2574, католікаў 1176 чалавек.

А вось якую характарыстыку моўнай сітуацыі ў палякаў Літвы ў наш час дае прафесар Вільнюскага універсітэта доктар філалагічных навук В. М. Чэкманас у інтэрв'ю М. Крупавес (Согласие, издание литовского движения за перестройку, № 8, 22 мая 1989 г., стар. 7). Заўважым, што ў пасляваенныя гады ў Літве, як і раней у 20—30-я гады ў Польскай дзяржаве, большасць беларускамоўных католікаў Віленскага краю адносяць да палякаў.

«...Я хачу яшчэ некалькі слоў сказаць аб неаднароднасці палякаў Літвы. У чым яна праяўляецца? Вам добра вядома, што большая частка палякаў Тракайскага, Шальчынінскага, Швянчонскага раёнаў, усе палякі паўднёвай часткі Вільнюскага раёна да Віліі — гэта палякі беларускамоўныя. Паміж літоўскім этнасам і беларуска-польскім існуе праслойка літвіна-палякаў: гэта насельніцтва, якое гаворыць па-польску і па-літоўску. Асноўная іх маса сканцэнтравана вакол Аукштадварыса, Анушкес, у Малецкім раёне, аж да Укмерге, у Зарасайскім раёне. Сюды неабходна аднесці частку насельніцтва Іонаўскага і Кедайнскага раёнаў. І, нарэшце, менш як трэць, а магчыма, нават чацвёртая частка ўсяго польскага насельніцтва Літвы — гэта тыя, каго можна назваць уласна палякамі. У якім сэнсе? У тым, што польская мова з'яўляецца для іх асноўнай».

### ШТО ДАТЫЧЫЦЦА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ САМАСВЯДОМАСЦІ,

то спецыяльна гэтым пытаннем даследчыкі гаворак не займаліся, ды і методыка такіх даследаванняў не распрацавана. Прамое апытанне, магчыма, не дасць правільных адказаў. Афіцыйнае вызначэнне нацыянальнай самасвядомасці часам не супадае з сапраўднай самасвядомасцю чалавека. Часцей за ўсё высвятленне такіх нюансаў магчыма ў прыватных гутарках, калі чалавек давярае збіральніку гаворак. Удзельнікамі экспедыцый сабраны пэўныя звесткі. Заўважана, што за некалькі дзесяцігоддзяў змяніўся погляд беларускамоўных католікаў на сябе і сваю гаворку як у Літве, так і ў Заходняй Беларусі. Гаворку сваю ў 50—60-я гады яны звычайна называлі простай. У 70—80-я гады гэтую ж гаворку ўжо часцей называюць беларускай.

Характэрны вось такі прыклад атаясамлівання выразаў «гаварыць папросту» і «гаварыць па-беларуску». У вёсцы Судэрва адзін з аўтараў артыкула гутарыць з карэнным жыхаром Лаўмецкім Іосіфам Уладзіслававічам, расказвае пра мэты экспедыцыі і просіць яго гаварыць папросту. «Папросту — гэта па-беларуску, — заўважае Іосіф Уладзіслававіч і далей гаворыць жартам: — Дык у вас жа там пад Мінскам гэтай беларускай мовы столькі, што можна было б і не ехаць пад Вільню».

Таксама вызначаецца своеасаблівасцю этна-нацыянальная самасвядомасць беларускамоўнага насельніцтва ў Лудзенскім раёне Латвіі. Прывядзём адзін прыклад. У гутарцы з Дуброўскім Георгіем Васільевічам з вёскі Істра было заўважана, што ён неаднаразова ўжываў «мы рускія» і «мы беларусы». На пытанне, чаму ён так гаворыць, адказаў так: «Рускія (у Лудзенскім раёне) — гэта «ўсе» (меліся на ўвазе ўсходнія славяне — аўт.), але рускія падзяляюцца на велікарусаў, старавераў і беларусаў. Вось карэнныя жыхары вёскі Істра (Вецслабада) — беларусы і ў той жа час яны рускія».

Былі выпадкі, калі інфарматары выказвалі сваю нязгоду з афіцыйным статусам сваёй нацыянальнай прыналежнасці. Так жанчына з вёскі Калніешы Краслаўскага раёна Латвіі гаварыла: «Па пашпарту я полька, але гэта выпадковасць, неяк выпадкова запісалі мяне, а я звычайная беларуска». Або жыхарка з вёскі Пасіене Лудзенскага раёна Васільева Агаф'я Ціханаўна гаварыла: «Нельга так груба абыходзіцца з нацыянальнасцю — мы лічыліся беларусамі, я пісалася беларускай, у буржуазнай Латвіі наведвала беларускую школу, а нас узялі ды перапісалі на рускіх, і школу зрабілі рускай, толькі рускія класы, а раней жа былі і беларускія, і польскія...»

### СПІС ІНФАРМАТАРАЎ

**Апісваючы гісторыю нашых даследаванняў, нельга не ўспомніць тых людзей, якія гаварылі з намі нярэдка з узнёслай радасцю і з глыбокай любоўю да роднага краю, да сваіх вёсак. Без гэтых людзей не было б і слоўніка. З другога боку, памяць пра гэтых людзей — гэта ж і своеасаблівы дакумент аб навуковых даследаваннях. Калі гаварыць рэальна, дык нашы інфарматары — гэта і сааўтары навуковых работ. Таму ахвота прывесці невялікі спіс прозвішчаў тых людзей, ад якіх мы запісалі ўзоры мясцовай мовы: Катлоўскі Вацлаў Іосіфавіч (нарадзіўся ў 1901 г.), Катлоўская Вікторыя Міхайлаўна (1904 г.), Татуль Іосіф Іосіфавіч (1891 г.), Татуль Стэфанія Паўлаўна (1894 г.), Ступенка Алеанора Казіміраўна (1902 г.), Ступенка Казімір Казіміравіч (1902 г.), Ступенка Станіслаў Якубавіч (1901 г.) (усе — з в. Грыкені). Лаўмецкі Іосіф Уладзіслававіч (в. Судэрва, 1891 г.), Дэмскі Станіслаў Канстанцінавіч (в. Відаўцішкі, 1898 г.), Татуль Ян Якубавіч (засценак Швэды, 1895 г.), Рымаш Паўліна Антонаўна (літоўка, в. Чычалі, 1924 г.), Рымаш Ёзас Адамавіч (літовец, в. Чычалі, 1908), Паукшта Саламея Вінцэнтаўна (нарадзілася ў в. Талейкі, замужам у літоўскай вёсцы Аферышкі), Агулевіч Чэслаў (Старыя Трокі, 1943), Агулевіч Галіна (Старыя Трокі, 1944), Вінікене Яніна (Ракаўскія, 1933), Грышылёнак Антон Анастасьевіч (Пасіене, 1902), Васільева Агаф'я Ціханаўна (Пасіене, 1915), Паўловіч Іосіф Дзяменцьевіч (Істра, 1902), Дуброўскі Арцемій Дзмітрыевіч (Істра, 1908), Дуброўскі Георгій Васільевіч (Істра, 1914), Вяжан Яніна Францаўна (Ракаўскія, 1923), Даўгуль Уладзіслаў Антонавіч (Калніешы, 1927), Даўгуль Валянціна Францаўна (Калніешы, 1928). Бучаль Часлава Казіміраўна (Ракаўскія, 1935), Бучаль Віктар Лявонавіч (Ракаўскія, 1938).**

## Літсумежжа

### Святлана ЛОБАЧ

***

Вось і станцыя апошняя
Беларуская
Гудагай...
Гуд-беларус, бывай!
Да пабачэння, Беларусь,
Бывай!
«Labas vakaras, Lietuva».*
Быццам рэкі —
Вілія і Нёман —
Нас гады сяброўства аб'ядналі.
Соснаў беларускіх ціхі гоман
Зліўся з песняй гучнай морскіх хваляў.
О, Літва! Тваіх дачок, сыноў
Запрашаем мы за стол гасцінны
Знойдзем столькі добрых, шчырых слоў —
Дзеці ж мы адзінае Айчыны.
Зеляцеюць хай лугі ад траў,
Жыта буйна ў полі каласіцца...
Рознасць моў — ды еднасць нашых спраў...
І любоў, як чыстая крыніца.

* Добры вечар, Літва.

### ЗІЛУПЭ-СІНЯЯ

Неба адбітак —
Расіі і Латвіі —
Хвалі твае уабралі...
Можа, таму цябе,
Зілупэ - Сіняй
Людзі-суседзі назвалі.
Можа, садзілі вербы плакучыя,
Каб берагі мацавалі...
Зілупэ-Сіняя!
Тваёй вадою гаючаю
Раны салдацкія прамывалі.
Водар рачны, як хмяльная брага...
Пад шум чароту я засынаю.
Калі ж апячэ ўсё нутро маё смага,
Я да Сінюхі хутчэй прыпадаю.
(Так называюць раку беларусы).
Кажуць, была ты такой паўнаводнаю!
Як ты пятляла, рабіла калены!
А спраставалі — і стала халоднаю,
Хвалі не пахнуць, як некалі, сенам.
Зілупэ - Сіняя!
Быльніку сіваму
Месца ўступілі рамонкі..
Водарасці адрасцілі
Доўгія косы тонкія.
Ява ці, можа быць, гэта казка:
Бачу ціхмяную замест гарэзы...
Не зарастай толькі, Зілупэ, раскай
І асакою-парэзам.

## Дадатак

## Аўтэнтычны фальклор Віленшчыны

***

Іду па ваду, дзень добры даю,
Вадзіца з вядзёр выліваецца,
Маё сэрданька разрываецца.
Ідзе мілы праз бок,
Шапкі не здойме,
Дзень добры не дась.
Ідзі, ідзі, чорт цябе бяры,
Вазьму мілога з чужой стараны.
Пасаджу яго да ў канцы стала,
Сяджу, пагляджу, як на сакола.
Саколік ты мой, чым ты не васол?
Пры табе, саколік, зязёлькі няма.
Учора была, ягодкі клюла,
Сягодня рано застралёная.
Не такі мне жаль, каб гдзе на баку,
А то у маім вішнёвым саду.

***

Тры рэчачкі сцякаліся,
Тры сястрыцы збегаліся.
Адна ў аднэй пытаецца:
— Якаво табе, сястрыца,
За малога ідучы?
— У клець ідзём — нясу яго,
С клеці іду — вяду яго.
Тры рэчачкі сцякаліся,
Тры сястрыцы збегаліся.
Адна ў аднэй пытаецца:
— Якаво табе, сястрыца,
За старога ідучы?
— У клець іду — папіхаю,
С клеці іду — паштурхаю.
Тры рэчачкі сцякаліся,
Тры сястрыцы збягаліся.
Адна ў аднэй пытаецца:
— Якаво табе, сястрыца,
За молайца ідучы?
— У клець ідзём — цалуемся,
С клеці ідзём — мілуемся.

### ВУЖЛІС

Цара дачка пашла ў сад і зблудзіла, гдзе ні йдзе, то ўсё не выходзіць. Тады прыпоўз гэты вужліс, і гаворыць, калі пойдзеш за мяне, то я вывяду цябе. Яна сагласілася, што пайду. Ён і вывеў і яе да хаты падвёў. Прышла дахаты і пахавалася на печы. Тады прыпоўз у хату да яе і проста за печ. Кажыць: ідзём са мной цяпер, я не кіну цябе — абешчала, што пойдзеш. Тады павёў ён яе да сваёй хаты. Тады вечар, ложку яна паслалася, ён вылез с скуры і стаў чалавекам, харошы чалавек. А як раніца — улезець у скуру і ідзець праз дзверы. Адну раніцу гэтак, другу, а трэцюю яна ўстала, скуру гэтую спаліла. Тады кажыць: што ты зрабіла, мне ўжо мала засталося служыць у гэтай скуры. Вышаў на двор, што мне будзе, які за прыказ, я не знаю. Далі яму каня, садзіся. Калі выдзержыш, не зляціш, то будзеш жыць з жонкаю, а калі зляціш, то ўсё прапала, нашто ты шкуру спаліў! І ён не зляцеў, і жыў з жонкаю. Ён быў абчараваны.

**Усе запісы зроблены ў чэрвені 1976 года. Інфарматар: Паукшта Саламея Вінцэнтаўна. Нарадзілася ў вёсцы Талейкі, там і навучылася гэтых песень. Замуж выйшла ў літоўскую вёску Акверышке (Аферышкі). Нарадзілася ў 1903 г.**

**Запісаў КЛІМЧУК Ф. Д.**

**«TERRA DETEKTIV» — «ЗЕМЛЯ ДЭТЭКТЫЎ» — так мы вырашылі назваць анталогію кароткага дэтэктыўнага апавядання, першы выпуск якой перад вамі, паважаны чытач. Так, нягледзячы на тое, што сёння дэтэктыўная літаратура запоўніла паліцы кнігарань і кааператыўных кіёскаў, мацярык гэтага цудоўнага і таямнічага жанру па-ранейшаму ў многім малазнаёмы савецкаму чытачу. І ў сваім «дэтэктыўным марафоне» мы паспрабуем «ахапіць» зямны шар, карыстаючыся незаслужана забытымі і невядомымі ў нашай краіне творамі. Ужо ў першых выпусках вас чакае сустрэча з майстрамі дэтэктыву ЗША, Японіі, Аўстраліі. Ну а пачынаем, вядома, з радзімы Шэрлака Холмса і міс Марпл — Англіі. Такім чынам, нумар першы ў нашай анталогіі — Дораці Лі Сэерс (1893—1957). Гэту англійскую «дэтэктыўную даму», добра вядомую ва ўсім свеце і загадкавую пакуль для нас, адносяць да паслядоўніц Агаты Крысці. Але, калі ўчытацца ў яе творы, можна заўважыць, што іскрамётным гумарам, нават хітраватасцю, Сэерс перасягае сваю славутую зямлячку.**

## *1. Дораці Лі СЭЕРС*

## *(Вялікабрытанія)*




— Паслухайце, Монці, — сказаў м-р Хопгуд (комівояжор фірмы «Бразерхуд лімітэд») м-ру Эгу (комівояжору фірмы «Пламет энд Роуз», — калі вы ўжо тут, чаму б вам не паспытаць шчасця ў прафесара Піндара? Мне здаецца, ён якраз тое, што вам патрэбна.

М-р Эг неахвотна адарваўся ад прагляду загалоўкаў у ранішняй газеце і спытаў: а хто такі прафесар Піндар.

— Ды ўсяго толькі стары дзівак, які пасяліўся нядаўна ў асабняку «Велінгтонія хаус», — адказаў м-р Хопгуд. — У тым самым, дзе раней жыла сям'я Фэнэл. Купіў у студзені гэтага года і пераехаў туды з месяц назад. Піша кнігі ці нешта накшталт гэтага. Я ўчора быў у яго. Спадзяваўся атрымаць заказ. Ён жыве адзінока, вось я і падумаў, што, можа, пашанцуе збыць яму скрынку «Спарклін Помпейн» ці чаго-небудзь яшчэ з безалкагольных напіткаў. Ну і сустрэў жа ён мяне! Абазваў мой тавар атрутай, а мяне самога аблаяў. Ніяк не чакаў такіх выразаў ад вучонага. Я, вядома, папрасіў прабачэння за тое, што перашкодзіў яму, і сказаў сабе: «Гэты тыпчык якраз для Монці з яго наборам старых моцных він».

М-р Эг падзякаваў м-ру Хопгуду і згадзіўся, што прафесар Піндар можа аказацца вельмі выгадным кліентам.

— Значыць, да яго пускаюць? — спытаў ён.

— Так... толькі вам прыйдзецца сказаць, хто вы такі, — адказаў м-р Хопгуд. — Эканомка — сапраўдная зядзьмарка. Не раю паўтараць старую казку аб тым, што вас паслаў яго стары сябар, таму што, па-першае, у яго тут наогул няма сяброў, а, па-другое, яны ўжо ведаюць гэты трук.

— У такім выпадку... — пачаў м-р Эг, але паколькі м-р Холгуд яўна не заўважыў у сваіх словах нічога дзіўнага, ён вырашыў, што не варта распачынаць спрэчку, бо раніца ўжо канчалася, а ён не прачытаў яшчэ пра рамантычны шлюб кіназоркі і падпал сельскага дома. Таму ён паглыбіўся ў газету.

Аднак хутка яго камерцыйнае сумленне (вельмі чуйнае) напомніла яму, што ён марнуе рабочы час, і ён накіраваўся разбіраць скаргу гаспадара «Зэона» на тое, што апошняя партыя віна «Оулд Тоні» (моцнае з цудоўным водарам), пастаўленага фірмай «Пламет энд Роуз», смакам рэзка адрознівалася ад папярэдніх — з-за няправільнай быццам бы ўпакоўкі.

Уладзіўшы гэта маленькае непаразуменне і высветліўшы яго прычыну (гаспадар па неахайнасці правёў трубу новай паравой установкі для абагравання дома ў непасрэднай блізкасці ад паліц з віном). М-р Эг вырашыў высветліць, як дабрацца да асабняка «Велінгтонія хаус».

— Гэта ў пяці мілях ад горада, — сказаў гаспадар. — Едзьце па дарозе на Грэйт Уіндзінгз, павярніце налева ля драўлянай вышкі, а затым ідзіце направа, міма старога вадзянога млына. Хутка ўбачыце прыгожы дом з высокай цаглянай сцяной. Ён стаіць у лагчыне. Памойму, там сыра. Я б не хацеў там жыць. Але гэты стары прафесар нежанаты, таму яму ўсё роўна, я думаю. Ён жыве там адзін разам з эканомкай і мільёнамі тон кніг. Мне не вельмі спадабалася, што менавіта ён купіў гэты дом. Што нам тут патрэбна, дык гэта якая-небудзь сям'я з кучай дзяцей, каб ажывіць гандаль у горадзе.

— Значыць, ён не вельмі багаты чалавек? — спытаўся м-р Эг, у думках замяняючы «Кокберн» (цудоўнае старое віно, разліву 1896 года), які ён хацеў прапанаваць прафесару, больш танным сортам.

— Напэўна, багаты, — адказаў гаспадар, — павінен быць багатым, калі ён заплаціў за маёнтак усю суму адразу. Але ён не здае зямлю ў арэнду. Ніколі нікуды не ездзіць, не забаўляецца. Гавораць, ён дзівак.

— Ён купляе ў вас мяса? — пацікавіўся м-р Эг.

— О, так, і толькі лепшай якасці. Але колькі ж патрэбна старому джэнтльмену адбіўных і біфштэксаў, калі падумаць? Прыбытак ад яго невялікі.

І ўсё ж думка пра адбіўныя і біфштэксы супакойвала м-ра Эга, калі ён праязджаў міма драўлянай вышкі і старога вадзянога млына. Падсмажанае мяса і віно не менш удала спалучаюцца, гаварыў ён сабе, чым, напрыклад, арэхавыя аладкі і хатні ліманад...

Дзверы асабняка адчыніла пажылая жанчына ў фартуху. Убачыўшы яе, м-р Эг адразу адмовіўся ад тактыкі, якой карыстаўся ў размовах з прыслугай, абраўшы іншую, больш падыходзячую да людзей з «вышэйшай скрыні», як ён іх называў. Даваенная дваранка на пасляваеннай рабоце, вырашыў ён, паказаў сваю візітную картку і адразу паведаміў пра мэту свайго прыходу.

— Добра, — сказала эканомка, пільна разглядваючы м-ра Эга. — Прафесар Піндар — вельмі заняты чалавек, але ён, магчыма, захоча сустрэцца з вамі. Ён цікавіцца вінамі — асабліва марачным партвейнам.

— Якраз на гэтым віне мы і спецыялізуемся, — з гонарам заявіў м-р Эг.

— Уваходзьце, — сказала жанчына.— Можа, ён сам пагутарыць з вамі, хоць я не магу гэтага абяцаць. Работа над кнігай забірае ў яго амаль увесь час...

— Я разумею, мадам, — сказаў м-р Эг, уваходзячы ў прыхожую і старанна выціраючы ногі. Яны былі зусім чыстыя, але рытуал гэты быў неад'емны ад яго прафесіі, пра што гаварылася ў «Настаўленні для комівояжора» («Будзьце пачцівыя: зніміце капялюш, вытрыце ногі — гэта выкліча ў жанчын станоўчыя эмоцыі»). — Мне здаецца, — працягваў ён, ідучы за эканомкай цераз вялікі хол і па доўгім калідоры, які быў засланы тоўстым дываном, — што многія пакупкі не ажыццяўляюцца з-за лішняй настойлівасці комі, а не з-за недахопу такой. Я проста пакажу прафесару свой спіс він, і калі ён ім не зацікавіцца, я абяцаю адразу пайсці.

Эканомка ўсміхнулася.

— Вам не адмовіш у разважлівасці, — заўважыла яна і ўвяла яго ў вялікі і вельмі высокі пакой, застаўлены ад падлогі да столі кніжнымі шафамі і паліцамі. — Пачакайце тут хвілінку, а я пайду і даведаюся, што скажа прафесар Піндар...

Некаторы час яе не было, і м-р Эг паступова пачаў непакоіцца. Ён прайшоўся па бібліятэцы, спрабуючы высветліць, прафесарам чаго менавіта быў прафесар Піндар. Аднак інтарэсы гаспадара аказаліся разнастайнымі — кнігі былі прысвечаны самым розным тэмам. Адна з іх, тоўстая, у пераплёце з цялячай скуры, прыцягнула ўвагу м-ра Эга. Гэта быў трактат XVIII стагоддзя аб вырабе і разліве він. Але ён быў так шчыльна ўціснуты паміж памфлетамі і п'есай Бена Джонсана, што выцягнуць яго не ўдалося. Затым цікаўнасць прымусіла яго падысці да велічнага стала. Недадрукаваная старонка па валіку пішучай машынкі абрывалася на словах: «Гэта думка святога Аўгусціна, хаця Клімент Александрыйскі рашуча заяўляе...» Падобна было, што аўтар адхіліўся на час, каб навесці даведкі ў арыгінале. Адкрыты фаліянт на стале быў не працай святога Аўгусціна і не трактатам Клімента Александрыйскага, а кнігай Арыгена. Побач стаяла металічная шкатулка з наборным замком.

Шчоўканне дзвярной ручкі прымусіла Эга вінавата здрыгануцца і адысці ад стала.

Прафесар Піндар аказаўся чалавекам згорбленым, мітуслівым і да таго валасатым, што крыху напамінаў малпу. Барада яго пачыналася ад скул і закрыла грудзі аж да перадапошняга гузіка яго вопраткі. Цяжкія сівыя бровы навісалі над праніклівымі шэрымі вачыма, накшталт турэмных кратаў. На ім была чорная скуфейка, з-пад якой патокам збягалі сівыя валасы, апускаючыся на каўнер. Вельветавы пінжак яго быў вельмі пацёрты, шэрыя штаны даўно забыліся пра прас, а шкарпэткі хвалістымі складкамі апускаліся на тапачкі. Яго твар (у той частцы, якую было відаць) уражваў худзізной, а гаварыў ён з прысвістам і прышчоўкваннем, прычынай чаго былі, напэўна, дрэнныя зубныя пратэзы.

— Такім чынам, вы той самы малады чалавек, які прадштаўляе вінагандлёвую фірму (шчоўк—шчоўк), — сказаў прафесар. — Шадайце (шчоўк). — Ён паказаў на крэсла, потым, шаркаючы, падышоў да стала і сеў у крэсла. — Вы прынешлі шпіш він... дзе ж ён, а вось (шчоўк) жа ён. Давайце паглядзім. — Ён пахлопаў сябе па кішэні і дастаў акуляры ў металічнай аправе. — Вось! Так! Вельмі цікава. Чаму гэта вы вырашылі наведаць мяне, га?

М-р Эг сказаў, што яму параіў зрабіць гэта прадстаўнік фірмы «Бразерхуд».

— Я падумаў, сэр, — працягваў ён, — што, калі вам так не падабаюцца безалкагольныя напіткі, вы, магчыма, ацэніце што-небудзь больш паўнакроўнае...

— Няўжо, няўжо? — сказаў прафесар. — Вельмі практычна ж вашага боку. Ці ёсць у вас нешта прыстойнае тут? — Ён памахаў спісам він. —Хоць я не веру вінагандляру, які шам шукае пакупніка!

М-р Эг растлумачыў, што з-за растучай канкурэнцыі фірма «Пламет энд Роуз» вымушана была звярнуцца да гэтага метаду.

— Гм, — буркнуў прафесар Піндар. — Ну... — І ён пачаў каменціраваць указаныя ў спісе віны, праяўляючы пры гэтым веды больш чым нечаканыя для пажылога вучонага. Ён паведаміў, што мяркуе закласці невялікі вінны склеп.

М-р аформіў заказ на партвейн вышэйшай маркі, а таксама на некалькі тузінаў бутэлек адборнага бургунскага: усё гэта трэба было даставіць праз месяц, калі склеп будзе гатовы.

— Вы думаеце пасяліцца тут назаўсёды, сэр? — асмеліўся спытаць ён, устаючы.

— А чаму б і не? — гаркнуў прафесар.

— Рады чуць гэта, сэр, — сказаў Монці. — Заўсёды ж прыемна мець добрага кліента.

— Так, вядома, — адказаў прафесар, супакойваючыся. — Ва ўсялякім выпадку, я разлічваю быць тут да тых часін, пакуль не закончу шваю кнігу. Магчыма, на гэта пойдуць гады (шчоўк)! Яна называецца «Гішторыя ранняй хрысціянскай царквы» (шчоўк—шчоўк). — У гэты момант яго сківіцы ледзь не выскачылі, і м-р Эг зрабіў інстынктыўны рух, каб злавіць іх, а потым падумаў: чаму гэта прафесар узяўся за тэму, назву якой ён проста не можа вымавіць?

— Вам гэта, наколькі я разумею, нічога не гаворыць, га? — важна спытаў прафесар, адчыняючы дзверы.

— Нічога, на жаль, сэр, — уздыхнуў м-р Эг, які ведаў, дзе правесці рысу паміж прытворнай цікавасцю і прызнаннем свайго невуцтва, — падобна да Шэкспіра, я дрэнна ведаю лацінскую мову і яшчэ горш грэчаскую, і, баюся, гэта адзінае падабенства паміж намі.

Прафесар рассмяяўся, што было небяспечна для яго зубоў, пасля чаго пачуўся жудасны шчаўчок.

— Місіс Тэбіт, — паклікаў ён, — праводзьце гэтага джэнтльмена.

З'явілася эканомка і выправадзіла м-ра Эга, які рассыпаўся ў падзяках.

«Ну, — падумаў Мантэг'ю Эг, — вось дык загадкавая асоба! Мне зусім не хочацца памыліцца. Цікава, каго б можна пра гэта спытаць?.. Хвілінку. Містэра Грыфіта, вось каго. Ён адразу ўсё зразумее».

Скончыўшы неабходныя справы, ён наведаў свайго кліента і знаёмага, які быў старэйшым партнёрам у паважанай выдавецкай фірме «Грыфіт энд Сібрайт». М-р Грыфіт выслухаў яго вельмі ўважліва.

— Піндар? — сказаў ён. — Я пра яго ніколі не чуў. Ён піша кнігу пра першых бацькоў царквы... Але ж гэтым займаецца доктар Эбкок. Давайце патэлефануем яму. Ало! Гэта доктар Эбкок? Прабачце за клопат... вы калі-небудзь чулі пра нейкага прафесара Піндара, які піша на тую ж тэму, што і вы? Не? Не ведаю. Адну хвіліну.

Ён зняў з паліцы некалькі аб'ёмістых тамоў і бегла прагледзеў іх.

— Відаць, ні ў Англіі, ні ў Шатландыі яму не прысвойвалі прафесарскага звання, — хутка сказаў ён. — Вядома, ён мог атрымаць яго дзе-небудзь за мяжой. У яго быў які-небудзь акцэнт, Эг? Не? Ну, гэта нічога не даказвае. У гэтых дзіўных амерыканскіх універсітэтах кожны можа атрымаць званне прафесара. Ну што ж, гэта не вельмі важна, доктар, не хвалюйцеся. Так, кніга. Мне проста хацелася праверыць. Я пазней дам вам знаць.

Ён павярнуўся да Монці.

— Нічога пэўнага, — сказаў ён, — але вось што я зраблю. Я патэлефаную гэтаму чалавеку, не, лепш напішу яму. Скажу, што чуў пра яго работу і мне б хацелася зрабіць яму прапанову аб публікацыі. Гэта, магчыма, што-небудзь дасць...

Мінуў некаторы час, перш чым м-р Эг атрымаў вестку ед м-ра Грыфіта. Пісьмо пераслалі яму ў графства Йорк, дзе ён быў па звычайных сваіх камерцыйных справах.

«Дарагі Эг!

Я напісаў прафесару і нават атрымаў ад яго адказ і рукапіс, надрукаваны на машынцы. Рукапіс сумненняў не выклікае. Ён цудоўны. Даволі незвычайны, але напічканы вучонасцю зверх усялякай меры. Аднак яго пісьмо, я б сказаў, вельмі няпэўнае. Ён не гаворыць, дзе атрымаў званне прафесара. Магчыма, ён сам яго сабе прысвоіў... Але кніга настолькі добрая, што я пастараюся апублікаваць яе ў нашым выдавецтве. Я напішу загадкаваму прафесару і папрашу яго сустрэцца са мной. Абавязкова паведамлю вам, калі будзе што».

Наступнае пісьмо м-р Эг атрымаў у графстве Лінкальн.

«Дарагі Эг!

Справа становіцца ўсё больш цікавай. Прафесар катэгарычна адмаўляецца са мной сустрэцца і абмеркаваць пытанне аб публікацыі яго кнігі. Эбкока кніга закранула за жывое, і ён напісаў пісьмо з просьбай выслаць яму дадатковую інфармацыю па некаторых спрэчных пунктах рукапісу. Мы ніяк не можам зразумець, чаму гэты, несумненна,

выдатны чалавек невядомы спецыялістам у гэтай галіне. Я думаю, што лепш за ўсё нам звязацца са старым д-рам Уілвертонам. Ён ведае ўсё пра ўсё і пра ўсіх, аднак вельмі эксцэнтрычны і з яго вельмі цяжка што-небудзь выціснуць. Але ў адным вы можаце быць упэўнены: чалавек, які напісаў гэту кнігу, сапраўдны вучоны, так што сумненні былі беспадстаўнымі. Вельмі ўдзячны за тое, што вы расказалі мне пра прафесара Піндара, кім бы ён ні быў. Яго праца выкліча вялікую сенсацыю ў маленькім свеце вучоных...»

Калі м-р Эг вярнуўся ў Лондан, м-р Грыфіт пазваніў яму, і вельмі ўсхваляваным голасам папрасіў прыйсці і пазнаёміцца з д-рам Ловелам Уілвертонам. Сустрэча павінна была адбыцца ў доме Грыфіта. Калі м-р Эг дабраўся туды, ён убачыў, што выдавец і д-р Эбкок сядзяць ля агню, а дзіўны чалавек у клятчастым касцюме раздражнёна бегае па пакоі.

— Дарэмна, — захлёбваючыся, гаварыў д-р Уілвертон, — дарэмна расказваць мне. Я ведаю. Выкладанне пагляд, стыль... усё ўказвае на гэта. Акрамя таго, паслухайце, я бачыў гэты ўрывак аб Кліменце Александрыйскім раней. Бедны Дон! Ён быў адным з самых выдатных вучоных — самы вядомы з усіх, хто калі-небудзь праходзіў праз мае рукі. Я наведаў яго неяк у гэтай жудаснай хаціне на балотах Эсэкса, куды ён накіраваўся пасля... удару, ведаеце... і ён паказаў мне яго тады, гэты рукапіс. Памылка? Ды не, я ніколі не памыляюся. Я часта думаў, куды падзяваўся гэты рукапіс. Калі б я быў у Англіі ў той час, я выратаваў бы яго...

— Пачакайце хвілінку, Уілвертон, — супакойваючы сказаў д-р Эбкок. — Вы занадта хутка выказваеце свае думкі. Вы гаворыце, што «Гісторыя ранняй хрысціянскай царквы» была напісана маладым чалавекам па імені Роджэр Дон, адным з вашых вучняў, які спіўся і памёр у галечы дзесьці на балотах графства Эсэкс. Цяпер гэта кніга знайшлася надрукаванай на машынцы, якой, як вы гаворыце, Дон не карыстаўся,—пад выглядам працы, напісанай старым, які называе сябе прафесарам Піндарам і валодае зараз асабняком «Велінгтонія хаус» у графстве Сомерсет. Так? Вы хочаце сказаць, што гэты Піндар выкраў рукапіс або купіў яго ў Дона? Або што гэта сам Дон, які хаваецца пад відам Піндара?

— Вядома, гэта не Дон, — раззлавана сказаў д-р Уілвертон. — Я ж сказаў вам, што Дона няма ў жывых. Ён памёр у мінулым годзе, калі я быў у Сірыі. Я думаю, што гэты стары самазванец купіў рукапіс на аўкцыёне.

М-р Эг стукнуў сябе далонню па бядры:

— Ну, вядома, сэр, — сказаў ён. — Металічная шкатулка, якую я бачыў на стале. У ёй і быў арыгінал рукапісу, а гэты так званы прафесар проста перадрукоўваў яго на сваёй машынцы.

— Але для чаго? — здзівіўся м-р Грыфіт. — Гэта выдатная кніга, але на ёй наўрад ці можна зарабіць шмат грошай.

— Так, — згадзіўся Монці, — але гэта было б цудоўным доказам таго, што прафесар сапраўды той чалавек, за якога сябе выдае. Дапусцім, што паліцыя пачне рсследаванне: вось вам прафесар, а вось яго кніга, і любы спецыяліст, якому яе паказалі б (акрамя, вядома, доктара Ловела Уілвертона!), прызнаў бы ў ёй працу вельмі вучонага чалавека.

— Паліцыя? — рэзка спытаў д-р Эбкок. — Чаму паліцыя? Хто, на вашу думку, гэты Піндар?

М-р Эг дастаў з кішэні газетную выразку.

— Сэр, — сказаў ён, — гэта нейкі Грынхалт, прапаўшы фінансіст, які збег, прыхапіўшы з сабой капіталы фірмы «Мэмат індастрыз, лімітэд» за тыдзень да таго, як прафесар Піндар пасяліўся ў асабняку «Велінгтонія хаус». Вось яго апісанне: узрост — шэсцьдзесят год, шэрыя вочы, лысы. Упрыгожце яго капной валасоў, дабаўце бутафорскія пратэзы, вельветавы пінжак і скуфейку — і мы атрымаем прафесара Піндара. Я думаю, што з валасамі ён яўна перастараўся. А гэта місіс Тэбіт была сапраўднай дамай. Вось фота місіс Грынхалт. Адкіньце грым і ўлажыце яе валасы ў пучок на патыліцы, і яны стануць



## ПРАФЕСАРА

падобнымі, як дзве гарошыны.

— Божа міласцівы! — усклікнуў м-р Грыфіт. — А паліцыя з ног збілася ў пошуках гэтага чалавека. Эг, я не здзіўлюся, калі вы будзеце мець рацыю. Дайце мне тэлефон. Зараз мы пазвонім у Скотланд-Ярд.

— Падобна, што вы дэтэктыў, містэр Эг, — сказаў пазней вечарам д-р Ловел Уілвертон, калі паступілі весткі аб арышце Роберта Грынхалта ў асабняку «Велінгтонія хаус». — Цікава, што вас падштурхнула да гэтай здагадкі?

— Ну, сэр, — сціпла адказаў м-р Эг, — наогул, я не вельмі кемлівы чалавек, але ў маёй прафесіі цану людзям пазнаеш вельмі хутка. Першае, што здалося мне дзіўным, было тое, што гэты прафесар сустрэўся з маім сябрам з фірмы «Бразерхуд» толькі пасля таго, як даведаўся, адкуль ён і што яму трэба, а потым заявіў, што цярпець не можа безалкагольныя напіткі. Ведаеце, сэр, як правіла, занятыя людзі наогул не выходзяць да коміваяжораў, калі іх не цікавяць прапануемыя тавары. Гэта адна з асноўных цяжкасцей нашай прафесіі. Атрымлівалася, што прафесар хацеў, каб яго бачылі ў ролі прафесара, але толькі тыя, хто не разбіраецца ў кнігах і іншых высокіх матэрыях. Далей, мяне зацікавіла пытанне пра мяса. У асабняк пастаўляліся адбіўныя і біфштэксы, якія прынеслі б задавальненне чалавеку з моцнымі зубамі, а не старому з зубнымі пратэзамі. Але найбольшыя падазрэнні выклікала ў мяне бібліятэка. Я не чытач, калі толькі не трапіцца добры дэтэктыўны раман, але мне прыходзіцца бываць у дамах многіх вучоных джэнтльменаў, і я ніколі не ўпускаю выпадку чаму-небудзь навучыцца. У гэтай жа бібліятэцы былі тры рэчы, якія гаварылі аб тым, што ёй зусім не карыстаюцца. Па-першае, кнігі былі ўсе перамешаны, а не падабраны па раздзелах, як гэта звычайна робіцца. Затым кнігі стаялі вельмі акуратна: вялікія кнігі з вялікімі, маленькія — з маленькімі. І нарэшце, яны стаялі вельмі шчыльна. Ні адзін джэнтльмен, які любіць кнігі або часта імі карыстаецца, не паставіць іх так шчыльна адна да адной — іх вельмі цяжка вымаць, ды да таго ж і пераплёты псуюцца. Мне гэта добра вядома, я пытаўся ў аднаго са сваіх сяброў-букіністаў. Так што, як бачыце, — пераканана сказаў м-р Эг,—можа быць я і не ведаю грэчаскай і іншых прамудрасцяў, але я ні за што не паверу, што гэты стары джэнтльмен прачытаў хаця б адну са сваіх кніг.

— Божа мой, — сказаў д-р Ловел Уілвертон, — які ж вы назіральны чалавек, містэр Эг!

— Ну што ж, я стараюся да ўсяго прыглядацца, сэр... Цікава. Ды і ў рабоце дапамагае...

## Крымінальнае бюро

### Тут вам не Англія

Цікава чытаць дэтэктывы, у якіх дзеянне адбываецца ў «старой добрай Англіі». Але што рабіць, мы жывём у іншых мясцінах і ў іншыя часы, калі не толькі махлярства, але і значна больш цяжкія злачынствы сталі амаль прывычнымі. Мінулы тыдзень аказаўся нешчаслівым для двух 20-гадовых жанчын. Адну з іх, А., жыхарку вёскі Брадок Мінскага раёна, раніцай 8 чэрвеня знайшлі ў сваёй хаце суседзі. Цела жанчыны было ўсё пакрыта сінякамі. Паводле папярэдніх звестак, напярэдадні вечарам у час сваркі яе збіў да смерці сужыцель 1973 г.н., раней судзімы за цяжкае злачынства.

У гэты ж дзень—8 чэрвеня—а палове 11 вечара быў выяўлены труп яшчэ адной жанчыны, жыхаркі гарадскога пасёлка Гарадзея Нясвіжскага раёна, таксама ў сваёй хаце. Падазраваемы ў гэтым злачынстве затрыманы. Вядзецца следства.

### У лепшых традыцыях гестапа

Менавіта так дзейнічалі трое невядомых, якія 3 чэрвеня ў 2.30 ночы ў масках праз веранду праніклі ў дом жыхароў Калінкавічаў па вуліцы Лясной. Злачынцы звязалі дротам рукі гаспадару і яго жонцы і, пагражаючы нажом, забралі 2 тысячы рублёў і залаты ланцужок. Не дапамагло і тое, што нечакана прыйшоў сын гаспадароў: злачынцы збілі і яго і ўцяклі.

А ноччу 8 чэрвеня таксама невядомы і таксама праз веранду пранік у дом адзінокай жыхаркі пасёлка Зялёны Бор Смалявіцкага раёна, 82-гадовай пенсіянеркі. Ён збіў і зграбаваў гаспадыню, пасля чаго адабраў 80 рублёў (відаць, усё, што было ў няшчаснай жанчыны) і знік. Пацярпеўшая знаходзіцца ў бальніцы. Можна толькі здагадвацца, якія праклёны пасылае на галаву свайго гвалтаўніка зняважаная старэча.

### Братоў не выбіраюць

У гэтым яшчэ раз пераканаўся трактарыст з вёскі Боханы Стаўбцоўскага раёна. У ноч на 10 чэрвеня ён разам з малодшым братам, 24-гадовым слесарам мясцовага калгаса імя Пушкіна, вырашыў выпіць. Пасля гэтага брат самавольна ўзяў трактар, які стаяў каля хаты, і на дарозе Стоўбцы—Івацэвіцы сутыкнуўся з матацыклам «Ява-350». Матацыкліст 1973 г. нараджэння загінуў. Хто вінаваты? На Пушкіна, чыё імя носіць калгас, не спіхнеш, як заўсёды...

### «Уладкаваліся»

К., 1963 г. нараджэння і Г., 1968 г. нараджэння, вырашылі, што хопіць «біць лынды», і паехалі ўладкоўвацца на працу ў Гродзенскае прадзільна-ніТачнае аб'яднанне. Але 31 мая, пасля сумеснага распіцця спіртнога, у інтэрнаце прадпрыемства ўчынілі бойку, у выніку якой Г. памёр.

### Пад коламі МАЗа

Так загінула днём 7 чэрвеня вучаніца 2-га класа з вёскі Быстрыцы Капыльскага раёна. Дзяўчынка ехала на веласіпедзе, калі на яе наехаў вялізны аўтамабіль, якім кіраваў 30-гадовы задзіцель калгаса імя Ціміразева.

### Злачынец «з мяккім сэрцам»

9 чэрвеня раней неаднаразова судзімы Ш., 1941 г. нараджэння, учыніў крадзеж сямі норак месячнага ўзросту са звераграспадаркі, што ў пасёлку Сасновы Бор Маладзечанскага раёна. І, відаць, пашкадаваўшы маленькіх зверанят, прыхапіў іх маці.

Другі злачынец, які ў ноч на 9 чэрвеня пранік на звераферму калгаса імя Войкава, што ў Мінскім раёне, аказаўся не такім жа жаласлівым: ён украў пясцоў таксама месячнага ўзросту, але без маці. Колькасць украдзенага ўстанаўліваецца.

### Свята даўжынёй у адзін месяц

Яго зрабіў для сябе наш зямляк, 20-гадовы ваеннаслужачы адной з вайсковых часцей у Калінінградскай вобласці. 9 мая, у Дзень Перамогі, ён самавольна пакінуў месца службы. Яго сляды выявіліся толькі 9 чэрвеня, роўна праз месяц, калі ён узламаў замок і пранік у кватэру жыхара Беразіно і ўгнаў у яго матацыкл. Міліцыя затрымала ўгоншчыка і дэзерціра.

**У бюро дзяжурыў П. СІМАНАЎ.**

## 17, ПАНЯДЗЕЛАК

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**16.25.** Праграма перадач.
**16.30.** Экран дзіцячага фільма. «Кулём цераз галаву». Мастацкі фільм.
**17.40.** «Белая чапля». Мультфільм.
**18.00.** «Незабыўнае». Фестываль фільмаў і тэлепраграм, прысвечаны 50-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «Яшчэ гарыць Хатынь», «Поле памяці». Дакументальныя фільмы.
**19.00.** Панарама. Інфармацыйная праграма.
**19.30** Наш каментарый. Вы нам пісалі...
**19.40.** Да 50-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «Салдат». Тэленарыс пра абаронца Брэсцкай крэпасці У. І. Фурсава.
**20.15.** «...Гады маёй вясны».
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Разгаданая тайна». «Перад уваходам у пекла». Навукова-папулярныя фільмы.
**21.45.** Спартыўны тэлекур'ер.
**22.00.** Ліра. Літаратурна-мастацкі відэаканал.
**23.40.** Рэха дня. Інфармацыйны выпуск.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**6.30.** Раніца.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «У быстрыні раз'юшанай ракі». Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я серыя.
**16.25.** Свет захопленых. «Дамком».
**16.40.** Фільм — дзецям. «Тры вясёлыя змены». («Беларусьфільм»). 1-я серыя «Селюжаня».
**17.45.** Па законах рынку. Эканамісты з Таржка.
**18.15.** Кантакт. Эканамічны агляд.
**18.30.** ТСН. Міжнародны выпуск.
**18.45.** «Запомні песню». Для дарослых і дзяцей.
**19.00.** Прэм'ера шасцісерыйнага дакументальнага савецка-германскага фільма «Няхай будзе праклята вайна». Фільм 1-ы «Манія жыццёвай прасторы».
**19.30.** Л. Бернстайн. Сімфанічныя танцы з мюзікла «Вестсайдская гісторыя».
**19.55.** Прэм'ера тэлевізійнага дзевяцісерыйнага мастацкага фільма «Плач перапёлкі» («Беларусьфільм»). 6-я серыя.
**21.00.** Час.
**21.40.** Прэм'ера фільма-спектакля «Рудольфіо». Аўтар В. Распуцін.
**22.55.** Дабрачынны канцэрт у фонд дапамогі дзецям Чарнобыля.
**0.35.** ТСН.
**0.55.** Прэм'ера тэлевізійнага дакументальнага фільма «Сінайская гара». Аб помніках хрысціянскай і ісламскай рэлігіі ў Егіпце.
**1.40.** Прэм'ера тэлевізійнага дзевяцісерыйнага мастацкага фільма «Плач перапёлкі». 6-я серыя.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**19.15.** Камера даследуе мінулае. «Жданаў — пратэжэ Сталіна». Дакументальны фільм.
**20.00.** Весткі.
**20.15.** Добрай ночы, малышы!
**20.30.** «Спыніся, імгненне».
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.40.** На сесіі Вярхоўнага Савета СССР.
**22.25.** Мы з краіны «Сіняго-р'е». Перадача з Чыты.
**23.00.** Весткі.
**23.15.** Калаж.
**23.20.** «Сеанс адначасовай гульні». Тэлевізійны мастацкі фільм.

## 18, АЎТОРАК

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі. Інфармацыйны выпуск.
**8.40.** Праграма перадач.
**8.45.** «Незабыўнае». Фестываль фільмаў і тэлепраграм, прысвечаных 50-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «Узяць жывым». Тэлевізійны трохсерыйны мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**16.25.** Праграма перадач.
**16.30.** Экран дзіцячага фільма. «Рысь вяртаецца». Шырокаэкранны мастацкі фільм.
**17.40.** «Замочак з сакрэтам». Мультфільм.
**18.00.** «Незабыўнае». Фестываль фільмаў і тэлепраграм, прысвечаны 50-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «Брэсцкая крэпасць». Дакументальны фільм.
**18.55.** Наш каментарый. Рыцары і махляры.
**19.00.** Панарама. Інфармацыйная праграма.
**19.30.** Факты і меркаванні. Рэспубліка выбірае шлях.
**20.00.** Вецер вандраванняў. Тэлевізійнае падарожжа.
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** Футбол. Чэмпіянат СССР. «Хімік» (Гродна) — «Дынама» (Гянджа). 2-гі тайм.
**21.50.** На сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**12.15.** Актуальны рэпартаж.
**12.30.** В. Распуцін. «Рудольфіо». Фільм-спектакль.
**13.45.** Прэм'ера тэлевізійнага дакументальнага фільма «Мост».
**14.35.** Любімыя вальсы. Канцэрт.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «У быстрыні раз'юшанай ракі». Тэлевізійны мастацкі фільм. 2-я серыя.
**16.30.** Свет захопленых. «Пад знакам Рыбы».
**16.45.** «Сініччын каляндар. Лета ». Мультфільм.
**16.55.** Фільм — дзецям. «Тры вясёлыя змены». 2-я серыя «Памылка Мікошы».
**18.00.** Наш сад.
**18.30.** ТСН. Міжнародны выпуск.
**18.45.** «Найда». Мультфільм.
**19.00.** Прэм'ера шасцісерыйнага дакументальнага савецка-германскага фільма «Няхай будзе праклята вайна». Фільм 2-гі «Нападзенне».
**19.35.** «Мастацтва маладых». И. Гайдн. Канцэрт для трубы з аркестрам мі-бемоль мажор. Выконваюць С. Накаракаў і камерны аркестр «Віртуозы Масквы» пад кіраўніцтвам У. Співакова.
**19.50.** Прэм'ера тэлевізійнага дзевяцісерыйнага мастацкага фільма «Плач перапёлкі». 7-я серыя.
**21.00.** Час.
**21.40** «Праводзілі мяне на вайну». Пісьменнікі аб вайне.
**22.40.** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.50.** Упершыню на экране ЦТ. Мастацкі фільм «Горад Зеро».
**0.30.** ТСН.
**0.50.** Танцуе В. Пісараў.
**1.50.** Прэм'ера тэлевізійнага дзевяцісерыйнага мастацкага фільма «Плач перапёлкі». 7-я серыя.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**20.00.** Весткі.
**20.15.** Добрай ночы, малышы!
**20.30.** Рытмічная гімнастыка.
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.40.** На сесіі Вярхоўнага Савета СССР.
**22.25.** Прэм'ера дакументальнага фільма «За фасадам». Пра экалагічную абстаноўку ў Краснаярску. Цыкл «Зямля трывогі нашай».
**22.50.** Мультфільм для дарослых.
**23.00.** Весткі.
**23.15.** «Пятае кола». Мастацка-публіцыстычная праграма.

## 19, СЕРАДА

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі. Інфармацыйны выпуск.
**8.40.** Праграма перадач.
**8.45.** «Незабыўнае». Фестываль фільмаў і тэлепраграм, прысвечаны 50-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «Узяць жывым». Тэлевізійны трохсерыйны мастацкі фільм. 3-я серыя.
**16.25.** Праграма перадач.
**16.30.** «Віталь Біянкі». Тэлевізійны фільм.
**17.30.** Экран дзіцячага фільма. «Аліса ў Краіне цудаў». Мультфільм. 1, 2, 3-я серыі.
**18.00.** «Незабыўнае». Фестываль фільмаў і тэлепраграм, прысвечаны 50-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай найны. «Халады ў пачатку вясны». Кароткаметражны мастацкі фільм.
**18.30.** Панарама. Інфармацыйная праграма.
**19.00.** Футбол. Чэмпіянат СССР. «Чарнаморац» (Адэса) — «Дынама» (Мінск).
У перапынку **(19.45)** — Наш каментарый. Кола згоды.
**20.50.** Калыханка.
**21.05.** Тэлевізійныя дакументальныя фільмы «Сказ пра «царыцу ваз», «Беламорскія ўзоры».
**21.40.** Рэклама.
**21.45.** На сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**12.00.** ТСН.
**12.15.** Дзелавы кур'ер.
**12.30.** «Горад Зеро». Мастацкі фільм.
**14.10.** Прэм'ера дакументальнага фільма «Асобы геаграфічны пункт». Аб касмадроме Байканур.
**14.30.** Мультфільмы «Баранкін, будзь чалавекам», «Дом, які пабудаваў Джэк».
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «Мелодыя на два галасы». Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я серыя.
**16.25.** Свет захопленых. «Увага, здымаю».
**16.40.** Фільм — дзецям. «Тры вясёлыя змены». 3-я серыя «Тайна Фенімора».
**17.45.** Музычная скарбніца. С. Танееў. Сімфонія № 4 до мінор. Выконвае Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Саюза ССР. Дырыжор Я. Святланаў.
**18.30.** ТСН. Міжнародны выпуск.
**18.45.** Дзелавы кур'ер.
**19.00.** Прэм'ера шасцісерыйнага дакументальнага савецка-германскага фільма «Няхай будзе праклята вайна». Фільм 3-ці «Ілюзія Перамогі».
**19.30.** «Ты прыпомні, Расія...». Успамінае народная артыстка СССР Н. Сазонава.
**19.55.** Прэм'ера тэлевізійнага дзевяцісерыйнага мастацкага фільма «Плач перапёлкі». 8-я серыя.
**21.00.** Час.
**21.40.** Чалавек і закон.
**22.55.** Песня-91.
**23.50.** ТСН.
**0.10.** «Мелодыі даўніх гадоў». Кінаканцэрт.
**1.00.** Мультфільмы для дарослых. «Справа ў капелюшы», «Калодзеж»: «Ліса, мядзведзь і матацыкл з каляскай», «Намаляваць пачатак».
**1.40.** М. Маскоўскі. Сімфанічная паэма «Аластор».
**2.00.** Прэм'ера тэл. 9-серыйнага мастацкага фільма «Плач парапёлкі». 8-я серыя.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**18.30.** Мультфільмы.
**19.00.** Футбол. Чэмпіянат СССР. «Дынама» (Кіеў) — ЦСКА. Трансляцыя з Кіева.
У перапынку **(19.45)** — Весткі.
**20.45.** Добрай ночы, малышы!
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.40.** Калаж.
**21.45.** На сесіі Вярхоўнага Савета РСФСР.
**22.30.** Канцэртная сюіта з балета П. І. Чайкоўскага «Спячая прыгажуня».
**23.00** Весткі.



**23.15.** «Ён, яна і дзеці». Тэлевізійны мастацкі фільм.

## 20, ЧАЦВЕР

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі. Інфармацыйны выпуск.
**8.40.** Праграма перадач.
**8.45.** «Незабыўнае». Фестываль фільмаў і тэлепраграм, прысвечаны 50-годдзю Вялікай Айчыннай вайны. «Доўгія вёрсты вайны». Тэлевізійны трохсерыйны мастацкі фільм. 1-я серыя «Жураўліны крык», 2-я серыя «Атака з ходу».
**16.25.** Праграма перадач.
**16.30.** Экран дзіцячага фільма. «Разумныя рэчы». Тэлевізійны мастацкі фільм. 1-я серыя.
**17.35.** «Дзень цудаў». Фільм-канцэрт.
**18.00.** «Незабыўнае». Фестываль фільмаў і тэлепраграм, прысвечаны 50-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «У вайны не жаночы твар». Фільмы 1, 2, 3-ці.
**18.45.** «Аўтапартрэт з кветкамі». Тэлевізійны фільм.
**19.00.** Панарама. Інфармацыйная праграма.
**19.30.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.35.** Да 50-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «Зямлі яшчэ баліць». Літаратурная кампазіцыя па вершах П. Панчанкі.
**20.20.** «Мілы гай». Фільм-канцэрт.
**20.30.** Тыдзень беларускага ўрада. Служба інфармацыі Савета Міністраў БССР паведамляе...
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Незнаёмы і дзівосны свет», «Сібіры векавая прыгажосць». Тэлевізійныя дакументальныя фільмы.
**21.40.** Рэклама.
**21.45.** На сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**6.30.** Раніца.
**9.05.** Прэм'ера тэлевізійнага дзевяцісерыйнага мастацкага фільма «Плач перапёлкі». 9-я серыя.
**10.10.** Чалавек і закон.
**11.25.** Песні ваенных гадоў у выкананні народнай артысткі СССР Л. Гурчанкі.
**12.00.** ТСН.
**12.15.** «Казка пра Бачо і яго маму». Мультфільм.
**12.35.** Дзіцячая гадзіна (з урокам англійскай мовы).
**13.35.** Мастацтва і кааперацыя.
**14.05.** Песня-91.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «Мелодыя на два галасы». Тэлевізійны мастацкі фільм. 2-я серыя.
**16.30.** Свет захопленых. «Птушкі побач з намі».
**16.45.** «Скарбы затанулых караблёў». Мультфільм.
**17.00.** «В'етнам. Будні і святы».
**17.45.** ...Да 16 і старэйшым.
**18.30.** ТСН. Міжнародны выпуск.
**18.45.** Мультфільмы «Крот у заапарку», «Крот і зялёная зорка» (ЧСФР).
**19.00.** Прэм'ера шасцісерыйнага дакументальнага савецка-германскага фільма «Няхай будзе праклята вайна». Фільм 4-ы «Бітва за Ленінград»
**19.30.** М. Равель. Другая сюіта з балета «Дафніс і Хлоя».
**19.50.** «Зямля — наш агульны дом». Тэлевізійны фотаконкурс.
**19.55.** Прэм'ера тэлевізійнага дзевяцісерыйнага мастацкага фільма «Плач перапёлкі». 9-я серыя.
**21.00.** Час.
**21.40.** Паводле зводак МУС СССР.
**21.55.** Фестываль салдацкай песні.
**0.10.** ТСН.
**0.30.** Канцэрт аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Дзяржтэлерадыё СССР. Дырыжор Пітэр Цібарыс (ЗША).
**1.30.** «Байкальскія старыя». Тэлевізійны дакументальны фільм.
**2.20.** Прэм'ера тэлевізійнага дзевяцісерыйнага мастацкага фільма «Плач перапёлкі». 9-я серыя.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**20.00.** Весткі.
**20.15.** Добрай ночы, малышы!
**20.30.** Індыйскае дваяборства. Перадача з Крылацкага.
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.40.** На сесіі Вярхоўнага Савета РСФСР.
**22.30.** Музычныя навіны.
**22.45.** Рыгор Бакланаў. Прашу слова.
**23.00.** Весткі.
**23.15.** Крымінальны канал. «Зусім сакрэтна».

## 21, ПЯТНІЦА

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі. Інфармацыйны выпуск.
**8.40.** Праграма перадач.
**8.45.** «Незабыўнае». Фестываль фільмаў і тэлепраграм, прысвечаны 50-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «Доўгія вёрсты вайны». Тэлевізійны трохсерыйны мастацкі фільм. 3-я серыя. «На світанні».
**16.25.** Праграма перадач.
**16.30.** Экран дзіцячага фільма. «Разумныя рэчы». Тэлевізійны мастацкі фільм. 2-я серыя.
**17.35.** «Новая грань». Фільм-канцэрт.
**18.00.** «Незабыўнае». Фестываль фільмаў і тэлепраграм, прысвечаны 50-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «У вайны не жаночы твар». Фільмы 4, 5, 6-ы.
**19.00.** Панарама. Інфармацыйная праграма.
**19.30.** Наш каментарый. А заўтра была вайна...
**19.35.** Паказвае Брэст. Буг. Літартурна - мастацкі часопіс.
**20.05.** «Дзялюся патаемным...». Фільм-канцэрт.
**20.40.** Рэклама.
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Каб горан не згас», «Млын». Тэлевізійныя дакументальныя фільмы.
**21.45.** На сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**6.30.** Раніца.
**9.05.** Мультфільмы «Гугуцэ», «Парта Гугуцэ», «Гугуцэ-паштальён».
**9.35.** Канцэрт аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Дзяржтэлерадыё СССР. Дырыжор Пітэр Цібарыс (ЗША).
**10.35.** «Шкоднік». Мультфільм.
**10.45.** Крыніцы.
**11.15.** ...Да 16 і старэйшым.
**12.00.** ТСН.
**12.15.** Фестываль салдацкай песні.
**14.30.** «Калі і старасць у радасць». Аб доме ветэранаў сцэны імя А. Яблачкінай.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «Эквілібрыст». Тэлевізійны мастацкі фільм.
**16.30.** 1991 — год Моцарта. Сімфоніі №№ 5 і 29. Выконвае Літоўскі камерны аркестр. Дырыжор — народны артыст СССР С. Сандэцкіс.
**17.00.** Хвіліны паэзіі.
**17.05.** Фільм — дзецям. «Аддаць швартовы!».
**18.30.** ТСН. Міжнародны выпуск.
**18.45.** А. Скрабін. «Паэма экстазу». Выконвае Вялікі сімфанічны аркестр Дзяржтэлерадыё СССР. Дырыжор — народны артыст СССР У. Федасееў.
**19.00.** Прэм'ера шасцісерыйнага дакументальнага савецка-германскага фільма «Няхай будзе праклята вайна». Фільм 5-ы «Крэмль у Візіры».
**19.30.** Выступае лаўрэат тэлерадыёконкурсу «Галасы Расіі» С. Гаршуноў.
**19.40.** «Па законах ваеннага часу». Мастацкі фільм.
**21.00.** Час.
**21.40.** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.50.** «ВіД» прадстаўляе: «Поле цудаў», «Музагляд», «Справа», «Эльдарада».
У перапынку **(23.50)** — ТСН.
**1.20.** «Поўнач і зноў світанне». Дакументальны фільм пра мастачку-лялечніцу Е. Берданосаву.
**1.50.** «Па законах ваеннага часу». Мастацкі фільм.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**7.00.** Раніца дзелавога чалавека.
**8.00.** Ранішняя гімнастыка.
**8.20.** «Кале і Бука». Мультфільм.
**17.00.** «Мая вайна». Фільм нямецкага рэжысёра Т. Куфуса.
**18.30.** «Алах Акбар». Дакументальны фільм.
**18.55.** Свет, у якім мы жывём. Фільмы рэжысёра Ю. Ледзіна. «На радзіме белых мядзведзяў».
**20.00.** Весткі.
**20.15.** Добрай ночы, малышы!
**20.30.** Ключ да сусветнага рынку.
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.40.** На сесіі Вярхоўнага Савета СССР.
**22.25.** Калаж.
**22.30.** На сесіі Вярхоўнага Савета РСФСР.
**23.00.** Весткі.
**23.15.** «Пятае кола». Мастацка-публіцыстычная праграма.

## 22, СУБОТА

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**11.00.** Тыдзень планеты. Міжнародны агляд.
**11.15.** Да 50-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «Толькі гадзіна пятнаццаць». Тэленарыс пра лётчыка Леаніда Бутэліна, які ажыццявіў паветраны таран у першы дзень вайны.
**11.40.** Рэха вайны. Па пісьмах тэлегледачоў.
**12.00.** Г. Вагнер. «Сцяжынаю жыцця». Спектакль Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР.
**14.00.** Тэлевізійны дзіцячы дзень. 1. Падказкі на манжэтах. Практычныя парады дзяўчынкам. 2. Вітаем вас! Рэспубліканскі агляд мастацкай самадзейнасці школ-інтэрнатаў.
**15.20.** Да 50-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «...Роўна ў чатыры гадзіны».
**16.40.** «Праз усю вайну». Фільм-канцэрт з удзелам Дзяржаўнага ансамбля БССР «Песняры».
**17.00.** Тэлевізійны дзіцячы дзень. «Пакуль я жывы, я з табою». Тэлевізійны спектакль па пісьмах ленінградскіх школьнікаў.
**17.45.** Сустрэча для вас. У студыі ветэраны Вялікай Айчыннай вайны. Прамая лінія.
**18.45.** Музыка маёй рэспублікі. Э. Наско. Вакальна-сімфанічны цыкл «Сей зерне».
**19.00.** Панарама. Інфармацыйная праграма.
**19.30.** «Спявае Клаўдзія Шульжэнка». Фільм-канцэрт.
**20.35.** «Дзевятая застава». Дакументальны фільм.
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Дом ля дарогі». Фільм-балет.
**21.40.** Рэклама.
**21.45.** «Узыходжанне». Мастацкі фільм.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**8.50.** Наш сад.
**9.20.** Мультфільмы «Мяшок яблыкаў». «Тайна залатых туфлікаў».
**9.50.** «Бурда модэн» прапануе...
**10.20.** «Дару, што памятаю».
**10.55.** Ранішняя зорка.
**11.55.** Прэм'ера тэлевізійнага дакументальнага фільма.
**13.25.** У свеце казак і прыгод. «Чароўная лямпа Аладзіна». Мастацкі фільм.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «Пераможцы».
**16.15.** Сустрэча з Чырванасцяжным.
**17.15.** «Ноч нараджэння». Мультфільм.
**17.30.** А. Эшпай. Сімфонія № 5. Выконвае Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр СССР. Дырыжор народны артыст СССР Я. Святланаў.
**18.00.** Міжнародная панарама.
**18.45.** Хвіліны паэзіі.
**18.55.** Прэм'ера шасцісерыйнага дакументальнага савецка-германскага фільма «Няхай будзе праклята вайна». Фільм 6-ы «Пачатак канца».
**19.25.** Канцэрт рускага харэаграфічнага і песеннага фальклору.
**19.55.** «Гэта мы, божа». Тэлевізійны мастацкі фільм.
**21.00.** Час.
**21.40.** «Масква — Брэст — Берлін». «Новая дарога». Перадача з Брэста.
**23.30.** ТСН.
**23.50.** «Яго пахавалі ў шар зямны». Дак. фільм («Беларусьфільм»).
**0.35.** «Гэта было мінулым летам». Тэл. маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.

*Фельетон*

# «Исправники-шавки» ля няспраўных шафак



Аднаго разу ў Армянскага радыё спыталі: а што агульнага паміж Мінскім чыгуначным вакзалам і басейнам Беларускай політэхнічнай акадэміі? Армянскае радыё адразу і, не сумеўшыся, адказала:

— Там ест элэктрычэскиэ камэры хранэныя, такиэ балшыэ-балшыэ ящыки, гдэ луды аставлают сваи дарагиэ, любимыэ и радныэ штучкы.

Сапраўды, з нядаўняга часу кіраўніцтва басейна БПА, на манер чыгуначнікаў, усталявала ў раздзявалках замест драўляных бялюткіх шафак нязручныя, змрочнага колеру электрасейфы, якія знешне нагадваюць савецкую ЭВМ першага пакалення ЕС-1022, а функцыянальна прадвызначаны ахоўваць адзенне плыўцоў пад час іхніх коўзанняў у хлорыраванай вадзе. Прычым сістэма кадзіравання басейнавых электрасейфаў і вакзальных камер амаль аднолькавая: тыя ж піпачкі з алфавітам і лічбамі, той жа званочак пад час экстраннага адкрыцця.

Разам з гэткай радаснай акалічнасцю ёсць у канструкцыях і нейкія адрозненні. Па-першае, электрасейфы не патрабуюць укідвання ў іх грошай, па-другое, дзверцы электрасейфаў адчыняюцца не заўсёды і не для кожнага. У апошнім я пераканаўся сам, калі...

Пасля плавальнага сеанса, як звычайна, вярнуўся ў раздзявальню, каб апрануцца. Набліжаюся да свайго электрасейфа, набіраю код і... дзверцы нібы прымерзлі да скрыні. Розуму не прыстаўлю, што ж такое здарылася? Нумар шафкі 28, код — першая літара майго імя, лічба — год нараджэння. Дзверцы нават не рыпнулі. Як быў, у плаўках, падыходжу да дзяжурнай, што пільна сочыць, каб наведвальнікі своечасова скідалі чаравікі і не пэцкалі сваім абуткам ейную падлогу. Дык вось, падыходжу я да дзяжурнай і кажу з самаіроніяй:

— Пэўна, мне сёння дамоў у плаўках ісці?

— ...— здзіўлена зірнула бабулька са свайго КПП.

— Шаноўная, шафка мая не адчыняецца,..а?

— Прыгадай код, яна і адчыніцца.

— Дык я ж... дык я ж свой код набіраў, а яна...

— Значыцца, не свой. Ці свой, але ў чужой шафцы.

«Можа і сапраўды памыліўся,— стаю ў адных плаўках і глуздом рухаю,— не, памылкі быць не можа — акрамя хлорыраванай № 4, нічога не піў». Сабраўся, што меў духу і зноў да бабулькі звяртаюся:

— Не адчыняецца мая шафка. Відаць, зламалася.

— Сам ты зламаўся. Мо галавой у борцік ляснуўся, а цяпер кода не прыгадаеш.

Знерухомеў я ад такой «навуковай» гіпотэзы, пачухаў патыліцу і ўявіў, як прыцемкамі буду красціся ўздоўж Ленінскага праспекта да Свіслачы, а затым цячэннем сплыву да Пуліхава, а там, кароткім подбегам, паўз цікуючых сабак, прабяруся на сваю родную Захарава.

А тут яшчэ й трэнер не ў час пажартаваў:

— Наступная трэніроўка праз дзень. Трымайся, не сумуй. Я табе бутэрбродаў прынясу.

Гляджу, амаль усе апрануліся, на мяне як на нудзіста глядзяць, усміхаюцца. Набраўся я нахабнасці ды зноў да дзяжурнай:

— Ваша ягамосць, можа б ключык які аварыйны?..

І дзяжурная, як мыла з'еўшы, прынялася лаяць мяне, электрычнасць ды злачынцаў, з-за якіх усталявалі сейфы. Але з кішэні ключык усё ж такі выняла. Звонку гэты ключык нагадваў адкрыўку для піўных бутэлек.

— На, трымай, у мяне ўжо рукі баляць гэтыя вашы шафкі адчыняць. Сам адчыніш.

Хутка высветлілася, што адкрыўка патрэбна, як кашаль да хваробы. Замок, высветлілася, больш складанай канструкцыі, як піўны корак.

Ці так, ці сяк, варушыў я адкрыўкай — і ўсё дарэмна. Хоць парвіся, жалеззе не цяміла маёй бядоты. Дзяжурная знешне выглядала халаднейшай за жалеззе, а голасам нагадвала надфіль, якім дурні перапільваюць рашпіль:

— Забываюць яны коды.., коды яны забываюць.., яны коды забываюць.., коды забываюць яны..

Дзверцы не адчыніліся ані на мікрон.

— Можа б вы схадзілі па слесара?

— А ты што — бязногі?

— Ды не, я бясштанны.

— Забываюць яны коды, коды яны забываюць, нямашака ў нас слесара!

«А чаго гэта я падтуліў хвост? — знечаку пракнула мне ў мокры голаў, — я ж не вінаваты, усё рабіў згодна з інструкцыяй... Наогул, а раптам я спазняюся на цягнік ці мяне чакае ў загсе маладая? Што гэта я забыўся на Дэкларацыю правоў чалавека?»

— Адчыніце маю шафку! — змяніў я жабрацкую інтанацыю на афіцыйна-грамадзянскую і дадаў голасам Левітана,— я патрабую сваю адзежу!

Дзяжурная кінула на мае плаўкі дзяжурны позірк і ў лепшых традыцыях аўтобуснага гумару адпарыравала:

— А мне якая справа да твайго адзення?

— Я патрабую сваё адзенне! Або адваката!

— Ды ён п'яны!

— Я патрабую правесці судова-медыцынскую экспертызу і высветліць, ці п'яны я!

— Ды ён вар'ят!!!

— Не атрымаецца, цяпер не 37-ы год. Не трэба прычэпліваць ярлыкі!

У гэты момант хтосьці з хлопцаў узяў з маёй рукі адкрыўку і пачаў корпацца ў замку. А гармідар тым часам працягваўся:

— Што ты языком менціш? Пры чым тут гады Сталіншчыны?

— У 37-м не было электрычных сейфаў. У 37-м злодзеяў расстрэльвалі. Украў — трах-тах! Знёс — бах-пах!

Дзяжурная вылупіла вочы і глядзела, як быццам бы ў мяне замест плавак быў жаночы бюстгальтар.

У гэты самы кульмінацыйны момант чэхаўская стрэльба стрэліла: дзверцы сейфа адчыніліся — і я кінуўся апранацца, зрабіўшы гэта хутчэй, як салдат-карацінішчык, калі той скокае з другога яруса ў стаячыя на падлозе кірзачы.

Але на гэтым мае прыгоды не скончыліся. Пад час адкрыцця шафкі згубілася нейкая «пластмасавая скула» і званочак вішчэў, што парсючок за гадзіну да свежыны.

— Украў! Ён украў казённую пластмасавую скулу! — нібыта ў сабак вачэй пазычыўшы, лямантавала мая куратарка.

Набегла люду. На мяне зноў глядзелі ўздоўж і ўпоперак. Некаторыя нават асуджалі:

— Што ты здзекуешся са старой жанчыны? Вярні ты ёй тую «пластмасавую скулу».

**СТОП! Тут трэба спыніць мастацкі пераказ здарэння і наблізіцца да сутнасці фельетона. У каторы раз пераносіцца глупства з хворай галавы на здаровую! Пасля адкрыцця электрасейфа ўсе ўбачылі, што код не быў пераблытаны. Проста «электроніка» не спрацавала. І ўсё ж такі натоўп патрабаваў адшукаць вінаватага. Спрадвеку на Русі вядзецца: хто чаго не ўчыніць, а «жыд ці студэнт заўсёды застаюцца ў адказе».**

**Расследаванне працягнулася ў кабінеце дырэктара басейна. Я патрабаваў сатысфакцыі. Дзе там! У свіныя галасы пачалося адшукванне праўды. Праўды, якая трох шэлегаў не вартая. Як, дарэчы, і ўся гэта мізэрная гісторыя. Мізэрная і адначасова тыповая для нашай беднай-багатай краіны. Бо не ў мізэр жа абышліся тыя электрасейфы, усталяваныя ў раздзявальнях. 98 тысяч 200 рублёў скарыстана на іх набыццё і размяшчэнне. А колькі грошай яшчэ пойдзе на карыстанне электрычнасцю ды на рамонт? На жалеззе ў дырэкцыі сродкаў хапіла, а вось на ўтрыманне аднаго кампетэнтнага спецыяліста — электрыка грошай не знайшлося. Відаць, лепей трымаць у штаце бязглуздых і сварлівых дзяжурных, якія стаяць ля шафак і нагадваюць наведвальнікам басейна: «Не зачыняйце электрасейфы. Бо ўсё роўна вы іх не адчыніце!»**

**Андрэй СМІРНОЎ.**

Міхась СКРЫПКА

## На пароме

### СУЧАСНАЯ БАЙКА

Паром праз бурную раку
Ішоў занадта ціха,
І раптам бура! Ну, адкуль,
Адкуль такое ліха?

А на пароме мужыкі —
Гарачыя галовы.
(Спрачаліся шчэ да ракі
Наконт перабудовы).

Тут паднялася калаўня,
Крычаць, згубіўшы меру.
Адны крычаць:
— Давай назад!
— Куды назад? Наперад!

Схапіліся ўсе за канат:
Уперліся абапал.
А той канат
Быў гнілават
І разарваўся напал.

І паляцелі на хаду —
«Назад», «наперад» у ваду.
Той-сёй да берага даплыў,
А хто крычаў не ў меру,
Той рыбкам бурбалкі пусціў,
Ім трапіў на вячэру.

Скажу адкрыта, наўпрастак,
Без лішняе маралі.
А хіба ў нас не так
«Праблемы» ўсе рашалі?




Дзяжурны рэдактар А. ПАЛЫНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМ Беларусі

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга

АДРАС рэдакцыі: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 77

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная — 32-13-54, аддзел пісьмаў і сацыяльных праблем—32-50-01

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, г. Мінск. Індэкс 63906



Зак. № 24.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12